ВОЙЦЕХ ПЭСТКА

# ДА СУСТРЭЧЫ Ў ПЕКЛЕ

## Ускраінны апакаліпсіс: рэпартажы

*«Глядзець так, каб убачыць, слухаць так, каб пачуць...»*

Мінск
«Кнігазбор»
2020

УДК 821.112.2-31
ББК 84(4Нем)-44
П97

*Пераклад*
*Паўла Ляхновіча*

*Пераклад зроблены паводле выдання:*
*Wojciech Pestka. Do zobaczenia w piekle. Kresowa apokalipsa.*
*Reportaże.Wydawnictwo Wysoki Zamek 2019*

**Пэстка, В.**
П97 Да сустрэчы ў пекле. Ускраінны апакаліпсіс: рэпартажы / Войцех Пэстка ; пер. з пол. П. Ляхновіча. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 176 с.
ISBN 978-985-7207-29-9.??

Анатацыя.

**УДК 821.112.2-31**
**ББК 84(4Нем)-44**

**ISBN 978-985-7207-29-9**



## Кніга пяску
## Падарожжа першае — прастора маніпуляцыі

І воплескі рук, і гнеўны лямант
Утваралі шум, у чорным паветры
Ляцелі віхуры, круціліся ў вяках
Нібыта пыл, падняты ураганам.

*Дантэ Аліг'еры «Боская камедыя»,*
*Пекла, песня III*

## КАЛАЖ
## З ЧЭЗЛЫМ МАЛАДЗІКОМ НАД ГОРАДАМ

Палову горада з'яўляліся палякамі, палова — украінцамі, трэцяя палова — яўрэямі. Паўтары горада. Усяго, паводле дадзеных 1921 года, Драгобыч налічваў 26736 жыхароў. Я пераглядаю старыя паштоўкі. Кірмаш. Бязладна раскіданыя сялянскія фурманкі, доўгія халаты хасідаў, кабета ў белай, па костачкі, сукенцы і гэткім жа белым капелюшы, кацялкі, брычкі, мяшкі, над якімі быццам молячыся схіліліся два яўрэі.

Панядзелак, час замкнуты ў зачараваным крузе чаргі дзён. Панядзелак запісаны ў павольны калейдаскоп пораў года. Вядома толькі, што на кірмашы ў Драгобычы самы вялікі гандаль якраз у панядзелак. Не чуваць грукату драўляных колаў, не змешваецца з крыкамі гандляроў іржанне коней. Шматкі надпісаў на шыльдах, якія можна прачытаць толькі пад лупай «…Таварыства», «Тэафіл Яблоньскі», «Склад», «Фризйер». Вакол ратушы драўляныя будкі шапікаў з выстаўленым перад дзвярыма таварам. Прамінулы свет пад шчыльным покрывам маўчання. Кніга пяску.

Увечары асцярожна, абмінаючы лужыны, я іду па драўляных ходніках вуліцы Сольны Ставак. Пазіраю на купку драўляных дамкоў, пастаўленых абы-як, забітых накрыж дошкамі, з завешанымі да паловы вокнамі, у якіх буяе герань. На шнурах, нацягнутых у садзе паміж здзічэлымі яблынямі шарэе пасцельная бялізна. Пуста. Людзі, што жывуць тут, стаіліся за замкнёнымі дзвярыма пакрыўленых хацінаў, нібыта хочуць перачакаць, абмінуць гэты чужы, зацыклены час. Над іржавымі дахамі, збоку ад касцельнай вежы, невясёлы, бледны нібыта з лубочнага малюнка, маладзік. Тут, у Драгобычы, 12 ліпеня 1892 года нарадзіўся,



паводле запісу ў метрычнай кнізе як «пазашлюбнае дзіця», Бруна Шульц, малодшае дзіцятка Якуба Шульца, уладальніка крамы тэкстыльных вырабаў, і Гэндэль Генрыеты з дому Кугмеркер. *«Тэкст акту адзначае, што бацька дзіцяці «прызнаў бацькоўства» і дня 8.Х.1892 г заключыў «з маці таго дзіцяня» сужонскую сувязь паводле патрабаванняў грамадзянскага статута».* — дадам за Ежы Фіцоўскім малавядомы факт. Гэта толькі фармальная фігура ў чыноўніцкай танцавальнай працэдуры. Яго бацькі пабраліся шлюбам раней — паводле прынцыпаў веры, сапраўдным у вачах Бога, але недастатковым у святле абавязковага ў Галіцыі права. Чыноўніцкі тэрмін «былыя гаспадары рэальнасці» ўжыты ў метрычным дакуменце для вызначэння памерлых бацькоў маладой панны, гучыць у тым кантэксце паэтычна і па-філасофску грунтоўна, як малітва, заклінаючая тагасветную рэчаіснасць.

Ужо ніхто з жывых не можа ў Драгобычы памятаць Якуба, бацьку Бруна Шульца. Ён памёр 22 чэрвеня 1915 года, і ў тым самым годзе згарэў дом 12 каля рынку, дзе месцілася крама. І застаецца нам толькі запісаны Ежы Фіцоўскім урывак паведамлення доктара Каўфмана: *«Крама была пад кіраўніцтвам фірмы «Гарыета Шульц» і знаходзілася ў пачатку вуліцы Міцкевіча адразу каля ювелірнай крамы Юзафа Гамэрмана. Я часта бачыў Якуба Шульца, які сядзеў перад крамай — звычайна ўлетку — часцей за ўсё ў нядзелю перад апоўднем, калі крама афіцыйна была зачынена, а ён сустракаўся з кліентамі, што прыязджалі з Барыслава».*

«Галіцыйская Аклахома» — казалі пра Барыслаў. Невялікае мястэчка паблізу Драгобыча дзякуючы неглыбока залягаючай нафце атрымала імклівы ўздым. Невымоўныя багацці ўзнікалі тут з дня на дзень. Мястэчка брыняла, прыцягваючы беспрацоўных, спекулянтаў і махляроў — «шукальнікаў скарбаў». Штодзень выраслалі новыя, наспех зляпаныя адна ля другой прымітыўныя нафтавыя свідравіны. Раскоша і багацце суседнічалі тут

з бязмежнай галечай. Цягам некалькіх гадоў ад пачатку эксплуатацыі гэтае забытае Богам мястэчка апынулася на трэцім месцы ў свеце па здабычы. Тысяча трыста свідравін, дзесяць тысяч працаўнікоў. Турыстычныя бюро ў сваіх рэкламах пералічвалі пажары на нафтавых свідравінах як найлепшыя атракцыёны Барыслава.

Альфрэд Шрэер, з якім я размаўляю пра Шульца, нарадзіўся значна пазней за яго, 8 траўня 1922 года. Яго бацькоў перапіс насельніцтва 1921 года не ахапіў, яны жылі ў Нягловіцах. Бацька — выпускнік нямецкай навучальнай установы, атрымаўшы доктарскую ступень у Цюрыху, працаваў тады ў Ясле на нафтаперагонным заводзе. Моцны крызіс у пачатку XX стагоддзя прымусіў іх у верасні 1932 года вярнуцца ў Драгобыч…

Вечар. Бледны маладзік на фоне шэрага, быццам пакрытага пылам неба. На званіцы тлуста ільсніцца ў святле бронзавы мемарыяльны барэльеф. Вершнікі на канях з узнятымі шаблямі, вілы, косы, цяжкі для чытання надпіс: «Увосень 1648 года сялянска-казацкія атрады разам з паўстаўшымі жыхарамі горада і навакольных вёсак разграмілі польска-шляхецкае войска і вызвалілі горад».

Адсюль крок да рынку. Я сядаю на лаву з бутэлькай піва «Львівске». Тут забарона ўжываць алкагольныя напоі ў грамадскіх месцах яшчэ не дзейнічае. У маіх думках вобраз *«…тых старых, поўных годнасці купцоў, якія з апушчанымі вачыма, у тактоўным маўчанні, поўныя мудрасці і разумення самых таемных зычэнняў кліентаў абслугоўвалі іх (…) У іншым месцы — групы яўрэяў у каляровых халатах, у вялізных футравых каўпаках перад высокімі вадаспадамі светлых тканін. Гэта былі мужы Вялікага Сходу, паважаныя, поўныя ўрачыстасці панове, якія гладзілі доўгія, дагледжаныя бароды і вялі памяркоўныя, дыпламатычныя гутаркі. Але і ў той цырымоннай размове, у позірках, якімі яны абменьваліся, быў бляск усмешлівай іроніі. Сярод тых груп цёрся паспаліты люд, безаблічны статак, зброд без твару і індывідуальнасці. Ён запаўняў нейкія прагалы ў краявідзе, высцілаў фон званкамі і бразготкамі бяздумных размоваў» («Цынамонавыя крамы»).*



Вуліца бяжыць уніз, я іду паміж апусцелымі шапікамі рыначнай плошчы. Вузкія калідоры навесаў, кучы гніючых адкідаў, пустыя кардонныя скрынкі, пад нагамі фольга ад тары. Шайкі здзічэлых жывёл — сабачыя вочы пазіраюць варожа, падазрона. На скрыжаванні збіраюцца ад'язджаць апошнія перад ночай «маршруткі». Яўрэйскі «Лан»(«Дзялка»). Калісьці яна была па-за межамі ўласна Драгобыча. Тут, на выдзеленым кавалку каралеўскай зямлі мелі права сяліцца яўрэі. Адтуль і назва. Вялікая сінагога. Самая вялікая ў Галіцыі. Манументальная. Па ўзору касельскай, што ў Нямеччыне.

Гітлераўцы зрабілі ў ёй стайню, Саветы — мэблевую краму.

Гэтыя яўрэі (шмулі), якія жылі тут, на «Лане», у тых пахілых, разваленых хатках, жылі з жабрацтва, міласціны, але большасць жыхароў складалі людзі добра забяспечаныя — адвакаты, банкіры, лекары, прадпрымальнікі. — Найбольш інтэлігенцыі было сярод яўрэяў — кажа Альфрэд Шрэер. — Я тут апошні драгобыцкі яўрэй з народжаных перад вайною. Цяпер яўрэйская суполка, гэта сто шэсцьдзясят, можа дзвесце асобаў. А Божа ж мой! — Як яшчэ можна іначай сказаць, калі нас перад вайной было пятнаццаць тысяч. Тут квітнела жыццё.

Вучыцца я пачаў у 1932 годзе ў агульнаадукацыйнай школе імені Генрыка Сянкевіча. Скончыў там першы і другі клас старога тыпу. У той час ажыццяўлялася школьная рэформа. Чатырохгадовыя гімназіі і двухгадовыя ліцэі. Там у другім класе нашай апякункай была пані Юзафіна Шалінська, нарачоная Бруна, асоба надзвычай вытанчаная — Шрэер акцэнтуе апошняе слова. — На свае народзіны запрашала да сябе ўвесь клас, усіх вучняў. Размовы, слодычы, гарбата, смех… толькі так было.

*«…мая нарачоная з'яўляецца часткай майго жыцця, пад яе пасярэдніцтвам я чалавек, а не толькі лемур і кобальд. Яна кахае мяне больш, чым я яе, але для жыцця яна мне*

*патрэбная больш. Яна сваім каханнем збавіла мяне, ужо амаль знішчанага і зніклага ў нялюдскіх краінах фантазій бясплодных Гадэсаў. Яна вярнула мяне жыццю і часу. Гэта мне самы блізкі на зямлі чалавек. (...) Гэта нулявая кропка, ад якой я ўзношуся ўгору па шкале фантазіі»*— пісаў пра яе Шульц 19 верасня 1939 года ў лісце да Раманы Гальперн («*Кніга лістоў*»). Кажуць, што каханне сляпое. Гэта нібыта толькі гульня, якою займаецца з чалавекам свет, вызваляючы біялагічны механізм капіявання арганічных рэсурсаў, гарманальная маніпуляцыя, разбураючая прастору нашага ўяўлення. Кожная сувязь мае такі момант кульмінацыі, пасля якога ўсё пачынае псавацца і перамяняцца, і ніводзін разумны кампраміс становіцца немагчымы. А неразумны нічога не паправіць.

*«Мая нарачоная — каталічка (...). Я ж не хачу хрысціцца. Зрабіў для яе толькі тую саступку, што выйшаў з яўрэйскай гміны» (Кніга лістоў).*

Я чытаю ў Грынберга, што ў 1936 годзе Бруна Шульц размясціў у «Драгобыцка-Барыслаўскім Голасе» паведамленне па той справе.

*«Не ахрысціўся, але не хацеў быць яўрэем»,* — піша Грынберг. не ведаю. Можа і гэтак, а можа іначай.

*«...нашы шпацыры па лугах за домам, у цалкам вясенні бярэзнік, давалі мне прадчуванне цуда, непаўторных перажыванняў, якія так рэдка трапляюцца ў жыцці. Гэта была сама сутнасць паэзіі. Але калі я адчувала і адчуваю кантакт з прыродаю біялагічна, то для Бруна малады бярэзнік, яго кранальная бездапаможнасць, служыла тэмаю для заснавання роздумаў і канцэнтрацыі вобразаў, каб неяк дасягнуць глыбіні з'явы. (...) У кожным чалавеку ён адшукваў нейкае падабенства з жывёлай.*

*— Якую жывёлу нагадваю? — зацікаўлена спытала я.*

*— Вы — антылопу.*

*— А Вы?*

*— Сабаку. (...).*



*Я цалкам разумела, што з нас дваіх не ён, а я — насуперак уяўнаму — ёсць слабейшым бокам. Ён меў свой свет творчасці, свае высокія сферы, я ж не мела нічога. Аднак я не ўмела жыць у такой тузаніне і на дапамогу мне прыйшла цяжкая хвароба — выдатнае апраўданне(...). Я аддалілася ад Бруна назаўсёды. Ужо нічога не адчувала, усё захапленне, у якім я знаходзілася амаль чатыры гады, знікла».* — Вось некалькі сказаў, вырваных з выказвання Юзафіны Шалінськай, і змешчаных у каментарах Ежы Фіцоўскага да «Кнігі лістоў».

*«Мне вельмі шкада яе, я не ведаю, што яна робіць пасля такіх цяжкіх выпрабаванняў, на лісты мае не адказвае. Шкада мне нас абаіх і ўсяго нашага мінулага, вырачанага на пагібель».* — Гэта рэакцыя Шульца на расстанне *(«Кніга лістоў»).*

— Ніхто, выбачайце, тады ў Драгобычы ягоных апавяданняў не чытаў. Лічылі яго дурнаватым. — Альфрэд Шрэер робіць адпаведны рух рукою. — Казалі, што піша нешта незразумелае і малюе голых кабет.

*«Калі яго маці выйшла неяк з дому ў горад, ён падгаварыў служанку, маладую дзяўчыну, каб распранулася, і потым яе маляваў. Маці вярнулася і ўчыніла яму страшны скандал. (...) «Я гэта ўсё разумею, але чаму ў маім доме і з маёю прыслугай! (Фэлікс Мілян)».*

— У 1934 я паступіў у дзяржаўную гарадскую гімназію імені караля Уладыслава Ягайлы, дзе цягам чатырох гадоў малюнак і ручную працу мне выкладаў Шульц. Вучні любілі Шульца, — кажа Шрэер, — хоць быў ён празмерна сціплы. Нават не таму, што ім саступаў. Настаўнікі ставіліся да яго па-рознаму, маляванне не было самай важнай дысцыплінай, а ён да таго ж быў дзіваком, нейкім інакшым.

*«У першым класе гімназіі Шульц выкладаў апрацоўку драўніны. Хадзіў між сталамі, мераў, паказваў як лёгка, з адчуваннем рухаць гэблік. У яго былі залатыя рукі. У другім класе выкладаў шклярства. Насіў шэрыя гарнітуры, светла-шэры ўвесну і ўлетку, цёмна-шэры ўвосень і ўзімку. Слізгаў уздоўж сцен, наўскос, амаль бокам, з апуш-*

*чанаю галавою, кожнаму ўступаў шлях. Часам выступаў на нядзельных літаратурных вечарынах у прыватнай яўрэйскай гімназіі імені Лявона Стэрнбаха. Імправізаваў, апавядаў. Ніхто не чытаў ні «Крамаў цынамонавых», ні «Санаторыя пад клепсідрай», бо былі яны занадта складанымі, але ўсе слухалі яго ўважліва. (…) У трэцім класе была апрацоўка жалеза, але Шульц узяў са школы адпачынак…»* — гэтак лёгка, гладка, вельмі літаратурна, Грынберг *(«Драгобыч, Драгобыч»).*

Не памятаю сваіх школьных настаўнікаў, і праз гады няшмат здолею распавесці аб іх— думаю я, швэндаючыся між бетоннымі блокамі новага раёна. Месяц усё болей нагадвае елачную цацку, гэткую аздобу з кардону, абклееную пакамечанай фольгаю. У маіх успамінах сцерліся твары і постаці, засталіся толькі ўсялякія пазбаўленыя значэння глупствы: шматкі сітуацый, недарэчных дурасцяў, якіх зараз я павінен саромецца.

Са змяншэннем на вуліцах мінакоў, павялічваецца колькасць бадзяжных сабак.

На тым месцы падымаліся жылыя корпусы. Шэрагі вокнаў, а за імі людзі без твараў і біяграфій, пра якіх я нічога не магу распавесці. Яны застаюцца ў ачмурэнні паміж тым днём, які ўсё яшчэ доўжыцца, і прадвесцем толькі надыходзячага. Яўрэйскі квартал. Лан. Яго жыхары адышлі. Рэшту памяці — «вялікі кіркут», на якім перад Богам вызнавалі сваю зямную мізэрнасць, зраўнялі з зямлёю ў 60-х гадах. Патрэбна было месца для «новага» чалавека.

За карпусамі, на другім баку скрыжавання, загароджаная шлагбаумам з іржавай трубы засмечаная пляцоўка — вакзал міжгародніх «маршрутак». Удзень пульсуе жыццё, і тады тыя бясформенныя будкі, бляшаныя скрыні, драўляныя клеці, што атачаюць манеўровы пляц, ператвараюцца ў крамы, мяняльніцы, бары. Падымаецца гоман, б'е ў бляклае неба.

Я не разумею. Значыць настаўнікі не любілі Шульца — можа раздражняла іх тая залішняя сціпласць і пакора.



Па сваёй прыродзе чалавек не ўхваляе паводзінаў, якія ставяць яго на выпрабаванні, разбураюць ягоны спакой. Непрактычнасць выклікала агрэсію. Шульц рухаўся ў пустаце, не заўжды мог абараніцца.

*«Дэпрэсія мая на жаль не адступае. — Пісаў ён адно і тое ж увесь час па-рознаму — … я зараз толькі прыватны чалавек, які па-чалавечы пакутуе, у якога з-пад ног выдалены грунт і які не знаходзіць сэнсу ў сваім жыцці («Кніга лістоў»)».*

Захаваліся заўвагі у справаздачах, зробленыя школьнай адміністрацыяй, тыпова чынавенскія канстатацыі, з якіх вынікае няшмат: «склаў заяву…», «працаваў штотыднёва…», «атрымаў адпачынак…», «хвароба».

— Заўсёды за мною хадзіла музыка, была паблізу, я відаць меў да музыкі слабасць, можа такая слабасць і называецца талентам, не ведаю, — кажа пра сябе Альфрэд Шрэер. — Мой старэйшы калега Зыгфрыд Бенсток у 1939 годзе стварыў суполку, і я, 17-гадовы, пачаў у ёй спяваць. Шульц узгадвае прозвішча Зыгфрыда ў адным з лістоў, прашу праверыць.

Я знайшоў. *«Гэты ліст падаю праз пана Зыгфрыда Бенстока, маладога таленавітага музыканта, які нядаўна атрымаў I прэмію на музычным конкурсе за свае джазавыя кампазіцыі. Пан Бенсток упершыню ў Варшаве і шукае кантакты. Я быў бы рады, калі б ты была да яго прыхільнай і трохі ўкараніла ў варшаўскі свет. Пан Б. вельмі мілы і сімпатычны малады чалавек з вялікай духоўнай свежасцю і пэўнай наіўнасцю, якія прадказваюць вельмі добрае развіццё».*

Шульц пісаў гэта да Ромы Гальперн у 1938 годзе, менавіта тады ў Драгобычы чэмпіёнамі нафтавага радовішча па футболу сталі яўрэі з «Бэтару».

— Увосень 1941 года мы планавалі перайсці да львоўскага тэатру мініяцюр, а спачатку выступалі ў кінатэатры, у «Днепарку», гэта такі савецкі звычай злучэння музыкі з сеансамі фільмаў, які доўжыўся ажно да Хрушчова. І рап-

там усё ляснула, 29 чэрвеня у Львоў увайшлі немцы». — Гэта зноў Шрэер.

Яўрэй мог дакупіць сабе жыцця, натуральна ў разумных межах — я пра тое чытаў, відаць гэта вядомая рэч.

Золата давала найлепшыя знаёмствы. Адным хапала на месяц-два, іншым на паўгода. Рабіць паслугі працаю маглі ўсе, праца мела кепскую каціроўку. Шульц маляваў, гэта мела вартасць унікальнасці, таму яго цана была іншай. Існуюць розныя версіі пра тое, як ён загінуў. Адна, найбольш праўдападобная, падтрымана пад прысягай паказаннямі сведкаў, іншыя абапертыя на спекуляцыях або цалкам галаслоўныя. Якая з'яўляецца праўдзівай, і на колькі? Бадай што гэта не мае вялікага значэння.

Мабыць дастатковa даты — 19 лістапада 1942.

Ён, відаць, меў намер зайсці ў Юдэнрат за хлебам. На вуліцы яго ўбачыў шарфюрэр Карл Гюнтэр, магчыма крыкнуў: «Адвярніся!», і двойчы стрэліў яму ў патыліцу.

Магчыма мела месца такая гутарка (Гэрш Бэтман):

Карл Гюнтэр: «Адгадай, каго я сёння застрэліў? Твайго мастака, таго Шульца».

Фелікс Ландау: «Шкада, шкада, ён мне быў яшчэ патрэбен».

Карл Гюнтэр: Уласна таму я яго і застрэліў.

«Я шчаслівая, што ты ўратаваўся, цяпер з тваёю фатаграфіяй спакойна іду на смерць» — напісала мама на палях. Гэта быў яе аўсвайс, з чырвоным надпісам «Юдэ» па-дыяганалі. І тое, што зараз распавяду, яно будзе вялікай, незразумелай сёння гутаркай — Кажа Альфрэд Шрэер, быццам чытае напісанае. — Майго тату, яго брата, яго сястру і бабулю атруцілі газам у сорак другім у Белжцы, маме ўдалося з той перавозкі выбрацца, яна са сваім бацькам была расстраляная ў сорак трэцім у Браніцкім лесе. Мяне і яшчэ пяцёх хлопцаў выцягнуў эсэсман. не ведаю чаму, можа хто заплаціў. Я працаваў на перагонным заводзе. Быў склад адзення, яўрэі сартавалі рэчы расстраляных. Адзін з іх даў мне паперы мамы, там яна напісала тыя



словы, ведала, што я выратаваўся. 13 красавіка 1944 года нас вывезлі ў Плашоў, я яшчэ меў яе аўсвайс. Меў і праз паўгода, калі падыходзіла Чырвоная Армія і загадалі эвакуявацца. Потым, калі трапіў у Грос-Розэн (Рагожніца), там я быў нядоўга, неяк загадалі нам распрануцца, і я ўсё страціў. Гэта не быў яшчэ канец, здавалася, што лютасць не мае канца. Нас перакідвалі з лагера ў лагер. У Цюрынгію, у Бухенвальд, у Таўху. За намі ішло пекла.

Таўха была філіялам лагера, прадпрыемствам па вытворчасці «бранявога кулака» для знішчэння танкаў. Гэта было найбольш страшна, ад світанку да ночы я грузіў у вагоны скрыні, поўныя «панцэрфаўстамі». Панаваў жахлівы голад, я ўвесь апух, ногі былі вялізныя як калоды. Амерыканцы ўжо падыходзілі да Гале, не было забеспячэння, нас пашыхтавалі ў калоны і пачаліся «маршы смерці». Дзве тысячы вязняў, эскартуемых з аднаго месца на другое старымі зляканымі мужыкамі з «фольксштурма». Яны былі лютыя і паралізаваныя страхам. Я не мог ісці і апынуўся ў апошнім шэрагу. Канец. Уратаваў мяне немец, дырэктар банка, асуджаны за нейкія махлярствы. Звярнуўся да таго ачмурэлага вяскоўца ў мундзіры, што на маіх вачах без сумневаў, як жывёл, забіваў вязняў: «Заб'еш найвялікшага опернага спевака». Той не стрэліў. Неверагодна — выратаваўся, дзякуючы спевам. Бо часамі ўвечары, каб пагрузіцца ў забыццё, я спрабаваў спяваць. Але гэта было не ўсё, яшчэ быў марш у Расвайн, да Фрайберга. А сёмай гадзіне раніцы 7 траўня у лагер заехаў першы савецкі танк. Наступным днём былі мае народзіны, мае — Альфрэда Шрэера.

Я меў слых, і хутка навучыўся нямецкай мове, хоць у гімназіі абавязковай была французская. Працаваў я на Саветы. Спачатку перакладчыкам ў Фрайберзе, а са студзеня 1946 ў Дрэздэне. У прынцыпе Дрэздэна не існавала, там добра папрацавалі амерыканскія самалёты, хапіла адной ночы. І я вярнуўся сюды, а мог жа застацца, альбо выехаць у Аргенціну. Але мае бацькі размаўлялі дома па-польску,

я хадзіў у польскія школы, я паляк. Большасць гэтага не разумее. За Саветамі я скончыў драгобыцкі музычны ліцэй, у якім пазней 42 гады выкладаў. Скончыў ВНУ. Дырыжыраваў, спяваў, шмат гадоў працаваў у аркестры Драгобыцкага ўпраўлення кіно. Стараўся рабіць тое, што ўмею. Механічны свет, гэта не маё.

Мне ўдалося, я быў толькі сабою, і я выжыў. *«Ich war immer Alfred Schreyer»* — гэта мае словы, так я назваў аповесць пра сваё жыццё ў «Die Welt».

Я вяртаюся ў кватэру, бо ноч і трэба спаць. Гэта непадалёк ад стадыёна «Юнак» пры дарозе на Трускавец.

(Уначы снілася мне бальная зала, я іду між яе столікаў і не бачу канца. Дзесці грае аркестр, са схаванага ў цені суфіта звісаюць папсаваныя дэкарацыі, нейкія зоры, маладзікі, знакі Задыяка. Пройма варушыць шнуры, прыводзіць у рух зоры. Я чую бразганне сталовага начыння, жаночы смех, стрэлы шампанскага. Не магу нікога адшукаць, прастора навокал запоўнена ценем. Такі гэта баль. Рэальнымі з'яўляюцца толькі сабакі, што бегаюць між столікамі. Выскаленыя зубы, сліна сцякае з пысаў, залітыя крывёю вочы. Я чую іх гыркат, што мацнее ў глыбіні горла, адчуваю жах, вось зараз...).

Прачынаюся, гэта мабільнік заклікае мяне да рэчаіснасці, пабудка.

Іду ў горад. Калісьці тут была вуліца Чацкага. Тут загінуў Шульц. Нядаўна ў гэтым месцы ў ходнік умуравана масянжовая дошка. Невядома, дзе ён пахаваны. Некаторыя (Альфрэд Шрэер) сцвярджаюць, што ў агульнай магіле разам з іншымі ахвярамі «страшнага чацвярга». Магчыма яго цела было на платформе сярод парэшткаў, сабраных у наступны дзень на вуліцах. Некаторыя лічаць (Ізыдар Фрыдман), што ўначы ён таемна быў пахаваны на новым яўрэйскім цвінтары.

Тая праўда — дзе спачывае — не мае значэння.

Ён уступіў свету дарогу, збочыў.



— У дзевяностыя гады з'явіліся першыя пераклады яго кніжак на украінскую мову. Ён па-ранейшаму занадта цяжкі, мала хто чытае Шульца. — Кажа Шрэер. — Іншая справа тая авантура з роспісамі, пра яе пляткараць усе.

Кабета, якая набыла хлеб у пякарні побач, пабачыўшы, што я раблю здымак, прыпыняецца.

— Я не разумею гэтага. — Кажа яна па-ўкраінску. — Ён нават не быў каталікам, толькі што пісаў па-польску. Навошта столькі сумятні вакол аднаго яўрэя?

Я падымаю галаву, светлы дзень, аднак на небе маладзік. Пэўна цень Драгобыча ў такія дні відаць з космасу.

# ХАТЫНЬ. ЗОНА ЗАДУМАНАЙ ТРАГЕДЫІ

*«Не хапае слоў — у саракавых гадах пад Смаленскам здзейснена пачварнае злачынства. Аднак ці сапраўды віна за тую трагедыю ляжыць на кіраўніках СССР, як сцвярджае ў новым творы пан Вайда?»* — пісаў у дадатку да «Независимой газеты» (здаецца была тая газета за 4 лютага 2008 года) Аляксандр Шыракарад.

Я сядзеў за кухонным сталом, піў молатую, моцную, запараную з трох лыжачак каву і спрабаваў абудзіцца, зразумець сэнс гэтых слоў. Гэта была рэакцыя маскоўскай газеты на звесткі пра намінацыю на «Оскара» фільма Анджэя Вайды «Катынь». Праз акно кухні я бачыў на другім баку дарогі вокны гэткага ж будынку з белай цэглы. На патэльні скварылася карэйка, уяўленне падказвала мне што будзе далей, я ўжо адчуваў у паветры пах смажаных яек…

Шкада, што не ведаў я ў якой частцы Мінска размешчаны гэты новы раён і як трапіць адсюль у цэнтр. Ахова на паркінгу, сістэмы электроннай ідэнтыфікацыі уваходзячых, ну і натуральна метраж жылля — усё гэта сведчыла, што будавалася яно не ў разліку на звычайнага мінчука. Вось каб меў карту горада…

Я прыпамінаў, як тры (а мо ўжо чатыры ці болей) гады таму Анджэй Вайда атрымоўваў тытул доктара honoris causa, нададзены яму маскоўскай школай кіно, і ўзгадаў аб прычынах, што прывялі да намеру зрабіць фільм пра злачынства ў Катыні. Там загінуў яго бацька. Падчас урачыстасці ў каментарах, якія з’яўляліся на экране, слова Катынь было перакладзена як Хатынь. У такім гучанні гэтае слова выклікае сярод грамадзянаў былой савецкай імперыі адназначную асацыяцыю: гэта сінонім бязлітаснага забойства, здзейсненага немцамі ў Беларусі над насельнікамі невялікай вёскі непадалёку ад Мінска.



«Хатынь» — ці ж гэта была толькі звычайная памылка?

Двума днямі раней я быў у Хатыні.

Уначы выпаў снег. Узімку снег не выклікае здзіўлення. Зараз ён павольна раставаў: белы, незатаптаны саван яшчэ пакрываў паляну сярод лесу. Надаваў гэтаму месцу годнасць і павагу, выклікаў успрыманне нібыта кадраў дакументальнага фільма. Паміж белатой і чарнатой, радасцю нараджэння і цёмнаю роспаччу смерці нібыта не было прамежкавых адценняў, іншых пачуццяў. Толькі такое канчатковае вырашэнне. Цяжкае ад вільгаці, алавянае паветра сцякае за каўнер, спіна пакрываецца гусінай скурай… дрыжыкі. Холадна, мерзнуць рукі, хоць тэмпература трымаецца ў межах нуля.

Я адзін, пры такім надвор’і сюды рэдка заглядаюць экскурсіі. Хоць месца не так ужо і аддаленае, нейкіх 60 кіламетраў ад Мінска. Шырокая стаянка, прызначаная для аўтобусаў, пустая. Адсюль трэба ісці па мокрай снежнай кашы ўглыб паляны, у кірунку чорнай, ненатуральнай на белым фоне скалы помніка. Абутак прамакае, грэзне ў мокрай золі, выціснуты падэшвамі на бакі мокры снег характэрна хлюпае. Я іду, рэха крокаў адбіваецца ад сцяны лесу.

Праніклівы, здушаны гук звона раптам запаўняе паляну.

Адзін удар. Спазм сэрца.

Зблізку пачарнелая постаць старога мужчыны з выступаючымі скабамі, які нясе на руках паміраючага хлопца, прыгнятае велічынёю, падаецца яшчэ больш манументальнай… Шурпатая, суровая глыба помніка узвышаецца над палянай.

Побач блок чорнага мармуру, ён нагадвае ляжачы на зямлі дах — у месцы, дзе стаяла спаленая пуня.

Халодныя дрыжыкі, недзе на краі лесу, за спінаю, чарговы ўдар звона.

У месцах, дзе стаялі хаты, толькі бетонныя эскізы падмуркаў і абпаленыя абеліскі накшталт комінаў. Са звонам наверсе… На кожным інфармацыя са спісам жыхароў.

«Месца памяці», «Дрэва жыцця», «Сцяна болю». Нагрувашчанне сімвалаў.

Сенцы смерці. Удар звона. Холадна. Дрыжыкі…

*«22 сакавіка 1943 года ў 6 км ад Хатыні партызаны абстралялі аўтамабільную калону фашыстаў. У выніку абстрэлу быў забіты нямецкі афіцэр. Жыхары вёскі не ведалі пра гэтае здарэнне. Нічым не вінаватым людзям фашысты вынеслі смяротны вырак. Уварваліся ў Хатынь, акружылі. Усіх жыхароў вёскі, малых і дарослых — старых, кабет, дзяцей, сагналі ў калгасную пуню. Прыкладамі аўтаматаў падымалі з ложкаў хворых, старых, не шкадавалі кабет з груднымі дзецьмі. Калі ўсе жыхары вёскі апынуліся ў пуні, фашысты зачынілі браму, абклалі саломай, аблілі бензінам і падпалілі. Драўляная пуня імгненна ахуталася полымем. У дыме задыхаліся і плакалі дзеці. Дарослыя спрабавалі іх ратаваць. Пад напорам дзясяткаў чалавечых цел не вытрымала і абрынулася брама. У палаючым адзенні, ахопленыя панікай людзі кінуліся ўцякаць, але тых, хто вырваўся з полымя, фашысты раўнадушна застрэлілі з аўтаматаў і карабінаў. У агні жыўцом згарэла 149 жыхароў вёскі, з іх 75 дзяцей. Вёска была разрабаваная і цалкам спалена. Абпаленым, параненым дзецям, якія засталіся жывымі, забяспечылі апеку і прынялі да сябе жыхары суседніх вёсак. Пасля вайны гэтыя дзеці выхоўваліся ў дзіцячым доме ў вёсцы Плешчаніца.*

*Адзіны дарослы сведка хатынскай трагедыі, 56-гадовы вясковы каваль Ёсіф Камінскі, прыйшоў да прытомнасці позна ўначы, калі фашыстаў у вёсцы ўжо не было. Сярод трупаў вяскоўцаў знайшоў свайго сына. Хлапец быў смяротна паранены ў жывот і моцна абпалены. Сканаў на руках бацькі.*

*Гэты трагічны момант з жыцця Ёсіфа Камінскага стаўся штуршком для стварэння адзінага ў мемарыяльным комплексе помніка — «Няскораны чалавек».* — Гэта фрагмент тэксту ўлёткі, надрукаванай музеем Хатыні ў 2005 годзе.



— Мелася на ўвазе беларуская вёска Хатынь, знішчаная немцамі — тлумачыў «памылку» савецкіх пракурораў ген. Рудэнка, галоўны абвінаваўца з боку Саюза Сацыялістычных Рэспублік. У такім выглядзе ўпершыню інфармацыя на тэму трагедыі ў Хатыні з'явілася падчас працэсу ў Нюрнбергу. Гэта адбылося 18 кастрычніка 1945 года ў выніку ўнясення Савецкім Саюзам абвінавачвання супраць немцаў у забойстве 11 тысячаў польскіх палонных у Катыні. Перад Міжнародным ваенным трыбуналам 13 і 14 лютага 1946 года з абвінавачваннем выступаў пракурор Юрый Пакроўскі, прадстаўляючы доказы: сярод якіх рапарт савецкай камісіі Мікалая Бурдэнкі, у складзе каторай знаходзіўся таксама пісьменнік Аляксей Талстой. Савецкія абвінаваўцы мелі падрыхтаванага сведку, праф. Марка Маркава, які ў 1939 годзе быў чальцом міжнароднай камісіі, створанай немцамі для даследавання катыньскага злачынства і рашыўся на адкліканне падпісанай у той час дэкларацыі. Аднак пасля выступлення адвакатаў і кампраметуючых абвінаваўцаў паказанняў плк. Фрыдрыха Арэнса, які ў сорак першым годзе знаходзіўся ў Катыні ў падраздзяленні сувязі, і якому спрабавалі прыпісаць тое злачынства, савецкія пракуроры з акта абвінавачвання «катыньскую справу» выдалілі.

Абгрунтавалі памылку падабенствам назваў.

Тады тую гульню, ініцыяваную савецкай прапагандай, упершыню назвалі «невялікім недаразуменнем».

Я не ведаю, колькі праўды змяшчаецца ў інфармацыі, якую некалі пачуў пра тое, што ў перадваеннай назве таго, размешчанага на лясной паляне засценка (вёска была каталіцкай, а каталіцтва звязвалі з польскасцю) літара «о» («Хотынь») пасля вайны ператварылася ў «а». Ці было гэтае дзеянне невыпадковым і мела на мэце упадобніць назвы «Хатынь» і «Катынь»? Гэтага сёння не праверыць.

Я не ведаю, колькі праўды змяшчаецца ў сцверджанні, што Юзафа Каміньскага перайменавалі ў Ёсіфа

Камінскага, каб стаўся ён увасабленнем лёсу сапраўдных, карэнных беларусаў і не выклікаў асацыяцый з Польшчай.

Я не ведаю, ці было тое падабенства назваў прычынаю, з-за якой Першы сакратар Беларусі, Пётр Машэраў, пастанавіў збудаваць у тым месцы на памяць аб беларускай вёсцы, спаленай гітлераўцамі, той манументальны комплекс. Першапачаткова ж вырашыў размясціць музей у ваколіцах Віцебска, паблізу ад месца свайго нараджэння. Ён загінуў у аўтааварыі 2 кастрычніка 1980 года. Быў вылучаны пераемнікам Леаніда Брэжнева, але відаць не знайшоў ухвалы спецыяльных службаў.

Я не ведаю, ці спрабавалі словам «Хатынь» сцерці з гісторыі II Сусветнай вайны слова «Катынь».

Гэта не змяняе велічыні трагедыі тых людзей, кожнага паасобку, мужчынаў, кабет, дзяцей, зачыненых у калгаснай пуні, вырачаных на смерць у агні.

Гэта можа толькі сведчыць пра цынізм палітыкаў.

Я ведаю, такіх месцаў, з гэткім жа ваенным лёсам, было на тэрыторыі Беларусі больш за 5 тысяч. Лёс Хатыні раздзялілі 618, сярод іх ніколі не вярнуліся на карту 185 вёсак, урны з зямлёю адтуль размешчаны тут на сімвалічным цвінтары.

Я ведаю, падчас вайны быў забіты кожны чацвёрты беларус.

По музейнай экспазіцыі мяне водзіць экскурсавод, яна працуе тут больш за дзесяць гадоў, з'яўляецца суаўтаркай мемарыяльнай старонкі ў Інтэрнэце (www.khatyn.by), аўтаркаю кніжак і даведнікаў.

Афіцыйная назва выставы «Фотадакументацыя Хатынь». Распавядае пра дырэктыву ад 18 снежня 1940 года, пра нямецкія планы, акрэсленыя крыптанімам «Барбароса», пра нашэсце на Савецкі Саюз, пра геройскую абарону Брэста ў чэрвені 1941 года. Паказвае здымкі.

Пэўна ведае, хоць аб гэтым не кажа, пра абарону Брэста ў 39 годзе, пакце Рыбентропа-Молатава, сумесным парадзе перамогі 22 верасня ў Брэсце, у якім удзельнічалі аддзелы Вермахта і Чырвонай Арміі.

Пэўна ведае, хоць пра гэта таксама не кажа, пра савецкія забойствы польскага насельніцтва. Пра Катынь.

Паказвае здымкі, што сведчаць аб лютасці нямецкага акупанта: спаленых беларускіх вёсак, расстраляных сялянаў, павешаных закладнікаў, замардаваных дзяцей, замерзлых у лагерах, памерлых ад голаду.

Той трагедыі, вялізнай, нічога не паменшыла.

Распавядае пра выставу, пра работу з дакументамі, што дазваляюць лакалізаваць кожную з дваццаці шасці спаленых хат, пра конкурс, аб'яўлены ў сакавіку 1967 года на архітэктурны праект мемарыяла, пра ўрачыстае адкрыццё ў 1969 годзе, на адным дыханні пералічвае імёны Рычарда Ніксана, Гандзі, Арафата, Фідэля Кастра…, якія наведалі гэтае месца, прыгадвае 2004 год — урачыстасці 60-й гадавіны «освобождения Беларуси» з удзелам прэзідэнтаў: Пуціна, Кучмы, Лукашэнкі.

Паказвае урны з зямлёю Асвенціма.

І ў канцы пытаецца пра маё прозвішча. У расейскім гучанні, бо абавязана рэгістраваць у справаздачах усіх іншаземцаў…

Я выпадкова трапляю на інфармацыю пра забітага ў 43 годзе паблізу вёскі Хатынь нямецкага жаўнера. Здаецца, ім быў эсэсман Ота Вельке, які ў Берліне ў 1936 годзе здабыў залаты медаль у штурханні ядра з вынікам 16.6 метра. Тая алімпіяда, хоць і ўзбудзіла шмат контрверсій, прынесла немцам вялізны поспех — здабылі сумарна 99 медалёў. І гэта менавіта адзін з яе герояў у сакавіку 1943 года загінуў у ваколіцах Мінска. Ён быў улюбёнцам Гітлера, узорным экзэмплярам арыйца, прыкладам індывіда, які сваімі дасягненнямі пацвярджаў тэзу пра вышэйшую расу. Пакуль не быў забіты. Іншая справа, што тая інфармацыя не мела ніякага значэння для трагедыі ў Хатыні.

Не ўзгадала мая экскурсавод, і няма тых дадзеных на інтэрнэтавай старонцы музею пра наступнае. (Нібыта на-

цыянальнасць забойцаў выклікае сорам і няёмкасць). Існуе дакументальна пацверджаны факт, што за тыя забойствы цывільнага насельніцтва ў Хатыні адказваў батальён «шутцпаліцай». У тым аддзеле служылі савецкія жаўнеры, што перайшлі на нямецкі бок. Камандаваў аддзелам былы старшы лейтэнант Чырвонай Арміі, Грыгорый Васюра. Іншая справа, што гэта таксама не мае ніякага значэння — толькі ў самой Беларусі сотні вёсак зазналі гэткага ж лёсу ад рук нямецкіх жаўнераў, былі знішчаны, спалены аддзеламі Вермахта.

Пасля апоўдня я іду «на горад», у цэнтр, падыхаць Мінскам. Шырокія, простыя вуліцы, нізкая забудова, парадак. Пасля Варшавы і Берліна гэта трэці з найбольш знішчаных гарадоў у час апошняй вайны. Амаль цалкам адбудаваны.

Няпоўныя два мільёны жыхароў, як… Варшава?

Будзённы дзень. Часам іду, часам на аўто…

Ля галоўнай вуліцы помнік Дзяржынскаму.

Чысціня, стэрыльная чысціня, як у шпіталі…

Бянтэжыць уражанне, быццам гэты парадак, лад разлічаны не на чалавека, а на штосьці зусім іншае. Быццам горад пагрузіўся ў сябе, застыў у нерухомасці. Пачуццё недаверу, падазронасці.

Я зазіраю праз зашклёныя дзверы, шукаю краму, дзе прадаюць фільмы на DVD.

«Ідзі і глядзі». — Гэта цытата з Апакаліпсісу св. Яна.

Фільм кранаючы, шакуючы, бязлітасны. Мы бачым знішчэнне беларускай вёскі вачыма спалоханага падлетка, як і ён мы спрабуем зразумець свет, адшукаць сэнс у тым, што нас атачае. Мы перажываем да мяжы паранойі, шаленства. Мы біялагічна рэагуем на сітуацыю, у якой ёсць месца толькі на звярыныя пачуцці, лютасць, ненармальнасць. Гэта знявечаны свет, адарваны ад чалавечых памкненняў. Адлюстраваны ў воку мёртвай, выпадкова застрэленай каровы.



І сцэна падпальвання царквы з замкнутымі ўнутры жыхарамі…

Апошняе кола пекла.

Але гэта толькі кінематаграфічнае ўвасабленне, болей або меней хвалюючае — рэчаіснасць жа была нашмат больш жорсткая, жахлівая…

Падставаю для сцэнара стала трагедыя, якая мела месца ў Хатыні. Яго аўтар — Алесь Адамовіч — сем гадоў чакаў рэалізацыі фільма.

— Каб фільм наогул можна было паглядзець, я не распавёў усёй праўды, — тлумачыў расейскі рэжысёр Элем Клімаў, які ў 1985 годзе *«зрабіў твор не для прагляду».*

Шэсць гадоў пасля адкрыцця мемарыялу — музейнага комплексу ў Хатыні.

Прапаганда?

Напэўна надзвычайны пратэст супраць вайны — што тычыцца гэтага, вы не можаце мець сумневаў.

А можа і прапаганда — гіганцкая маніпуляцыя, разлічаная на змену паняццяў, дэзарыентацыю? На ўзроўні эмацыйных, падсвядомых рэакцый.

Бо сведчанне гэтага доўжыцца і да сёння.

І слова «Катынь», тут, у большасці краінаў былога Савецкага Саюза, чуецца як «Хатынь».

Ужо мелі месца такія выпадкі, калі фільм станавіўся дакументам, на падставе якога папраўлялася гісторыя, з цынізмам перайначваліся факты. Дастаткова пералічыць тыя фільмы Эйзенштэйна, якімі ўпрыгожваўся крывавы воблік сацыялістычнай рэвалюцыі. Але гэта не памяншае той трагедыі, што мела месца ў 1943 годзе.

Я зноў чую рэзкі, даўкі гук звона калі адчыняю старонку ў Інтэрнэце www.khatyn.by. Вяртаюцца ўспаміны — і я адчуваю на спіне халодныя дрыжыкі.

Сведчанне жывых*: «Толькі трое дзяцей — Валодзя Ясевіч, яго сястра Соня і Саша Жалабковіч — схаваліся ад гітлераўцаў. (…) Дзве дзяўчынкі з сем'яў Клімовічаў і Федаровічаў — Марыя Федаровіч і Юлія Клімовіч — цу-*

*дам выбраліся з палаючай стадолы і дапаўзлі да лесу. У апёках, ледзьве жывых іх прытулілі жыхары Хварасцені, што належала да гміны Каменск. Але ў хуткім часе і тая вёска была спалена фашыстамі і абедзве дзяўчынкі загінулі. Толькі двое дзяцей, што пабывалі ў стадоле, выратаваліся — сямігадовы Віктар Жалабковіч і дванаццацігадовы Антон Бараноўскі. Калі ў палаючай вопратцы, агорнутыя панікай людзі выбягалі з ахопленай агнём стадолы, разам з іншымі жыхарамі вёскі выбегла Ганна Жалабковіч. Яна моцна трымала за руку сямігадовага сына Віцю. Смяротна параненая кабета падаючы прыкрыла сына сваім целам. Параненае ў руку дзіця праляжала пад трупам маці да пакідання фашыстамі вёскі. Антон Бараноўскі быў паранены разрыўной куляй у нагу. Гітлераўцы палічылі яго мёртвым. (...). 6 чалавек было прызнана сведкамі хатынскай трагедыі. Адзін дарослы і пяцёра дзяцей».*

Тым дарослым быў Ёсіф Камінскі народжаны ў 1887 годзе.

*«Стаміла мяне жыццё (...) не маю я ні ў чым недахопу, заўжды магу патэлефанаваць у Лагойскі «спалком», папрасіць нават вядро чорнай ікры — і праз хвілю даставяць. Але наступным днём патэлефануюць і скажуць: пане Камінскі, прыязджае важная дэлегацыя, павінен іх пан вадзіць. І мушу я паказваць ім Хатынь, у соты раз апавядаць, як гэта было і ўсё перажываць нанава».* — Гэтае прызнанне Камінскага цытуе яго сваяк, Маруіс Вашкевічус, які жыве ў Летуве (*«Сармацкія краявіды»* пад рэд. Martina Pollacka, Czarne 2002).

І можа яшчэ адно — самая страшная са здагадак, якія я зноў паўтару за Маруісам Вашкевічусам: *«...Калі гітлераўцы пусцілі яго вёску з дымам, майго стрыечнага дзеда Юзафа Камінскага ў Хатыні не было. Ён тады быў на хрэсьбінах у вёсцы Сярэдняя, мясцовасці, адкуль паходзіць мой дзед.*



*Вельмі магчыма, што ўлады СССР, выбіраючы з усіх спаленых вёсак найбольш адпавядаючую па назве і геаграфічна, зусім не цікавіліся яе гісторыяй. А майму продку прыйшлося сотні разоў паўтараць легенду, якую ён прыдумаў, або якую яму навязалі: распавядаць пра тое, як ён гарэў у сваёй сядзібе, нягледзячы, што быў недзе ў іншым месцы...»*

Але ці ёсць сэнс у пошуках пацвярджэння?

І ці зменіць гэта штосьці?

## НЕ КІНЕМ СВЯТЫНЬ... РАХУНАК СУМЛЕННЯ

— Такое цяпер жыццё, чалавек імчыцца, кудысьці ляціць, спяшаецца і хутка сыходзіць. не кожны мае столькі шчасця, каб дажыць да такіх гадоў, калі кожны чарговы дзень з'яўляецца дарам Божым. Калі жыццё доўгае, трэба час, каб разлічыцца з памяццю, скласці рахунак сумлення.

Бацьку забралі ў войска ў 1914 годзе. Ён прыязджаў з фронту да маці, але канчаткова вярнуўся з вайны толькі пад канец 1919 і тады вырашыў, што мы пакідаем Бучач і пераязджаем на сваё. «Сваё» азначала гаспадарку ў Падзамэчку, якую адразу ў пачатку І Сусветнай вайны спалілі рускія. Менавіта тады маці, пазіраючы на згасаючае пажарышча, вырашыла, што мы да вяртання таты будзем жыць у мястэчку ў сваякоў. Аднак з-за акалічнасцяў працы на гаспадарцы мы час ад часу качавалі і па вёсцы. Сказаць «вяртаемся на сваё» — гэта было адно, вярнуцца — другое, нашмат цяжэйшае. Ацалеў толькі мураваны склеп, гэткая яма для бульбы, і ён павінен быў замяніць нам цэлы дом. Была страшэнная галеча, нам не хапала літаральна ўсяго, ад ежы, вопраткі, да спальных месцаў. Мне было тады два з паловаю гады, не болей. Памятаю жаўнераў на конях, воблакі пылу, радасныя крыкі, шапкі на карабінах, узнесеных угору — так вярталася сюды Польшча. Я выкараскаўся на дах нашага склепу, адкуль было лепей відаць, і тут раздаліся першыя стрэлы. Недзе недалёка бальшавікі зрабілі засаду. Нашы здолелі вырвацца, галопам, бязладна ўцякалі, кожны паасобку. Ніхто не загінуў, толькі двое коней патанула ў багне. Атрымаў я тады першую лупцоўку, за тое, што не паслухаў бацьку і не схаваўся разам з усімі ў лёху. Гэта былі вельмі цяжкія часы, нават немагчыма ўсё ўявіць. Дзевяць дзяцей, якіх трэба накарміць і апрануць. Я хварэў, сёння б сказалі, што гэта быў недахоп вітамінаў, цынга, ва ўсялякім разе выпалі ўсе малочныя зубы. На сёмым годзе мяне забраў ў Львоў на выхаванне дзядзька — ён не меў сваіх дзяцей, і такім чынам хацеў дапамагчы бацьку. Працаваў у дзяржаўнай паліцыі, быў камендантам. Я хадзіў у пачатковую школу на вуліцы Льва Сапегі. На процілеглым баку вуліцы ішла будоўля касцёла св. Эльжбэты, мы бегалі туды ўсім класам, падымалі на рыштаванні па адной цагліне, кожны дапамагаў паводле сваіх магчымасцяў. Я скончыў чатыры класы пачатковай школы і вярнуўся ў Бучач, да сваёй «пясочніцы». Тут я вучыўся ў гуманітарнай гімназіі і здаў экзамены на атэстат сталасці. Паступіў у львоўскую семінарыю.

Апошні дзень жніўня 1939 года. На адлегласці выцягнутай рукі была вайна, той дзень я правёў з групай семінарыстаў-аднагодкаў на першай экскурсіі ў вёску Залешчыкі. Семінарыя мела сваю сядзібу ў мясцовасці Рэпінцы. Палац, на некалькі гектараў абкружаны паркам, размешчаны паміж Бучачам і Язлоўцам, быў ахвяраваны нашай семінарыі ў 1932 годзе графіняй Валянскай пасля трагічнай смерці сына. Нашым абавязкам быў месячны побыт у перыяд вакацыяў у Рэпінцы. Шмат маіх калегаў лічыла гэта сапраўдным пакараннем. Гэта было месца, дзе чорт зычыў свету добрай ночы, сапраўдныя ўскраіны Польшчы. Дабрацца сюды азначала выракчы сябе на цяжкое падарожжа. Ужо тады ў паветры пахла вайною. Украінцы трымаліся варожа, напышліва ўскінулі галовы. Некалькімі гадамі раней у бучацкім ліцэі высачылі таемную камуністычную арганізацыю, чатырох, ці нават шасцёх маіх школьных калегаў у дысцыплінарным парадку выдалілі са школы. Па вёсках дзейнічалі бальшавіцкія ячэйкі, мы называлі іх «чарэзвычайкамі», ад «чака».

Калі выбухнула вайна, семінарыстаў разаслалі з Рэпінцаў па дамах. Мне было бліжэй за ўсіх, я быў амаль у сябе. Памятаю, праводзіў я на чыгуначную станцыю ў Пышковіцах калегу з вёскі пад Тарнопалем, ён не меў грошай на зваротны квіток. Больш мы не бачыліся. Калі б я не

пазычыў яму грошай — хто ведае, можа быў бы жывы. Яго бацькі былі палякамі, вайсковымі асаднікамі, іх перабілі. Яму касою адрэзалі галаву.

Прыйшлі Саветы і ўкаранілі свае парадкі, спрабавалі вылавіць польскіх жаўнераў, каб выехаць з мястэчка абавязковы быў адмысловы дазвол. Я хацеў вярнуцца ў семінарыю ў Львове, пачынаўся кастрычнік, новы семестр і заняткі ў школах. Іду ў сутане вуліцай Бучача, раптам шлях мне загарадзіў вайсковы «газік», выскаквае маёр.

— Людвік Рутына! — крычыць. Я думаю: канец. Пачынаю маліцца.

— Памятаеш? — пытае, з задавальненнем усміхаючыся. Бальшавік, камуніст, выкінуты з ліцэю, школьны калега.

— Я ведаю, што гэта не ўсім падабаецца, — кажа. — Так і павінна быць. Чым магу дапамагчы?

У той самы дзень атрымаў я дазвол на праезд цягніком да Львова. Яго ўжо больш ніколі не бачыў, ён ад'ехаў з войскам. І такім чынам з дапамогаю Боскага наканавання 4 кастрычніка я апынуўся ў Львове ў семінарыі. У горадзе гаспадарнічалі Саветы, адабралі ў нас частку семінарыйскіх памяшканняў, самы старэйшы з нас яшчэ ўвосень таго году атрымаў святарскае высвячэнне, наступная група — увесну 1940. Мой час прыйшоў у 1941 годзе, 11 траўня, пасля прыміцыйнай імшы ў Бучачы я трапіў вікарыем у Баворaў.

*«Цела памерлага, якога везлі санямі на могілкі ў Бавораве, прапала з труны».* — Такі запіс захаваўся ў парафіяльных кнігах. Гэта безумоўна сведчыць аб цяжкасцях, якія чыніла зімовая дарога, закамянелага нябожчыка ўрэшце знайшлі і пахавалі. Іншая справа, што везлі яго з Тарнопаля, які быў усяго толькі паселішчам, і належаў да парафіі Баворава. З гэтага вынікае, што першапачаткова гэта была мясцовасць даволі вялікая, з традыцыямі, тут у 1589 годзе польскія войскі адужалі татараў. Час пазбавіў значэнне гэтага малога мястэчка, якое валодала купецкім прывілеем і жыло з гандлю, і ператварыў у вёску. Частку



яе жыхароў складалі палякі. Там я пачаў вывучаць украінскую мову, тады яшчэ не ўжывалі гэтага вызначэння, нават у школьным атэстаце пісалі «мова руская». У Падзамэчку, дзе я падрастаў, быў толькі адзін украінец, спецыяльна выкліканы каваль. Маліцца ён хадзіў у царкву, Божае Нараджэнне ў іх выпадае на два тыдні пазней, чым у нас. Калі хадзілі калядоўшчыкі, вядома, па-хлапечы, зайшліся да яго, а ён кажа: «Мой Госпад Бог яшчэ не нарадзіўся». А яны яму на тое, дасціпна: «А наш ужо галаву падымае». За немцамі солтысам быў, нават калі пачаліся бандыцкія напады, утрымаўся, выехаў з усімі ў Польшчу, чалавекам быў сумленным.

«Душахват». Украінцы бавароўскага пробашча, ксяндза Караля Процыка, называлі зладзеем душ. Апрача касцельных абавязкаў, а займаў ён пасаду каноніка, быў грамадскім дзеячам, прымаў удзел у разнастайных справах насельніцтва, што жылі на тэрыторыі парафіі. Пад гэтым тытулам ён карыстаўся вялізнай сімпатыяй, яго запрашалі на сямейныя ўрачыстасці і паважалі не толькі сярод нашых. Асабліва шмат добрага рабіў для ўкраінскага насельніцтва. Абараняў іх, ратаваў з розных цяжкіх становішчаў, заступаўся перад уладамі. Ён мог, гартаючы парафіяльныя кнігі, даказаць польскія карані некаторых, задакументаваць на паперы шляхецкі радавод, паходжанне ад Канапніцкіх, Равускіх…

На яго імяніны, якія прыпадалі на 4 лістапада, прыходзілі дэлегацыі з навакольных вёсак, на брычках прыязджалі дзяржаўныя чыноўнікі, сярод гасцей бываў нават дэпутат Янкоўскі. Не кажучы пра нашых парафіянаў, а мы мелі пад апекаю пяць капліц і некалькі цвінтароў, раскіданых на нашым абшары.

Пробашча забілі 2 лістапада 1943 года, за два дні да імянінаў, на асеннія Дзяды. Я адслужыў ранішнюю імшу, потым паехаў у суседні касцёл і на могілкі. Пробашч гэтак жа, толькі ў другі бок. Спаткаліся мы толькі за вячэрай.

Нехта прыйшоў з вёскі з арганістам, хацеў прадаць шпагат для малатарні. А тыя чакалі каб хтосьці выйшаў, былі пад дзвярыма. Уварваліся праз кухню ў сталовую, стрэлам з карабіна забілі арганіста, схапілі пробашча. Я апранаўся ў суседнім пакоі, пачуў шум, зачыніў на засаўку дзверы, выскачыў у акно. За мной кінулі гранату, упала пад ногі, але не выбухнула. Я ўцёк. Чуў крыкі пробашча, яго звязалі, кінулі на воз, ад'ехалі. Ужо пазней, на падворку я знайшоў сцізорык, які ён заўжды насіў у кішэні. Невядома, куды яго завезлі. Праз шмат гадоў у лесе знаходзілі закапаныя людскія косці, схаваныя ў кучы гною. Часта забітага нельга было ідэнтыфікаваць, пасечанага, без галавы, рук, пілою разрэзанага напалам. Цела майго першага пробашча не знайшлі, прапаў без следу, дзе спачывае — невядома.

*«Истребительные батальоны»*, або знішчальныя з'явіліся пасля праходу фронту і паглынання тых тэрыторый бальшавікамі. Даходзіла да сутычак і баёў з бандамі. Улады вымылі рукі, «ваенкамат» дазволіў толькі стварэнне ў вёсках з польскім насельніцтвам узброеных аддзелаў самаабароны. У нашым батальёне служылі хлопцы з Баварова, Застаўя, Скамарохаў, Смалянкі. Іншыя вёскі, Грабовец, Беласкурка і Засцянка, мелі ўласныя дружыны самаабароны. Кіравалі тым паспалітым рушаннем бальшавіцкія камісары, гэта яшчэ больш узмацняла ўзаемную варожасць. Тыя дружыны ўжывалі як рэзервы пры аблавах на бандэраўцаў. Давалі нашым па пяць набояў на карабін і загадвалі змагацца з узброенымі да зубоў бандытамі, якія не адступалі ні перад чым. Па-праўдзе мы былі нязручнымі ні аднаму, ні другому боку. У сакавіку 1945 годзе зноў дайшло да сутычак, загінула некалькі нашых. Справа, відаць, заключалася ў тым, каб нас застрашыць. Улады паставілі нам ультыматум, вызначылі дату калі мы павінны выехаць, бо пасля таго тэрміну не будуць забяспечваць нам ахову. Пасля смерці пробашча да самага ад'езду ў траўні 1945 года я выконваў абавязкі адміністратара парафіі. Ездзіў па касцёлах, служыў імшу, хрысціў дзяцей, даваў шлюбы, хаваў



памерлых. Мяне шукалі, я меў свае схованкі, але як доўга штосьці можа быць таямніцаю? Начаваў у лёху, узімку пры трыццаціградусным марозе спаў на вежы касцёла. Зрабіў сабе нават гэткую часовую ляжанку для сну пад трубамі аргана. Праз тыдзень нехта паведаміў мне, што паўвёскі чуе мой храп, так яны добра рэзаніруюць.

Рахунак сумлення. Нельга нічога абагульняць, казаць: вы украінцы, вы яўрэі, палякі. Няма такіх галоўных праўд. Былі псіхозы, распальваемые прапагандай, народжаныя ад страху і жадання помсты. Вось і нянавісць. Усе самыя благія справы вынялі, каб раздзяляць, нацкоўваць адных супраць другіх. Бальшавікі авалодалі гэтым мастацтвам дасканала. Але ж былі і добрыя камуністы, траплялiся і подлыя палякі, якія здраджвалі і даносілі, немцы, якія дапамагалі іншым, ратавалі жыццё, украінцы, якія забівалі, і такія, каторыя яшчэ па сёння атрымоўваюць з Польшчы лісты ўдзячнасці за дапамогу. Быў такі немец з Опаля, клікалі яго, здаецца Пэц, гэты чалавек кіраваў адміністрацыяй Бучача, прыношу яму словы павагі і прызнання. Але былі і такія падлюкі, што забівалі дзеля задавальнення. А тое, што тут немцы рабілі з яўрэямі, гэта гісторыя не для пераказу, жахлівыя рэчы. А украінскія банды? Была такая вёска, дзесяць кіламетраў ад горада, Пузнікі, дзевяцьсот чалавек, ад яе і следу няма, нават падмурак касцёла быў разабраны, толькі здзічэлыя садовыя дрэвы засталіся. Ніхто не ўратаваўся. Гэта з аднаго боку.

Ёсць і іншы бок. Заўжды былі на гэтых землях лепшыя і горшыя. І былі святары рыма-каталіцкія і святары праваслаўныя. Тыя рэлігійныя падзелы перакрываліся з нацыянальнымі, гэта таксама ўплывала. Няпраўда, што школа для украінцаў была зачыненай, кожны мог вучыцца. Але не кожны мог прасоўвацца сацыяльна ў адміністрацыі, судзе, войску, паліцыі. Там вышэйшыя, адказныя пасады былі забраніраваныя для палякаў. Гэтак жа і парцаляваныя землі, што траплялі ў рукі вайсковых асаднікаў і афіцэрскіх сем'яў.

Калі пачаліся акты тэрору, падпалы стагоў збожжа, на падаўленне прыслалі познаньскія аддзелы. Тыя маладыя жаўнеры не ведалі а ні мовы, а ні ментальнасці мясцовых жыхароў. Вінаваты ўцёк, пакаралі таго, хто застаўся. Уся кара дасталася прыстойным і нявінным. Гэта была чарговыя кропля горычы ў тым келіху. Калі ўлады дазволілі будаваць у Бучачы бібліятэку і украінскі дом «Просвіты» — то чаму не рэагавалі, калі моладзь са стралецкага звязу начамі граміла рыштаванні і сцены. Або нападала на украінскіх хлопцаў з «Сечы»і «Луга», што вярталіся пасля заняткаў па вайсковай падрыхтоўцы. Здзекваліся з іх, рвалі на іх вышыванкі, ламалі драўляныя карабіны, зрывалі «красіўкі». «Вы нам стужкі, мы вам — горлы» —гэтыя словы лёгка выкрыкваюцца ў гневе. За тое хтосьці іншы, у іншы час, пазней, плаціў жыццём. Дазвалялі сабе часамі занадта шмат. Гэта быў той, іншы бок. Усё па прынцыпе «падзяляй і валадар».

Мы ўцякалі ад бандаў цэлай групай, усе нашы, спачатку да Тарнопаля, пазней на захад, у Польшчу. Паасобку пайшлі потым, калі адчуліся ў бяспецы. Ужо на польскім баку. У чэрвені ў Забжы адбылося размеркаванне, нас накіравалі ў Прруднік-Нойштадт. Потым былі Мешкавіцы, Радзічка, Нішкаловіцы — усё разам трынаццаць гадоў. І трэба было рушыць у Кендзежын-Козьле, дзе мой папярэднік, пра такіх казалі «ксёндз-патрыёт», атрымаў дазвол на будоўлю касцёла каля суднарамонтнага завода. Ён меў падтрымку ўладаў, але не меў яе ад жыхароў. Я прыняў парафію ў пяцьдзесят восьмым. Годам пазней, увосень, адбылося асвячэнне новага касцёла. І гэтак, то тут, то там, на божай службе прайшло чарговых трыццаць з нечым гадоў.

Калі мы ўсёй суполкай выязджалі ў 1945, мы мелі пераканане, што такім чынам ратуем жыццё. Забралі тое, што было можна ўзяць: гаспадарчы інвентар і інструменты, хатняе начынне і абсталяванне. Няшмат гэтага было.

Праз сорак пяць гадоў я вярнуўся адзін.



*«Прагнуў я тры крыжы на Патоцкіх «Піляву» / збудаваў Дом Крыжовы на Боскую славу».* — Такі надпіс размясціў на партале Мікалай Базыль Патоцкі, фундатар фарнага касцёла Узнясення Багародзіцы ў Бучачы. Савецкія ўлады пасля выгнання польскага насельніцтва ў 1945 годзе зладзілі ў тым касцёле свіран, праз галоўны ўваход заязджалі ўсярэдзіну конныя фурманкі. Там захоўвалася сабранае зерне ажно пакуль не пачаў працякаць дах. Пазней касцёл ператварылі ў склад прамысловай прадукцыі. Паступовае руйнаванне прымусіла Саветы ліквідаваць склад, і тады вырашана было зрабіць у касцёле кацельную. Разбурылі званніцу, закапалі на прыкасцельных могілках ёмістасці з палівам, у касцельную крыпту ўбудавалі вялізную печ, адразу пры заходняй сцяне паставілі сталёвы комін. У час тых работ выдалілі з касцельных сутарэнняў труны з парэшткамі Патоцкіх. 20 жніўня 1991 года адбылося новае асвячэнне касцёла. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел кс. біскуп Маркіян Трафімяк. Касцёл аддалі. Але кацельная ў сутарэннях засталася — адтуль абаграваўся ўвесь горад. Пазней перарабілі мантаж і правялі да печы газ, нейкія два гады таму дайшло да выбуху, суседні будынак падняло ў паветра, загінула некалькі нявінных людзей. І тады ўлады ўзяліся за розум…

Можна спытаць, што ў мяне на сумленні. Можа я мог зрабіць болей. Але гэта ўжо не наша справа, людзей, гэта ацэніць Бог. Нічога з таго, што мне ўдалося, не з'яўляецца маёй заслугай, я як чалавек не маю такіх магчымасцяў. Адшукаў я касцёл у Трыбухоўцах, ён быў перароблены на школьную спартыўную залу, і ўрэшце разбураны. Дзякуючы шчасліваму выпадку пры боскай дапамозе ўдалося нам знайсці арыгінальны, дубовы алтар, які 50 гадоў праляжаў у курніку. І абраз з галоўнага алтара, што праляжаў схаваным на гарышчы. Чаго шкадую: што падчас асвячэння касцёла мяне насілі на крэсле, бо цалкам пераcталі слухацца ногі. Ёсць у маім спісе адшуканых святыняў Залаты Ручай, дзе ў касцёле абсталявалі кіно — дом культуры. Ёсць і

Порахава, Куропіцк, Зялёнае Вусце, Тарнопаль. Альбо хоць той касцёл у Старых Петрыкаўцах, зраўняны з зямлёю, калі тут прайшоўся фронт. Амаль нічога не засталося. Я яшчэ са школьных гадоў памятаю тую святыню, мы хадзілі туды як Марыянская садаліцыя. І ўдалося, зараз маем прыгожы касцёл, хоць на гэта пайшло два гады цяжкой працы. Той спіс на гэтым не заканчваецца, я не пералічыў капліцы, праца над якімі распачалася, могілкі…

Вікарый, адміністратар, пробашч, канонік, прэлат, інфулат, дэкан — гэта пацеркі майго ружанца. Ёсць пенсія, я пажыццёва прыпісаны да дома ксяндзоў-пенсіянераў у Аполі. Выязджаў адтуль святаром, вярнуўся турыстам. Гэта быў інстынкт, журба, як тая, што змушае да вяртання з выраю птушак. Спачатку на абшары цэлага ваяводства былі мы ўтрох. Па запрашэнні я мог знаходзіцца тут трыццаць дзён, і каб, значыць, не даваць уладам аргументаў для дэпартацыі, штомесяц мусіў адбываць пілігрымку да мяжы. Пехатою перайсці на польскі бок і назад. Вяртанне сваё я пачаў у сакавіку ад касцёла ў Крамянцы, пазней быў Тарнопаль, дзе служыў святую імшу па дамах, Чарткоў, Баршчоў і нарэшце родны Бучач. Першую імшу ў разбураным касцёле я адслужыў 20 ліпеня 1991 года, за месяц да ўрачыстага асвячэння…

Часам пытаюць мяне — колькі тут палякаў?

Вось, прыходзіць калі-нікалі хтосьці і кажа: я паляк.

Тады я пытаюся: які? Прозвішча маеш украінскае, нават калі гэтага не хацеў, табе яго змянілі, імя украінскае, гутарыш па-ўкраінску, не ведаеш па-польску пацеры… Нават калі б ты і быў палякам, то цябе тут не пакінулі б… Так што — які ты паляк? У працэсіі на Цела Гасподняе ўдзельнічалі трыццаць чалавек. За гэтыя шаснаццаць гадоў чатыры хрышчэнні.

Нашто мне ведаць прозвішча, нацыянальнасць, рэлігію?

Я іду — гэта мой жыццёвы прынцып. Калі другі чалавек заходзіць да мяне, адчыняю дзверы, запрашаю. Ён такое ж дзіця, народжанае кабетай і гэткі ж смяротны, ён мой брат.



Такім чынам, апісаў я вялікае кола. Усярэдзіне гэтага кола, мінута за мінутай ўсё маё жыццё, ад 10 лютага 1917 года, калі прыйшоў у свет, па сёння — прайшло дзевяноста гадоў.

Ці ж мог нехта прадбачыць тое, што ёсць сёння? Ці мог нехта дваццаць гадоў таму падумаць, што я буду тут, на украінскай зямлі працаваць святаром?

Дзякую Богу, што здолеў вярнуцца да месца нараджэння, на берагі Стрыпы. Дзякую за тое, што нарэшце я вернуты ў кропку, адкуль выйшаў.

**ПУСТАЯ СТАРОНКА!!!!!!!!!!!!!!**



# Кніга лёсу
## Падарожжа другое — прастора падзеяў

Калі памнажаюцца сыны ягоныя, дык пад меч, і нашчадкі ягоныя не насыцяцца хлебам.

*Кніга Ёва 27, 14*
*Пер. Васіля Сёмухі*

# «ЁН АДТУЛЬ, АДКУЛЬ УСЕ»*

*«Вінцэнц ведае, што людзі сёння тужаць па радзіме, а замест яе даюцца ім толькі дзяржавы. Радзіма арганічная, закаранёная ў мінулае, заўжды невялікая, цёплая сэрцу, блізкая як уласнае цела. Дзяржава ж механістычная. Радзіма — гэта Уэльс, Брэтань, Praванс, Каталонія, краіна Баскаў, Сяміграддзе, Гуцульшчына»* — пісаў Чэслаў Мілаш у 1958 годзе ў эсэ «Ля Комб».

## Нафта, тройчы нафта...

Рунгурская Слабада. 30 лістапада 1888 года, дата нараджэння Станіслава Вінцэнца. Дзесяццю гадамі раней на прасторы Галіцыі як кагорты барбараў уварваліся нафтавыя кампаніі. За імі ішлі ў пошуках хлеба арміі беспрацоўных, прагнучая выгады армія банкіраў і аферыстаў. Свет ствараўся нанава: заганны, напружаны, нетрывалы, збудаваны з няпраўды і мішуры. Яго апораю была замёршая хваля, вырваная з кантэксту таго, што ўжо было і пазбаўленая шанцу на час, называны будучыняй. З дня на дзень павялічваліся багацці, над свідравінамі раслі паспешна зляпаныя драўляныя вежы. Першая такая нафтаздабываючая капальня з'явілася ў Слабадзе ў 1879 годзе і неўзабаве набыла назву самай вялікай у Галіцыі. Годам пасля паўстала тут фабрыка вытворчасці горназдабываючых машын і Першае таварыства распрацоўкі нафты і горнага воску, а яшчэ праз шэсць гадоў — нафтаправод Рунгурская Слабада — Печанежын.

*«У роднай Рунгурскай Слабадзе, дзе ён жыў, слынны Шчапаноўскі за шмат гадоў да таго дабурыўся да нафты Гэта была адна з першых галіцыйскіх капальняў. На жаль — як і большасць тамтэйшых радовішчаў — яна хутка вычарпалася. Засталіся высокія вежы, збітыя з дошак, якія рушыліся пры кожным парыве ветру. А вятры ў тых мясцінах дзьмуць большую частку года. У міжваенным дваццацігоддзі ўжо цяжка было казаць пра нейкае багацце. Ат, адна-дзве помпы ледзьве выпампоўвалі некалькі бочак нафты за месяц. Я памятаю, як стаялі на рампе цыстэрны. (...) Прыязджаў пару разоў туды, меў дом над ручаём за чыгуначнай лініяй, скіраванай ці то да Жаб'ега, ці то аж да Ябланіцкага перавалу і далей на той бок, венгерскі. Аднак не меў я на жаль шчасця пазнаёміцца з гаспадаром Рунгурскай Слабады. І не думаў тады, што буду праз шмат часу пра яго пісаць».* (Анджэй Кусьневіч, прадмова да кніжкі *«На высокай паланіне»* Станіслава Вінцэнца, Памежжа 2002).

Амаль тым самым часам, 12 ліпеня 1892 года, у не так аддаленым Драгобычы, у пазначаным нафтай і ўяўнай рэальнасцю свеце, нарадзіўся Бруна Шульц, малодшае дзіця Гэндэль Гэнрыеты і Якуба.

## Я дзіця гуцульскай краіны

Род Вінцэнца з боку бацькі паходзіў з Праванса і пакінуў Францыю ў 1789 годзе, пасля Вялікай Французскай рэвалюцыі, апынуўшыся ў Вене. Яго дзед быў аўстрыйскім чыноўнікам у Станіслававе, бацька Фелікс — адным з удзельнікаў той галіцыйскай шалёнай пагоні за нафтай — інжынерам нафтавай здабычы. Маці Зофія паходзіла са старажытнай шляхецкай сям'і Прыбылоўскіх, уладальнікаў вёскі Крываруўня, якія ў 1864 годзе перасяліліся з Падола і аселі ў Пакуцці. Малы Сюня, так яго празвалі, правёў дзяцінства ў доме дзеда і бабулі, Станіслава і Атыліі Прыбылоўскіх.

* «Ён адтуль, адкуль усе» — словы, ужытыя Мілашам з'яўляюцца свайго роду звычайным, іранічным вызначэннем пасляваенных эмігрантаў з Сярэдняй Еўропы. У тэксце была выкарыстана інфармацыя, змешчаная на старонцы выдаўніцтва «Pogranicze», апрацаваная Аксанай Рыбанюк для «Гуцульскага календара».

*«Вялікі ўплыў на выхаванне хлопца мела нянька — Палагна Сліпянчук-Рубянчук. Гэта яна распавядала яму байкі, легенды пра разбойнікаў, ведзьмакоў, знахараў, чараўнікоў, пра зданяў і пра жахі, спявала прыпеўкі і калыханкі, падыгрываючы на дрымбе.* — Напісала ў эсэ пра Вінцэнца Аляксандра Камарынец з львоўскага Універсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. — *На Каляды, Вадохрышча, Вялікдзень яна часта вадзіла малога да царквы ў аддаленыя вёскі, а на хрэсьбіны, вяселлі ці пахаванні — да сваіх родных, прывучала да гуцульскіх звычаяў і абрадаў: Зялёных Святаў, Юр'я, Купалля, Макавея, Андрэя, Міколы. Малога «Сюню» з успрымальным сэрцам і светлым розумам, эмацыйнага, ўражвалі маляўнічыя ўборы гуцулаў, дзівілі хуткія рытмы музыкі і шалёныя танцы, радавалі прыгажосцю навакольныя Карпаты, зачароўвалі гукі трамбіт і жалеек…»* — Гэтакім быў адзін бок дзіцячага сусвету. На іншым баку, больш афіцыйным, быў Лука Гармацій, настаўнік з Крывароўні, а таксама мясцовы поп Ёсып Бурачынскі, прыяцель дзеда і бабулі Вінцэнца, які зрабіў даступнай для яго сваю бібліятэку.

**Жаб'е — сталіца…**

Да Крывароўні можна дабрацца шматлікімі спосабамі. Можна ад Каламыі праз Варохту. Альбо так, як мы, з боку Верхавіны (да 1962 года насіла назву Жаб'е і пад той назвай у міжваенны перыяд была курортам). На аўтобусным пляцы знерухомелі некалькі «маршрутак», але калі і ў які бок рушаць — лепей пакласціся на інтуіцыю, пачуцці. Гэта ледзьве пяць, ці шэсць кіламетраў.

Мы ідзём па абочыне. За спінаю засталіся пабудовы (сёння гэта мястэчка, а калісьці была «вёска гарадскога тыпу» — такое вызначэнне гучыць гратэскна), дзесьці павінен быць нават надпіс, што ўвекавечвае словы Івана Франка: *«Гэта Жаб'е — сталіца Гуцульшчыны».* На даляглядзе, далёка-далёка… губляецца ў імгле Чарнагора ў срэбнай снегавой шапцы. Вузкая асфальтавая нітка віецца між гарамі ўздоўж Чорнага Чарамоша. Мы п'янкія ад зяляніны, ачмурэлыя, зачараваныя гарамі… Калідор дарогі, з абодвух бакоў высокія, парослыя лесам сцены. Часам вісячая кладка з дзіравых дошак гайдаецца на тросах і кліча пераправіцца на другі бок раз'юшанага струменя. І нават бягучы на злом галавы паток удзельнічае ў гэтай гульні — нясе зялёную, мутную ваду.

*«Мясцінай дождж, мясцінай цёпла, мясцінай чорна, мясцінай зялёна…»* — Прыходзіць мне ў галаву *«Карта надвор'я»* Івашкевіча, ён таксама гасціў у гэтых мясцінах.

І пры гэтым асфальт мае адценне… гульня працягваецца — зялёнае!

Вузкай накрыўкай неба, між берагамі, вызначанымі высокімі схіламі, павольна плывуць пахмурныя аблокі. Зморшчаныя ад ветру, выпаласканыя дажджом, выцвілыя ад сонца. Зморaныя вандроўкай, выкрутамі гульні, балем зяляніны. А там, уверсе, пасаджаныя на кручы, прыцягваюць позірк драўляныя, упрыгожаныя гуцульскія хаты.

Нібыта дзіцячыя цацкі — адпаліраваныя, пазалочаныя сонцам.

Драўляная цэркаўка Нараджэння Багародзіцы XIX века ўзвышаецца над дарогай. Адсюль на другім беразе Чарамоша відаць «гражда» — старая гуцульская хата сярэдзіны XVIII века.

Я шукаю, аглядаюся навокал, тут недалёка ад царквы павінна знаходзіцца крыпта, у якой спачываюць дзед і бабуля Вінцэнца.

Толькі крыж, пад пластом травы засталіся рэшткі бетону, толькі гэта.

З-за ракі пранізлівы кліч трамбіты.

**Каля царквы…**

*«Мая мама Васылына (Міцына) была стрыечнай сястрой польскага пісьменніка Станіслава Вінцэнца. Бо мама Станіслава Вінцэнца — Зофія нарадзілася ў Крывароўні і была роднай сястрой майго дзеда, Станіслава*

*Прыбылоўскага (у вёсцы яго называлі панічом). Так што Станіслаў Вінцэнц мой дзядзька. (...) У Крывароўні ля царквы пахаваны пяцёра людзей з нашага роду: прадзед Станіслаў, прабабка Атылія, дзед Станіслаў Прыбылоўскі і двое дзяцей» (Марыя Юр'еўна Зелянчук, 1940 г. нараджэння).*

### За голасам трамбіты

*«Спрадвеку, у ноч прысудаў. Пярун, лес і вадаспад, трое шумных пасланцаў нараду трымаюць — як распачаць трамбіту. У рэвашах старажытных сказана так: «Вазьмі на трамбіту сухую яліну, абдзёртую, разбітую перуном. Выдзеўбі з яе трубу, шчыльна запляці і сцісні бярозавым лыкам з-пад вадаспаду, з пены і шуму».*

*Так тлумачыць старажытны рэваш сёння і заўтра: « Хай мае трамбіта моц і данослівасць грому! Вадою найграная, хай асвойтаецца з усялякімі таямніцамі водаў пушчанскіх. Няхай чэрпае, няхай злучае як вада».*

*Трамбіта, збудаваная з замыслам, каб стрэлы пускаць, якія далячынь пранізжуць, непамерна доўгая, больш за тры метры. А сабраная, сціснутая ўпоперак мае каля муштука няпоўную цалю, а на выхадзе ледзьве тры цалі. Сухая, туга аплеценая бяростай, бліскучая, лёгенькая, хоць і доўгая. Элегантная, як дзяўчына з гор, і неслухмяная быццам глуханямая. Чалавек, з ігрой незнаёмы, не ведае, як падступіцца, толькі выдыху з грудзей майстра даступны набор яе гукаў. З грымотаў, з лесу, з шуму вод, з чароўнай ночы створана яна, абрынаючая перашкоды. Струменяць з яе світанкі і гады, радасныя і смутныя, з ёю ліюцца поры года, леты і вякі. Яна чароўная постаць краю і людзей з Верхавінаў, аб якіх сёння агалошвае свету... (*Станіслаў Вінцэнц, *«На Высокай паланіне»*).



### Я веру ў сілу духа

Па сканчэнні гімназіі ў Каламыі (там Вінцэнц пазнаёміўся з Казімірам Вежынскім і Вільямам Хожыцам), атрымоўвае адукацыю ў Львове, потым у Вене, дзе вывучае права, біялогію, псіхалогію, філасофію, санскрыт, а ў 1914 годзе абараняе доктарскую дысертацыю па філасофіі аб уплыве Гегеля на філасофію Фейербаха. Удзельнічае ў I Сусветнай вайне на аўстра-венгерскім баку, пазней на польскім, у тым ліку ў паходзе Пілсудскага на Кіеў. Дэмабілізаваны ў 1922, працуе ў рэдакцыі «Дарогі» у Варшаве.

Першы том ягонага цыклу раманаў *«На высокай паланіне»* з'яўляецца ў 1936 годзе. Яго сын, Анджэй Вінцэнц, напісаў: *«Гэта кніга ўпершыню ўвяла ў кола разумення даўнейшую польскую пастаральную культуру з усёй яе своеасаблівасцю, з рэлігійнымі і містычнымі каранямі, што часткова паходзяць са старой Русі, Балканаў і Грэцыі, а часткова з часоў яшчэ больш старажытных. Кніга на семсот старонак была такой чужою тагачаснай модзе, што частка крытыкаў успрыняла яе як нешта накшталт гуцульскага Тэтмайера, некаторыя ж — проста этнаграфічнай працай, нягледзячы, што выбітны этнограф Ян Станіслаў Быстронь адразу ж зарыентаваўся наконт літаратурнага рангу твора, вітаючы яго ў вялікай рэцэнзіі як эпас на ўзроўні «Калевалы»!»*

У дваццатую гадавіну смерці Івана Франка (ён ведаў яго з часоў свайго дзяцінства і маладосці) Станіслаў Вінцэнц усталяваў у сваім садзе ў Рунгурскай Слабадзе помнік з надпісам: *«Я веру ў сілу духа. Памяці Івана Франка — сына гэтай зямлі»*.

### Нейкі Матаржук...

*«Станіслаў Вінцэнц напярэдадні вайны быў уладальнікам не вельмі старажытнага, але някепскага маёнтка ў маляўнічым парку і фруктовага саду за ім,* — зноў я вяртаюся да запісаў Анджэя Кусьневіча. — *(...)Ён быў для сваіх гуцульскіх суседзяў сябрам і дарадцам, а ніколі панам ці*

*памешчыкам. І яны здолелі гэта ацаніць увосень 1939, калі далі яму найлепшую характарыстыку. Нейкі Матаржук, мясцовы гуцул са Слабады, дапытаны савецкім «камандзірам» пра тое, які ён, «іх пан», адказаў: «Пан добры сусед, мы жывём добра, ён заўжды запрашае нас з нашымі музыкай і танцамі на вячоркі, што ў яго ладзяцца».*

## Заплюшчваю вочы, абапіраюся аб сцяну...

За агароджай, адразу пры дарозе, старая драўляная хата з сырых, ледзьве абчэсаных бярвёнаў, звязаных высечанымі пазамі. Побач на газоне помнік, бюст... У тым месцы Чарамош аддаляецца крыху ад дарогі, так што пакідае трохі плошчы для паркінгу, там спыняюцца аўтамабілі.

Невялікая драўляная веранда, карты, даведнікі, паштоўкі, каралі, выразаныя лыжкі, сувеніры, якія нічога не нагадаюць, не пакінуць у памяці, але калі-небудзь, раптам знойдзеныя ў кучы непатрэбнай старызны, могуць дазволіць у думках павярнуць кола...

Музей. Таблічка з надпісам: *«У гэтым будынку ў 1905-1914 гадах жыў і працаваў славуты ўкраінскі пісьменнік Іван Франко»*. Пэўна сюды заходзіў пагутарыць Вінцэнц.

Цёмнае памяшканне, праставаты стол накрыты гуцульскім кілімам, доўгая лава... у куце вузкі драўляны ложак. Вытачаныя ўручную драўляныя талеркі, міскі, жаўцявыя кубкі з грушы, або як тыя, чырвоныя, з вішні... такія яшчэ і сёння ўжываюцца, іх можна набыць хоць бы на рынку ў Косіве. Спынены час. Ля ўваходу печ для хлеба, абмазаная ўнізе глінай, з надбудовай да ляжанкі, якая часткова служыць для абагрэву. Прыгожая, аздобленая ўручную паліхромная кафля з гуцульскімі матывамі — птушкі, пеўні, дзявочыя постаці, вершнікі... бронза, зеляніна — зялёнае?... уяўленне нясе мяне да Канцавічоўкі ў Казімеры, тая гуцульская печ... і гэткая ж моцная магія таго месца.

Сядаю на зэдаль, абапіраюся плячыма аб сцяну, заплюшчваю вочы.



## Меланхолія непрысутнасці і смерці...

*«...Адзінаю рэччу, якую ён ненавідзеў, якой грэбаваў — была нядобрасумленнасць. Ва ўсіх праявах: прахалоднасць пачуццяў, адмова плаціць за іх, літаратурныя бірулькі, прэтэнцыёзнасць, словы без значэння, пустыя абяцанкі, уяўная праўда, веды, што прэтэндуюць на абсалютную праўду, мода ва ўсіх яе формах і на ўсіх узроўнях, палітычная ці пацуццёвая стратэгія, пагоня за кар'ерай.(...)*

*А яшчэ быў асветнікам, які здолеў зразумець і прыняць тугу непрысутнасці і смерці. Быў веруючым каталікам і непапраўным ерэтыком. Не ўяўляецца мне каб хоць хто больш моцна і непарушна верыў у Бога, больш цярпеў ад зла, і больш настойліва бунтаваў.* (Жана Гэрш: *Gazette de Lausanne*, пер. Анджэй Вінцэнц).

Адкуль бяруцца такія людзі ў гэтым свеце?

І куды адыходзяць?

## Татарскім перавалам...

У 1939 годзе Станіслаў Вінцэнц быў арыштаваны НКВД. Украінскія пісьменнікі Іван Ле і Пятро Панча паручыліся за яго, дапамаглі выйсці з вязніцы. Вярнуўся ў Быстрэц у сваю вілу. Адтуль у 1940 годзе пры дапамозе мясцовага гуцула Пятра Білогаловага збег у Венгрыю. З жонкай Ірэнай, дзецьмі Анджэем і Барбарай узімку перайшлі мяжу па Чарнагорскім хрыбце (Татарскім перавалам).

## «Сведчанне...»

*«Мяне клічуць Білогаловы Дмытро Ілька, я нарадзіўся ў 1924 годзе каля вёскі Быстрэц на хутары Сэгэльба. Мае бацькі Ілька і Настуня былі родам з Быстраца. Узімку 1946 года маіх дзядулю і бабулю з мамай выселілі ў Хабараўскі край Сібіру. Бацькі ў Быстрэц не вярнуліся, памерлі і былі пахаваныя ў Сібіры. Я застаўся і жыў у вёсцы ў сваіх крэўных з хутара Дытул. Неаднойчы спатыкаў у Быстрацы Вінцэнца. Вінцэнц меў там сваю сядзібу, на хутары*

*Скарбы. Гэта была добрая драўляная хата на каменным падмурку. Будавалі яе нашы майстры з Быстраца пад кіраўніцтвам Пятра Готыча. З ніжэйшага боку, ніжэй вілы, былі пасаджаны ў адзін шэраг яліны. Вінцэнц пабудаваўся на зямлі Пятра Білогаловага. Крыху вышэй пана жыла сям'я Білагаловых. Вінцэнц і Пятро, а таксама Васіль былі вялікімі сябрамі. У Вінцэнца служылі нашы гуцулы. Пятро Білогаловы быў добрым паляўнічым і ў 1940 годзе пераправіў Вінцэнца з жонкай і дзецьмі праз Чарнагорскі хрыбет у Венгрыю. Тады ў Быстрацы быў рускі памежны пастарунак. Калі Вінцэнц уцёк за мяжу, то начальнік пастарунку сказаў, што лепей бы ўцякло сто простых гуцулаў, чым адзін пан Вінцэнц. Пятро Білогаловы таксама быў выселены ў Сібір. Пятро ўжо памёр, а Васіль яшчэ жыве. Пятро Білогаловы быў маім дзядзькам»* (Дмытро Білогаловы нар. у 1924 г.).

### …каб жылі ў дастатку…

Да 1946 года Вінцэнц жыў у Венгрыі. Калі сярэдняя Эўропа стала лічыцца зонаю савецкага ўплыву, пераехаў у Нямеччыну, а пазней стаў жыць у Граноблі, Францыя. З 1964 году да канца жыцця знаходзіўся ў Лазане, Швейцарыя. Супрацоўнічаў з выдавецтвам парыжскай «Культуры», там завяршыў чарговыя кніжкі эпапеі «На высокай паланіне».

*«Слава Ісусу Хрысту! Я сядаю за гэты ліст у новы фатэль, шчыра вітаю, нізка кланяюся, Вы дагэтуль у нашым сэрцы. Зычу Вам, дзецям Вашым здароўя і сілы, усялякага шчасця сям'і Вашай, каб жылі ў дастатку. Колькі ўжо гадоў мінула, як не бачыла я Вас, і так сумую па Вам, што часам плачу. Вельмі сумуюць па Вам і нашы суседзі…»* (з ліста Васыліны Чарныш, кухаркі з дому Вінцэнца, 1966 год).



### Украінскія Афіны…

З-за падабенстваў рэльефу тэрыторыі Крывароўні і старажытнай сталіцы Грэцыі вядомы этнограф, вучоны Уладзімер Гнацюк, назваў гэтую гуцульскую вёску украінскімі Афінамі. Але гэтак жа часта называюць яе летняй сталіцай Украіны. Бываў тут Іван Франко, бываў Міхал Кацюбінскі *(«Цені забытых продкаў»),* Вольга Кабылянская, Леся Украінка, Міхал Грушэўскі…

Мясцовыя лёгка зносіліся нямецкай, украінскай, румынскай, польскай… нібыта ўсе гэтыя мовы натуральным чынам былі прыпісаны да гэтага месца. Толькі над імі была іх гуцульская гаворка і святыя звычаі, якім і па сёння яны застаюцца вернымі.

*«…пад Твае алтары ўзносім малітву, Айчыну вольную дабраславі Госпадзе, — спявалі мы малымі, калі віталі ў Крывароўні Пілсудскага, маршалка Пілсудскага. Там, на ростані, ля якой вы ехалі сюды, раздарожжы, адкуль ідзе дарога на Есенюк, там віталі, такім песням вучылі нас».* — Гэтымі словамі прывітала мяне старэйшая кабета, калі я пастукаў у дзверы яе хаты, пытаючыся пра Вінцэнца (*Тэадозія Сарахан-Плытка, нар. 1921 г.).*

### Чарнагора — дарога сусвету

*«Чарнагора — гэта месца, адкуль аднолькава як да зямлі, так і да неба, да гуцула або да Бога»,* — пісаў Вінцэнц. Ён памёр 28 студзеня 1971 года ў Лазане, а ў 1991 годзе парэшткі Станіслава і Ірэны Вінцэнцаў перанеслі на Сальватарскія могілкі ў Кракаве.

*«У самотнасці вандроўца пасярод маўклівых лясоў, кожны шэпт каторых напоўнены трымценнем, кожны шум разбурае чалавека.*

*Калі вандроўнік прыедзе жнівеньскім светлым днём на Чарамош, у Крывароўню ці Ясенаў, такім, які бывае толькі там да апоўдня, то вада так іскрыцца і ззяе, што можна адрозніць кожную кроплю асобна, а галінкі на дрэвах, лістота, ігліца і шышкі так насычаны святлом,*

*што кожнае паасобку выдзяляецца на небасхіле. І хоць карэнне дрэваў закрытае, хоць увесь свет тых буйных каранёў гняздзіцца ў зямлі, аднак у такі дзень думаецца неяк так: вось каб іх адкрыць, адсланіць, каб і да іх дайшло святло… Пранікла б да кожнай мяцёлкі, кожнай ніткі тых каранёў. У такі дзень можна паверыць, што ўвесь сусвет створаны са светлавой тканіны. Што паўсюдна святло спалучаецца са святлом і святло нараджае. Што няма рэчы, якой нельга было б зразумець толькі позіркам. Можа нават шлях да смерці, незваротны і неспасцігальны, калі яго магутным святлом насыціш, рассеецца ў гульні празрыстых кропляў як у глыбінях Чарамоша.*

*Але калі глыбокая ноч затопіць Ясенаў, а над вяршынямі ў прадоннях нябесных затрымціць пранізлівая самотная пульсацыя святла, а іншыя агеньчыкі стануць штораз лягчэйшымі, будуць чэзнуць, распыляцца ў чорных правалах, адчуваеш тады, што ёсць моц больш магутная за святло. Адзінокія промні слізгаюць па ёй не ў змозе перасекчы.*

*У чалавечым жыцці па-над зносінамі і працай, па-над святкаваннямі і радасцю, па-над усялякай таварыскасцю старэйшай і мацнейшай з'яўляецца самота…»* (Станіслаў Вінцэнц «На высокай паланіне»).

## Наш Вінцэнц…

Наш… кажуць пра яго ў Крывароўні. *«Калі Вінцэнц збег з Быстраца, то дзяржава разабрала яго вілу і пабудавала клуб. Потым той будынак згарэў. Зараз на месцы Вінцэнцавай вілы толькі хмызы. Шкада, што ўсё тое пайшло забыццём, бо пан Вінцэнц праславіў нас перад светам»* (Дмытро Білогаловы, нар. 1924 г).

Памяшканьне запаўняе пах звісаючых са столі авечых скур і намазаных лоем рамянёў. На сценах трамбіта, рог, гуцульскія інструменты, здымкі пад шклом, некалькі пажаўцелых газет, пазначаных часам кніжак: *«Дыялогі з Саветамі», «На баку памяці», Вянок з барвенка»…*



—Я ў гэтым музеі каля сарака гадоў, апошнім часам на пасадзе старэйшага навуковага супрацоўніка, — пачынае гутарку Мыкола Зурак. — Вінцэнц зацікавіў мяне яшчэ ў пяцідзясятыя — шасцідзясятыя гады. У Львове выходзіў часопіс «Жовтэнь» і там друкаваліся ўрыўкі украінскіх перакладаў рамана *«На высокай паланіне».* Пазней, ужо тут, пазнаёміўся з яго стрыечнымі, хадзіў па яго слядах.

У 1991 годзе ўпершыню ва Украіне, у Крывароўні адбыўся міжнародны сімпозіум «Станіслаў Вінцэнц, Украіна і еўрапейская культура». Ганаровымі гасцямі былі яго сын Анджэй, які жыве ў Нямеччыне і дачка Барбара са Швейцарыі, яшчэ жывыя сябры часоў філасофскіх дыспутаў у альпійскай дачы Вінцэнца ў Ля Комб, швейцарскія, чэшскія, польскія і украінскія фанаты яго творчасці… — Зурак чытае ліст, а можа ухвалу таго тыднёвага сімпозіума, звернутую да ўладаў, навуковых установаў і ўстановаў культуры, якая нагадвае хутчэй спіс пабожных зычэнняў — «папулярызаваць», «выдаць», «перакласці», «даручыць», «выступіць», «напісаць», «сабраць»… і толькі апошні сказ канкрэтны — «…на 120-ю гадавіну смерці, 30 лістапада 2008 года, адчыніць у Крывароўні музей Станіслава Вінцэнца.

Ужо пара…

## ЧАЦВЯРЦІНА ЗНАЧЫЦЬ ЧАЦВЁРТАЯ ЧАСТКА

Чацвярціна. Ці з гэтага можна выводзіць, якая кроў цячэ ў маіх жылах? Я правярала па кніжках, у нашым гербе ёсць аголены вершнік, які прабівае дзідай цмока. Такі знак быў толькі на пячатках маскоўскіх цароў і Чацвярцінскіх. Гісторыкі выводзяць род ад Уладзімера, рускага манарха, ад яго праўнука князя Святаполка, сястра якога Збіслава сядзела на польскім троне як жонка Баляслава Крываротага.

*«Ягоны ж сын Аляксандр, дзелячы з братамі бацькоўскую маёмасць, калі яму дасталася Чвэрць на Стыры-рацэ, пачаў пісацца князем Чацвярцінскім» — гэта гучыць трохі як казка, але пераглядаючы пры нейкай нагодзе гербоўнік, я знайшла такое тлумачэнне. Бо мы заўжды, колькі памятаю, размаўлялі па-польску і пачуваліся палякамі».*

Рэтраспекцыя: Мы сядзім за маленькім столікам у кухні. Я падазраю, што калісьці, па замыслу будаўніка гэта было вялікае памяшканне, якое дабудаванай сцяной раздзялілі на дзве часткі. З'явілася маленькая, вузкая кухня і пакойчык. Кожны робіць што можа. Там, на другім баку, за перагародкай — каралеўства Генака, яе сына. Старая мэбля нагадвае пра пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Сабраныя рэчы незразумелага прызначэння, што запаўняюць памяшканне, выклікаюць адчуванне лішку. Такая звычка збіральніцтва, што перадаецца з пакалення ў пакаленне, мацнейшая за разважлівасць — тыповая прыкмета. Хто яго ведае, ці не хвароба гэта? Асабліва моцная ў людзей, якіх рэвалюцыя пазбавіла амаль усяго — майна, нацыянальнай тоеснасці, рэлігіі. Усё можа некалі прыдацца, невядома, што ў будучыні раптам зробіцца неабходным. Таму прадбачлівасць не дазваляе нічога выкідаць. Ад гэтага немагчыма адвыкнуць, гэта застаецца аж да смерці. У куце чыгунная ракавіна, пад сталом пластыкавыя бутэлькі, напоўненыя вадою. На працягу дня краны сухія, вада з'яўляецца паміж 6 і 9 раніцы. Пазней трэба разлічваць на сваю прадбачлівасць, або чакаць наступнага дня. Тут, на другім паверсе даваеннай вілы, у двух пакоях і вялікай некалі кухні, яна прапісана з 1947 года. З хрыпатага дынаміка, падключанага да гарадскога радыёвузла, раздаецца музыка.

— А можа ўсё гэта не выпадкова, можа праз кагосьці было ўжо запланавана раней? Нават тое, што я ў жыцці мела болей шчасця, чым іншыя. Была яшчэ ганебная справа, скандальная гісторыя, пра якую гаварылі таемна, якую я памятаю з дзяцінства. Зладзіла яе прабабка, княгіня Канстанцыя Чацвярцінска, уцёкшы з роднага дому ў Вену. Прычынаю стаўся Альфрэд Апэль. Прабабка ў яго шалёна закахалася, і гэта часткова тлумачыць яе паводзіны. Вера ў сэнс і моц кахання з'яўляецца відаць наступствам генетычнага дэфекту, які мы ўсе атрымалі ад яе ў спадчыну. Яе дачка, а мая бабуля, нарадзілася ў 1893 годзе. У акце аб нараджэнні напісана — «*гражданка*» кракаўскай зямлі. Тады казалі — Галіцыя. Васямнаццацігадовай ездзіла ў Вену адведаць сваякоў. У той жа час нічога не падазраючы нейкі Шымон Вясельскі вывучаў у Харкаве фармакалогію каб стаць правізарам. Выпадак, зноў толькі выпадак вінаваты, што яго калегам быў брат маёй бабулі. Так пазнаёміліся мае бабуля з дзядулем. І гісторыя паўтарылася, далі пра сябе знаць пачуцці. Але тым разам мая неразумная прабабка Канстанцыя павяла сябе вельмі практычна, і не дазволіла, каб сітуацыя выйшла з-пад кантролю. Дзядуля перад шлюбам быў вымушаны зарабіць на сваё шчасце, заняць становішча, якое б гарантавала матэрыяльную бяспеку будучай жонцы. Добраахвотна, у пошуках працы і грошай, паехаў ён ажно ва Узбекістан, за Ташкент, у мястэчка Наманган. Там зарабіў на ўласную аптэку і дом з вялізным садам. Толькі тады зрабіў шлюбную прапанову маёй бабулі. Яна прыехала са сваёю матуляй, Канстанцыяй

з Чацвярцінскіх. Прабабка пасля вянчання пасялілася ў Ташкенце, засталася ўжо ва Узбекістане назаўжды, там і пахаваная. Сад, дзедаўскі дом, зарослая сажалка, абрыкосы — усё гэта стаіць перад вачыма, быццам было ўчора. З гэтага вынікае толькі тое, — кажа збянтэжана, — што я праўнучка княгіні Канстанцыі. Дзяцінства, маладосць — цудоўны час. Шкада, што чалавек тады так моцна засяроджаны на сабе і так мала запамінае істотнага. Дзіця не цікавяць старэйшыя людзі, нягледзячы, што яны побач, таму ў маіх успамінах засталіся толькі твары цётак, дзядзькаў, урыўкі інфармацыі, а гэта ж сёння важны эпізод нашай гісторыі.

— Такое жыллё ў цэнтры Львова, у раёне асабнякоў — гэта раскоша. — Яна бярэцца за сюжэт сямейнай сагі ў іншым, аддаленым ад папярэдняга, пункце. — Сёння можа яшчэ большая, чым калісьці. Мая мама хадзіла сюдою, часам нават па некалькі разоў на дзень, на працу ў дзіцячую санаторыю па вуліцы Энгельса. З нашай кватэры на Гарадзецкай, насупраць цырку. Немалы кавалак дарогі. Вырашыла, што любым коштам павінна тут пасяліцца. І так і выйшла.

Рэтраспекцыя: Львоў. *«Грызе мяне як вош пана Вайгля туга па нашым улюбёным Львову»,* — пісаў Герберт у 1944 свайму школьнаму калегу. Было яму дзевятнаццаць гадоў, Кракаў яшчэ быў у руках немцаў, набліжаўся канец вайны. Адной з прычынаў маёй прысутнасці тут, у Львове, з'яўляецца надрукаваны ў 2001 годзе Бібліятэкай Славянскай Літаратуры двухмоўнай серыі *«Выбраныя вершы»* Збігнева Герберта. Ганаровым госцем кніжнага рынку ў Варшаве была Украіна. Дмытро Сапіга, дырэктар выдавецтва «Камяняр», з якім у той час я пазнаёміўся, абяцаў мне адзін з апошніх пяці асобнікаў распрададзенага ўжо накладу. У ліпені Сейм Польскай Рэспублікі прыняў пастанову аб прызнанні надыходзячага 2008 года — з выпадку дзясятай гадавіны смерці — Годам Герберта, гэта давала надзею, што рана ці позна вершы дачакаюцца перавыдання. Перш чым да гэтага дайшло, 3 траўня прэзідэнт Лех Качыньскі адзначыў Герберта ордэнам Белага Арла пасмяротна. Нагрувашчванне такіх моцных раздражняльнікаў заўжды выклікае актыўнасць медыяў, і ў газетах і парталах Інтэрнэту як па загаду з'явілася біяграфія Герберта. У такой «статкавай рэакцыі», вынікаючай са своеасаблівай звышруплівасці, можна заўважыць сімптомы паталогіі, якой хварэе наша цывілізацыя. У пошуках сенсацыі, а можа наадварот, з-за журналісцкай добрасумленнасці, на кожным кроку цытаваліся словы *«…пэўны час працаваў у Інстытуце Берынга, які прадукаваў вакцыны, у якасці… карміцеля вошай».*

Гадзінаю таму я размаўляў у выдавецтве пра Герберта. Яго сімвалічнае вяртанне ў Львоў не такое простае, як гэта можа здацца нават зараз, *«…праз пэўны час…».* — Мы ж гутарылі пра маладога хлопца. Аднак усталяванне мемарыяльнай дошкі на доме, у якім ён нарадзіўся, мела своеасаблівую драматургію і выклікала пратэсты.

— Але можа па-чарзе, — заклікала сама сябе да парадку пані Анеля. — Мама нарадзілася ў 1912 годзе ва Узбекістане, атрымала імя Гэлена. Мела малодшага брацікa, майго дзядзьку Яўгеніюша. Дзядуля разумеў, што значыць адукацыя, вельмі хацеў, каб яна стала лекарам. Медыцына і любоў да музыкі належалі да сямейных традыцыяў.

Узбекістан гэта канец свету. Нават ксёндз з'яўляўся тут раз на год, на свята Вялікадня. Вагон, у якім ён прыбываў з Ташкента, адчаплялі ад цягніка і ставілі на бочныя рэйкі, там адбываліся набажэнствы. У Намангане было ўсяго некалькі каталіцкіх сем'яў, але толькі мы былі вольнымі, астатнія знаходзіліся ў ссылцы.

Таму дзядуля паслаў маму на вучобу ў Маскву. Яна выбрала педыятрыю, хацела лячыць дзяцей. Там у яе закахаўся выкладчык, мой бацька, малады, здольны навуковец з тытулам дацэнта і выдатнымі перспектывамі на будучыню. Па паходжанні быў немцам, маскоўскім, асеўшым у Расеі,

па імені Аляксандр Кэстнер. Сябрам яго сям'і быў слынны кампазітар, Сяргей Рахманінаў, і той у пэўны перыяд нават дапамагаў ім матэрыяльна, пасылаючы дапамогу з Амерыкі. На лекцыі майго бацькі прыходзілі натоўпы студэнтаў. Мама выйшла за яго. Выбухнула вайна, настаў час зменаў, усё распадалася і пераацэньвалася, на нямецкае паходжанне рэагавалі негатыўна. Бацька папрасіў накіраванне на працу ў Хабараўск, у Маскве заставацца не мог. Атрымаў заданне распрацаваць вакцыну супраць кляшчоў, што выклікаюць запаленне мазгавой абалонкі. Ён быў добрым, вельмі лагодным чалавекам, ніколі нічога не прасіў для сябе. Гэтым карысталіся іншыя. Калі мама прыехала да яго, аказалася, што няма чаго есці, няма дзе спаць, холадна. Мама разумела, што гэта не ўмовы для маленькага дзіцяці. Я думаю — гэта дзеля мяне яна пакінула развітальную запіску і вярнулася. Я засталася ў дзядулі ў Намангане. Быў 1942 год, ва Узбекістан прыйшла польская армія. Сярод жаўнераў панавала эпідэмія дызентэрыі і тыфу, летам да гэтага яшчэ дадаліся жаўтуха і малярыя.

Рэтраспекцыя: Я памятаю яшчэ са школьных часоў гісторыю вываду польскіх войскаў з бальшавіцкай Расеі, свае наіўныя, дзіцячыя дылемы. Я тады не мог вырашыць, каго бачыць у асобе генерала Андэрса — народнага героя ці інтрыгана, якому выпадак дазволіў захаваць твар. Яго нелаяльнасць да начальніка, генерала Уладыслава Сікорскага, здавалася мне ганебнай. Войска — думаў я ў той час — грунтуецца на загадах і паслушэнстве, павінна ў любых варунках бараніць Айчыну. Незразумелым было для мяне адсутнасць волі да барацьбы з немцамі за незалежную Польшчу на баку Чырвонай Арміі. Я не ведаў маштабаў савецкіх забойстваў польскіх афіцэраў, колькасці ссыльных, памераў рэпрэсій. Нас вучылі, што генерал Андэрс дамагаўся перадыслакацыі польскіх жаўнераў на тэрыторыі Кіргізіі і Узбекістану, насуперак крытычным поглядам савецкіх дарадцаў, бо хацеў быць паблізу ад персідскай мяжы. Разлічваў на дапамогу з боку саюзнікаў, пастаўкі зброі і харчавання. На сваім баку меў Чэрчыля, насупраць — Сталіна, які хацеў як мага хутчэй выкарыстаць у барацьбе польскія аддзелы. Нас пераконвалі, што выбар азіяцкіх рэспублік для фармавання польскай арміі быў памылкай, зробленай Андэрсам, што тыя тры з паловаю тысячы памерлых у выніку эпідэміі і хвароб жаўнераў з'яўляецца наступствам звадніцтва, якое абцяжарвае яго сумленне. Сёння, праз шмат гадоў, такія рахункі выгадаў і стратаў, дзе мераю — чалавечае жыццё, усё яшчэ цяжкія для мяне. Я ведаю, што на баку ўратаваных трэба запісаць выведзеных у сакавіку 1942 года ў Іран трыццаць адну тысячу жаўнераў з так званых «лішкаў», а таксама каля дванаццаці тысячаў цывільных, галоўным чынам з сем'яў вайскоўцаў, а яшчэ эвакуяваных у жніўні ў Персію аддзелаў Польскіх Узброеных Сілаў у СССР з сарака чатырма тысячамі жаўнераў і дваццаццю двума тысячамі цывільных. І толькі гэта мае значэнне. *«Пакуль мы знаходзіліся ў межах СССР да нашых аддзелаў штодзённа дабіраліся галадранцы, захінутыя ў лахманы, гнаныя рэшткамі сілаў і здароўя. Мелі за сабою два гады няволі і прыніжэння, знясільваючай прымусовай працы, пабачылі смерць сваіх самых блізкіх людзей, у тысячах кіламетраў ад дому і роднага краю, у атмасферы маральнага тэрору, які адмаўляў ім права на ўласную нацыянальнасць, рэлігію, цывілізацыю».* — Напісаў ва ўспамінах генерал Андэрс *(«Без апошняга раздзела»).* Сведчаннем таго трагічнага лёсу сталі польскія цвінтары, раскіданыя ўздоўж чыгуначнай лініі ад Гузара аж да Краснаводска, што на ўзбярэжжы Каспійскага мора. Я веру, што часам хтосьці, хай сабе выпадкова, затрымаецца на хвілю ля тых магілаў.

— Дзядзька Яўгеніюш хацеў завербавацца, пайсці з польскім войскам. Але як гэта звычайна бывае ў жыцці, зноў усё вырашыў выпадак, — мая суразмоўца падымаецца з крэсла каб сцішыць пранізлівы свіст чайніка, налівае ў шклянкі гарбату, паказвае рукою на цукар, і працягвае аповед, — выпадак, як і належыць медыцынскаму асяроддзю,

насіў назву запалення сляпой кішкі. У час аперацыі «*басмачы*», так называлі банды, што качавалі па лясах, сарвалі электрычную лінію, адрэзалі ад шпіталю святло. Скончылі працэдуру пры газавай лямпе, штосьці не дагледзелі, трапіла інфекцыя, быў вымушаны застацца. Мама таксама не пайшла, не магла пакінуць бацькоў, баялася за мяне. Дом бабулі ў Намангане быў вельмі гасцінны і адчынены, польскія афіцэры хадзілі туды на спатканні, спевы і нават танцы. Па гэтай прычыне пасля сыходу войскаў Андэрса бальшавікі майго дзеда арыштавалі. Абвінавацілі ў тым, што ён шпіён і польскі афіцэр, хоць за сваё жыццё ніколі не трымаў у руках стрэльбы. Тады гэтыя небаракі узбекі, якіх дзед наведваў у іх дамах, задарма лячыў, якім раздаваў лекі, усталі на яго абарону. Бывала так, што калі сядзеў у вязніцы, то пры пільнай патрэбе яму дазвалялі пакідаць камеру, каб мог зрабіць візіт да хворага. Праз год следства з-пад арышту выйшаў, але паколькі быў аб'яўлены ворагам савецкага народу, у яго ўсё канфіскавалі. Адабралі і грошы, што збіраў на выезд з Намангану. Мара вярнуцца ў Польшчу была разбурана, і гэта падламала яго псіхіку, надарвала сілы.

— Наконт дзеда, Нэля, не кажы нікому. НКВД, НКВД паўсюль, — памятаю, як перасцерагала мяне бабуля. Мама выпрасіла ў Маскве накіраванне працаваць у Львове, быў 1945 год, яшчэ ішла вайна, і здавалася, што лёс заходняй Украіны не прадвызначаны. Урадоўцы тады былі пільныя, ва ўсім бачылі хітрасць, на кожным кроку выкрывалі шпіёнаў, ніхто не атрымоўваў таго, што прасіў. Так што на ўсялякі выпадак накіравалі яе ў глыбінку, у раёны дзеяння бандаў, у Турку. Ужо ў Львове, на прыступках «райкама», калі выходзіла з накіраваннем, упэўненая аднак, што неяк дасць рады, спаткала лекарку з Узбекістана, дзядулеву знаёмую.

— Дзіцятка, цябе заб'юць. — Сказала яна, забіраючы маміна накіраванне. — Я дапамагу, бо там бандэраўцы, калі паедзеш туды, жывой не вернешся.



Мне было шэсць гадоў, калі мама такім вось чынам стала галоўным урачом дзіцячай санаторыі на вул. Энгельса. Яна крыўдавала на майго бацьку, не магла дараваць, што калі вырашаўся наш лёс, ён выбраў навуковую працу і застаўся ў Хабараўску. У Львоў бацька прыехаў за мамай ў 1947 годзе, ужо пасля смерці дзядулі. Нейкі час ён працаваў у інстытуце, дзе ў час вайны Рудольф Вайгль рабіў вакцыну з вошай.

Рэтраспекцыя: Слова «тыф» сёння не выклікае жаху, гэтая хвароба ў цывілізаваным свеце была ўтаймавана. Калісьці ж яна азначала смяротны прысуд. Я чуў пра Рудольфа Стафана Вайгля, прафесара, які сказаў генералу Кацману, намесніку Гімлера і шэфу размешчаных у Львове аддзелаў СС, калі той прапанаваў яму нямецкае грамадзянства: *«Чалавек выбірае сабе нацыянальнасць раз у жыцці. Я ўжо выбраў»*. Ён быў немцам па нараджэнні і палякам па выбары. Застаўся, не пакінуў краіну ў 1944 годзе разам з адступаючай гітлераўскай арміяй. Гэта ён распрацаваў і распачаў у Львове масавую вытворчасць вакцыны супраць тыфу. Выратаваў такім чынам ад смерці мільёны людзей. За свае дасягненні быў намініраваны на Нобелеўскую прэмію. У 1942 годзе яго кандыдатуру адмовіліся падтрымаць немцы. Гэта быў рэванш за адмову падпісаць «Рэйхсліст» і ўзначаліць кафедру ў Берліне. Гэтак жа не прыняў ён удзелу ў адкрыцці губернатарам Гансам Франкам у Львове філіялу берлінскага інстытута Берынга, якім меўся кіраваць. Такое тлумачэнне падаецца зразумелым.

У 1948 годзе яго кандыдатуру, зноў намініраваную на Нобелеўскую прэмію Шведскай Акадэміяй выкінулі ў выніку ўмяшання польскіх уладаў. Тут праходзіла мяжа паміж нармальнасцю і палітычным вар'яцтвам. Гэта мусіў быць пратэст супраць выкідання кандыдатуры на прэмію ў вобласці літаратуры Яраслава Івашкевіча. А яшчэ ў большай ступені прычынаю была непрыязь Вайгля да бальшавікоў і таталітарнай сістэмы. Яго абвінавацілі ў калабарацыі, прыгадалі адмову ад прапановы Першага сакра-

тара Украінскай Камуністычнай партыі Мікіты Хрушчова стаць чальцом Усесаюзнай Акадэміі Навук і ўзначаліць інстытут у Маскве. Пасля вайны ён працаваў у навучальных установах Кракава і Познані, памёр у Закапаным у 1957 годзе. Але гісторыя напісала працяг. І гэта ў хвіліну, калі здавалася, што фальсіфікаваная, вывернутая камуністамі рэчаіснасць вяртаецца да аб'ектыўнай праўды, калі была адноўлена асноўная каштоўнасць, якой з'яўляецца свабода слова. *«У Львове працаваў доктар Вайгль — яўрэй, які займаўся вытворчасцю вакцыны супраць тыфу. На пэўны час яму даравалі жыццё»,* — такім парадаксальным чынам падсумаваў яго жыццё Яцак Курань (*«Вера і віна. Да і ад камунізму»).*

— Стары чалавек носіць у сабе вялізную колькасць запамятаных слоў і твараў, сітуацый, вобразаў мясцін, намераў, якіх не дадзена яму было ажыццявіць. Гэты свет кіруецца дзіўнымі законамі. Адны рэчы адыходзяць у забыццё, іншыя ж, невядома з якой прычыны, застаюцца ўвесь час жывымі, баляць ажно да смерці.

Бацька чакаў, прасіў прабачэння, зноў чакаў. Калі пабачыў, што яго старанні не даюць ніякіх вынікаў, ускіпеў гонарам і з'ехаў у Ужгарад. Толькі гэта яму засталося, там пражыў яшчэ дзесяць гадоў і ў 1957 годзе памёр ад сэрца.

— Зараз я мушу адступіць у часе да пачатку і музыкі, або вярнуцца ва Узбекістан. Мама была закаханая ў музыку, першыя ўрокі музыкі брала яшчэ падлеткам, у Намангане. У Маскве, вывучаючы медыцыну, спрабавала падтрымоўваць сваю музычную зацікаўленасць, праз прыяцеляў пазнаёмілася з выкладчыкам кансерваторыі, які згадзіўся яе вучыць. Клікалі яго Аляксандрам Радкевічам, ён сцвярджаў, што ў яго жылах цячэ сумесь польскай і татарскай крыві. Паходзіў з Краснаярска, дзе нават ёсць музей імені яго бацькі, з польскай сям'і сібіракоў, якія трапілі туды ў царскія часы. Калі праз месяц мама хацела заплаціць за ўрокі, адмовіўся прыняць грошы. Яна зразумела гэта такім чынам, што з-за адсутнасці ў яе здольнасцяў, слыху, яму шкада часу і выдаткаў на яе далейшую адукацыю. Адчула сябе зняважанай, і як якая-небудзь вар'ятка ўцякла, і ўжо ніколі не вярнулася. Праўда была іншай — яе рэпетытар Аляксандр Радкевіч, які пазней стаў яе мужам і маім айчымам, проста ў яе закахаўся. Пра гэта я даведаўся нашмат пазней. Павінна было мінуць амаль дваццаць гадоў. За гэты час шмат чаго здарылася, і ў большасці гэта былі сумныя, трагічныя гісторыі. Ён ажаніўся, але яго жонка памерла, пятнаццацігадовы сын загінуў у час экскурсіі на цеплаходзе па Маскве. Па-хлапечы бегаў і скакаў, і ў нейкі момант схапіўся за дрот пад высокім напружаннем, які звісаў над вадою. Айчым ніколі пра гэта не распавядаў, відаць не мог сябе пры тым стрымліваць. Пасля тых трагедый, калі неяк ачомаўся ад жалобы, вырашыў адшукаць маму і так трапіў у Львоў. Пайшоў, як кажуць, за голасам сэрца. Гэта было ўжо пасля смерці бацькі ў Ужгарадзе. Яны пабраліся ў 1961 годзе, ён яшчэ год выкладаў у маскоўскай кансерваторыі па класе фартэпіяна і дырыжыравання. Пасля смерці бабулі ў 1962 годзе, Цыпуня, так па-свойму я яго называла, бо быў бездапаможны, як кураня, стаў жыць з намі ў Львове. Ён заўважыў музычны талент у майго Генака, быў яго першым настаўнікам.

— У яго абсалютны слых, шкада змарнаваць такі дар, — паўтараў ён, — здаецца я нарэшце знайшоў «свайго вучня».

— На мяне багі таксама кінулі нейкую музычную абаяльнасць, я спяваю ў львоўскім хоры «Лютня». Гэта доўгая гісторыя, каб пра яе апавядаць. Туды прыходзяць людзі, да якіх жыццё паставілася па-рознаму, адны мелі шчасця меней, іншыя — болей. Часамі, калі слухаю іх успаміны, мне робіцца страшна. Адна з тых кабет у маладосці працавала карміцелькай вошай.

Рэтраспекцыя: У снежні 2006 года ў Варшаве ў час паказу рукапісаў і іншых архіўных дакументаў, набытых Народнай бібліятэкай, мне ўдалося пабачыць сярод выстаўленых дакументаў аўсвайс Збігнева Герберта. Ён

сведчыў аб працы на вытворчасці прышчэпак у інстытуце Вайгля. У вытворчым цыклу выкарыстоўваліся вошы, каб падтрымаць працэс захавання і развядзення, іх трэба было карміць чалавечай крывёй. З гэтай мэтай на назе або галёнцы былі размешчаны маленькія клеткі, кожная на 500-700 насякомых, накіраваныя экранам з сеткі у бок цела. Аперацыя кармлення доўжылася амаль 45 хвілін. За гэты час вош высмоктвала праз скуру карміцеля колькасць крыві, роўную вазе яе цела, распухала нібы аэрастат, яе жывот пачынаў блішчэць. Аднаразова размяшчалі на целе ад 7 да 11 клетак. Карміцелі вошай, асабліва тых, што заражаны тыфам, з'яўляліся ў часы II вайны элітай, мелі адмысловыя пропускі, дадатковае харчаванне, карысталіся параўнальнай свабодай перамяшчэння па горадзе. Гэта быў закрыты «салон», да якога мела доступ інтэлектуальная эліта Львова, прафесура універсітэта (у тым ліку Стафанія Скварчынска, Стафан Банах, Яўгеніюш Ромар), музыканты і артысты, а таксама жаўнеры АК. Выключэнне рабілі для школьных калегаў «Турка», сына прафесара, Віктара Вайгля. Гэтак жа ў тое ізаляванае, элітарнае кола трапіў і Збігнеў Герберт. Спіс задзейнічаных ахопліваў каля чатырох тысяч асобаў. Такім чынам Вайгль як у першыя гады пасля заняцця Львова бальшавікамі, так і пазней, у час нямецкай акупацыі, уратаваў сотні чалавек ад вывязення ў канцлагеры, расстрэлу і смерці.

— Кожны чалавек у нешта верыць. Можа гэта смешна, але кожны чалавек хоча застацца ў чыейсьці памяці назаўжды. Я таксама веру ў духаў. Калі мне было восем гадоў, мне паказаўся анёл, гэта было яшчэ на Гарадзецкай.

— Калі надыдзе твой час, па цябе прыйду я, — сказаў дзядуля маме перад смерцю. І прыйшоў. Раніцаю, бо духі прыходзяць да чатырох, мама пачула крокі.

— Нэля, запалі святло, — усклікнула яна, але нават калі я шчоўкнула выключальнікам, былі чуваць крокі па пакоі, быццам нехта хадзіў ад акна да дзвярэй, і зноў ад акна да дзвярэй… І мама неўзабаве памерла. З Цыпуняю была іншая справа, яму цыганка ў цягніку сказала, што памрэ ён у 84 гады. Так што , калі прыйшоў гэты дзень нараджэння, ён смяяўся. «Жыву, — казаў, — усё гэта лухта». Не прайшло і двух тыдняў, і ўсё, канец. Паміраў вельмі хутка, не прайшло нават пяці хвілінаў. Выпадковасць? Я ў гарах набыла мёд, выклала для пробы на сподачак. Ён не заўважыў, што на лыжачку села аса. Відаць меў павышаную адчувальнасць, хоць не ведаў пра тое. Нібыта выпадковасць. Такая, як тое, што я нарадзілася ў Маскве 27 жніўня 1939 года, за тры дні да пачатку вайны, што ў 1948 я пайшла да святой камуніі ў касцёл Марыі Магдаліны, за вяртанне якога мы змагаемся зараз, што нашу цяпер прозвішча Руткевіч. Можа тое, што вучылася на спецыяльнасць «радыё» — так называлі радыётэхнічную ВНУ — і тое, што стала выкладчыкам у Львоўскай Палітэхніцы на кафедры аховы працы таксама было выпадковасцю? І факт, што Генак, калі быў на вучобе ў Варшаве, па просьбе ксяндза Твардоўскага напісаў музыку да яго вершаў?

— Я абліўся халодным потам, калі на могілках у Міляноўку, на магіле Чацвярцінскіх убачыў сваю фатаграфію, — казаў ён, калі вярнуўся ў Львоў, — такое жудаснае было падабенства.

Можа я мела больш шчасця за іншых, не да ўсіх жыццё было такім прыязным.

Чацвярціна азначае чацвёртую частку. Ці з гэтага можна зрабіць выснову, хто я ёсць, якая кроў цячэ ў маіх жылах?

## ДАЎГАВА — РАКА ЛЁСУ

— Тады вярнулася ў Рыгу, ёй дазволілі… бо была, *«знаеш»,* такою піянеркай, толькі піянеркай… ну, харцэркай па-польску, такою лідаркай харцэрак. — Гаварыў з паўзамі, з цяжкасцю шукаючы адпаведныя словы. Я падслухоўваў, стоячы ў баку, бачыў яго твар з-за спіны суразмоўцы. Калі гаварыў, рухаў пальцамі рукі, быццам лічыў грошы — мне здавалася, што хоча ацаніць сапраўднасць слова, якое з такім намаганнем знаходзіць дзесьці ў памяці. Ягоныя ступакі ў растаптаных сандалях выконвалі нейкі рытуальны танец на месцы, на гранітных камянях, якімі была забрукавана вуліца, рухаліся то ўправа, то ўлева. Было ўражанне, што ён пераступае з нагі на нагу. Пройма, пэўна ў партовых гарадах вецер што дзьме па вузкіх вулках, з'яўляецца чымсьці натуральным, развейваў яго доўгія, недагледжаныя валасы. Тады ён падносіў руку да твару, быццам адмахваўся ад тых павеваў разагнанага паветра.

Рыга. Цяжкое ад марской солі паветра, чайкі праніклівa крычаць над галавой, быццам звяглівыя, вечна незадаволеныя жыццём кабеты…

Польскі праход — вуліца Полю гатэ (Польская брама — латв.)

Касцёл Маці Божай Журботнай — таксама называюць польскім.

Каля ўваходу ў касцёл, і ўнутры яго — мальберты.

Урэшце яны ўдваіх — непрысутныя, затрыманыя у часе, я збоку, на дыстанцыі, адлеглы…

**Уласная магіла…**

— Мая сям'я прывандравала сюды з Літвы. — Пачаў ён зноў пасля хвіліннай паўзы.



У 1901 годзе Юзаф, мой прадзед, пераехаў у Рыгу. Яго сын, а мой дзед, быў кавалём, а на чыгунцы, пабудаванай у 1861 годзе, былі патрэбныя кавалі. Горад развіваўся, быў у царскай імперыі трэцім па велічыні прамысловым асяродкам пасля Масквы і Санкт-Пецярбурга. Дзед працаваў на чыгунцы каля пяцідзесяці гадоў. Часамі дазваляў сабе жартаваць, што павінен быць эканамістам альбо гісторыкам, бо без звароту да архіўных дакументаў мог параўнаць палітычныя сістэмы і адпавядаючыя ім цэны на вырабы. Ад царскіх часоў, за перыяд незалежнай латышскай дзяржавы, савецкай акупацыі, перыяд II вайны, да часоў савецкіх. Ягоным рукам належыць мастацкая брама, якая сцеражэ ўваход у рыжскую катэдру. Гэта такое сімвалічнае вітанне, пасланне з таго свету, — дрыжачымі пальцамі палез за чарговай цыгарэтай.

— Мой бацька насіў імя Фердынат, нарадзіўся ён 22 сакавіка ў 1911 годзе ў Рызе, быў рамеснікам па будаўнічых справах. У дзень шлюбу ў 1937 годзе мама мела васямнаццаць гадоў. Калі ў 1940 годзе прэзідэнт Ульманіс аб'явіў татальную мабілізацыю, мой бацька ва ўзросце 29 гадоў стаў жаўнерам латышскага войска. Савецкія танкі заехалі на вуліцы Рыгі 17 чэрвеня 1940 года. Афіцэраў паводле інструкцый расстралялі на месцы, падафіцэраў выслалі ў лагеры, у Варкуту, жаўнераў уключылі ў Чырвоную Армію, прымусілі прыняць прысягу. Маці разам з іншымі цяжарнымі кабетамі вывезлі за Маскву, углыб савецкай Расеі. Напад немцаў 22 чэрвеня 1941 года была абсалютнай нечаканасцю. Ужо на наступны дзень яны захапілі Лібаву, дзе знаходзілася база падводных караблёў, праз тры дні занялі Рыгу. Аддзел знаходзіўся ў акружэнні, бацька як палонны трапіў у Шталаг, у Саласпілс. Памёр ад голаду у студзені сорак другога года. Толькі гэта ведаю пра свайго бацьку. Дзед выкупіў у немцаў яго парэшткі. Дзякуючы гэтаму я маю на могілках сваю магілу, не ўсе ў Рызе могуць пахваліцца ўласнай магілай.

Я паляк. — падняў позірк угору, да неба, быццам Бога выклікаў у сведкі. — З Віленскага краю.

**Карціны…**

— Ёсць з чаго выбіраць, сезон яшчэ не пачаўся. — Заахвочвае мяне, бо ўбачыў, што я прыглядаюся да карцін на мальбертах, і зноў лезе за цыгарэтай.

Чалавек з гліны…

— «*Герой соцтруда*» — гэта быў найвышэйшы гонар, які мог заслужыць звычайны грамадзянін. Герой сацыялістычнай працы, так тады казалі. З дапамогай прапагандысцкіх маніпуляцый спрабавалі завалодаць думкамі. Кожнае прадпрыемства вылучала сваіх кандыдатаў, хацела выбіць для сябе «героя». Вырашаў партыйны камітэт, камуністычная ўлада. Я не ведаю, як гэта магло адбыцца, хіба што не даследавалі біяграфіі дзеда. Адзін з яго сыноў, Аркадзь, у 1943 годзе быў забраны ў Латышскі Легіён — гэта не было справай веры ці перакананняў, а толькі наступствам факта, што наступіў прызыўны ўзрост. Служыў ён у часці СС, якую немцы ўжылі падчас знішчэння гета ў Варшаве. За гэта ў сорак пятым трапіў на Калыму, на «вялікую зямлю» вярнуўся пасля амаль дзевятнаццаці гадоў. Другі сын, Юзаф у гонар дзеда, завербаваўся ў Народную Армію, але калі знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы, збег, дзейнічаў у падполлі, і пасля вайны трапіў у польскую вязніцу. У Латвію не вярнуўся, адседзеў і пасяліўся ў Гданьску. — Патрос пачкам, павярнуўся спінаю, нахіліўся, дачакаўся моманту, калі аслабеў вецер, пасля гэтага рашыўся запаліць запалку.

— Апрача сыноў дзед дачакаўся яшчэ двух дачок: Ванду, самую малодшую з братоў і сясцёр, і, — гэтае імя знайшла ў календары бабуля, — Прудэнцыя, якая была маёй мамаю. Настаўніца ў школе думала, што гэта дурныя жарты, не магла зразумець, што за імя. — Зацягнуўся дымам.

— Можа гэта была толькі легкадумнасць партыйнага функцыянера, а можа якаясьці свядомая акцыя, аднак у выніку дзед стаў героем сацыялістычнай працы. Права выканаць ягоны помнік дабіваліся самыя вядомыя мастакі. Дзед пазіраваў у скураным фартуху і з молатам у далоні, я памятаю тыя нудныя і доўгія візіты, я быў яшчэ дзіцем і не хадзіў у школу. Сёння помнік дзеда стаіць у сутарэннях Народнага Музею.

Калі дзед быў чалавекам моцным як жалеза, то я, яго ўнук, мог бы заслужыць толькі тытул чалавека з гліны.

**Тэарэтычна…**

— Тэарэтычна ўсё ў жыцці, ад пачатку і да канца, з'яўляецца, відаць, справай выпадку.

Як тое, што я ў Рызе.

І тое, што з-за памылкі я выйшаў з трамвая ля скрыжавання з вуліцай Крыш'яна Валдэмара… на адзін прыпынак раней.

Што трапіў сюды, на плошчу ля касцёла ў тую нядзелю перад апоўднем. Што хоць з боку, з аддалення… я сведка той размовы.

Нават тое, хоць турыстычны сезон яшчэ не пачаўся, што да ўзбярэжжа Даўгавы (для нас, палякаў, гэта Дзвіна) прышвартаваўся паром японскага суднаўладальніка і горад апанавалі азіяты.

Хоць з іншага боку наведваючы стары горад я б, напэўна, і так сюды трапіў.

**Як гэта магчыма?**

Я нарадзіўся ў кастрычніку 1941 года ў Расеі. Мяне клічуць Вальдэмар Пажарскі, — прадставіцца ён пазней, калі вырашыць прыняць маё запрашэнне ў кавярню паблізу Парахавой вежы.

Дзядуля перад вайною жыў на ўскраіне горада, у рабочым раёне. Чыгунка пабудавала там жыллё для сваіх работнікаў. Пасля вайны дзеду з бабуляй пакінулі толькі адзін пакой з кухняй, 16 квадратных метраў, жаўнеры Чырвонай Арміі вяртаючыся з фронту патрабавалі жыллё. Тады, у лютым сорак чацвёртага, вярнулася ў Рыгу мая мама, гэта было не проста, іншыя вярнуліся толькі пасля смерці Сталіна, і то не адразу, а ёй дазволілі… бо была,

*«знаеш»,* піянеркаю, важаком піянерак… — паўтарае тую фразу, што мне ўжо здаралася чуць раней, і зноў зацягваецца цыгарэтай. — Мы жылі адзінаццаць чалавек у тым адзіным пакоі. Маё спальнае месца было пад кухонным сталом. Калісьці, у пачатку дзевяностых гадоў, я там быў са сваім сынам, ён спытаў тады — як гэта было магчыма?

Я адказаў — не ведаю.

Мама паступіла вучыцца на юрыдычны. Там пазнаёмілася з маім айчымам, пазней яны разам працавалі ў пракуратуры. Маю маці перакідвалі з месца на месца, пракурор — ён як жаўнер, вымушаны быць у стане гатоўнасці, і з дзяцінства я вандраваў, то наведваў латышскую школу, іншым разам расейскую. Але незалежна ад таго, якая была школа, мяне лупцавалі — я быў чужы, я быў палякам. Была магчымасць вучыцца ў кадэцкай школе ў Рызе, гэта было адмысловае месца для сірот загінулых савецкіх жаўнераў, але на гэта не згадзіўся дзядуля. Я скончыў сярэднюю школу і пайшоў працаваць у фотаатэлье. Вабіла мяне фатаграфія, знайшоў я сваё месца ў жыцці.

Мяне да таго перапаўняла польскасць, што не дазваляў нават зрабіць анестэзію, калі наведваў дантыста, кабінет якога месціўся ў будынку, дзе ў перыяд латышскай незалежнасці была польская амбасада — столькі было ў ва мне наіўнай веры.

Я хацеў пакутаваць за Польшчу.

Зарабляў я больш за майго айчыма-пракурора, быў вядомы — вымаўляе гэта так, быццам слава і грошы былі самымі важнымі рэчамі ў чалавечым жыцці. А праз хвілю паблажліва ўсміхаецца нейкім сваім думкам, якіх, вядома, не даведацца.

## Маскачня

У Латвіі ўсё адбываецца па-за Рыгай. Стары брукаваны горад, цесныя праходы між мурамі камяніц, пераходныя брамы, катэдра Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл святога Пятра, ратуша, дом Вялікай Гільдыі… гэта рэчы добрыя



для турыстаў. І высокая гадзіннікавая вежа на чыгуначным вакзале — як статуя паганскага бажка…

Тыя новыя раёны, што атачаюць Рыгу, пабудаваны для прышлых людзей. Цяпер пра іх кажуць «Маскоўцы». Або пагардліва «Маскачня».

«Рускіх» у Рызе гэтак жа шмат, як латышоў. Зласліўцы кажуць, што болей. Жывуць яны паводле сваіх савецкіх законаў, вызнаюць сваіх багоў па-расейску. Прывыклі да таталітарнай сістэмы, жыць без страху перад карай не могуць. не хочуць прыняць да ведама змены, якія адбыліся. Варожа адносяцца да латышоў, гэта вынік расейскай прапаганды. Іхным прэзідэнтам з'яўляецца Пуцін. Ён як Маісей прамаўляе да іх з вышыні рыжскага неба праз расейскія спадарожныя транслятары.

*«Вымушаныя выбіраць паміж Нямеччынай і Расеяй, яны выбралі Нямеччыну, бо жадалі заходнюю цывілізацыю. Улада Нямеччыны для іх меншае з двух зло. Велізарны ўплыў на гэткую іх пазіцыю зрабіла савецкая акупацыя. Яны лічаць барацьбу супраць Расеі нацыянальным абавязкам».* — Але нават гэтыя словы камандзіра 15 дывізіі СС оберфюрара Адольфа Акса пра латышскіх жаўнераў з Латышскага Легіёна СС у часы II вайны, не тлумачаць тых падзеяў.

## Жыццё — як тэатр…

— Можа тое, што я зараз распавяду, падасца неверагодным. — Ён папярэджвае маё пытанне і ў чаргові раз узбуджае мае сумневы. — Я цяпер не падобен на чалавека, які калісьці належаў да тэлевізійнай эліты.

Маці плачам вымусіла мяне паступіць у інстытут — у пракурорскай сям'і ўсе павінны мець адпаведную адукацыю. У 1963 годзе я падаў дакументы на самы папулярны курс, факультэт журналістыкі, хоць практычна не меў ніводнага шанца. Але ўлада праводзіла такую хітрую гульню ў дэмакратыю, да асяродка пратэжэ падбірала ў адпаведнасці з вядомым ёй метадам то нейкага недараз-

вітага паўдурня з глухой беларускай вёскі, то латышскага хлопца з прадмесця. Пашчасціла мне — вялікае значэнне мела знаёмства з кампазіцыяй, якую я атрымаў за часы працы ў фотаатэлье — прынялі на курс тэлебачання. Я мог застацца ў Астанкіне, у сталіцы, але ў шэсцьдзясят восьмым вярнуўся ў Рыгу, пачаў працаваць у інфармацыйных праграмах, менавіта тады мелі месца падзеі ў Чэхаславаччыне. Я быў тады ў Латвіі адным з нешматлікіх тэлевізійных журналістаў, які вольна і без акцэнту размаўляў па-расейску. З Масквы ўвесь час прыходзілі тэлеграмы — вышліце Пажарскага на сустрэчу ў Эстоніі, на з'езд, на ўрачыстасці…

Лёс узносіў мяне ўгару — папулярнасць, прыёмы, алкаголь… Грошы, слава, вясёлае жыццё… і кожны раз усё больш прытворства, меней праўды. Я забыўся, што я чужы, маю польскае паходжанне, ды і не надта імкнуўся пра тое ўзгадаць.

Я ажаніўся, нарадзіўся адзін сын, адразу за ім другі…, я перайшоў у газету, яна тады называлася «Голас Рыгі» — мне была патрэбна стабільнасць. У межах абмену я атрымоўваў інфармацыйныя тэксты Польскага агенцтва друку, меў дадатковыя грошы за пераклады.

Але прыйшоў 1981 год і зноў аказалася, што жыццё — тэатр, як напісаў Шэкспір, а людзі толькі іграюць ролі, часам смешныя, а часам трагічныя. У тым бясконцым цыклу цярпення, смерці, чарговага нараджэння…

**Дакументы…**

Рэч аб тым, што дзеля поўнага над імі кантролю людзі ў Латвіі не мелі дакументаў. Нават чыгуначныя квіткі былі імяннымі, і каб купіць іх у касе на вакзале, належала паказаць пасведчанне асобы. Гэта яшчэ мела на мэце пазбегнуць уцёкаў жыхароў вёсак у гарады. У Расеі нават існавалі вёскі гарадскога тыпу, у нас жа тэрмін «сяло» найчасцей азначаў хутар — тры, чатыры дамы. Не маеш дакументаў — сядзі дома. Бывала так, што старшыня калгаса, якому не хапала для працы людзей, прывозіў жыхароў іншых рэспублік



за абяцанку выдаць дакументы, такую цану мела воля. Дакументы былі як збавенне.

**Турысты…**

На белым палатне яшчэ бачны сляды чорнага фламастара. Месца, абведзенае лініяй запаўняе каляровая пляма. Катэдра. На вяршыні катэдральнай вежы залаты певень. Задзіраю галаву. Певень..?

— Паказвалі кірунак ветру. — Кажа, заўважыўшы маё здзіўленне. — Каб маракам было лягчэй заводзіць у порт судны. І яшчэ верылі, што прыносіць на зямлю дзень…

Турыстаў, прызвычаеных да крыжоў на касцельных вежах, гэта заўжды здзіўляе.

**Голас Айчыны…**

— І тое, што я хачу распавесці далей, прагучыць гэтак жа неверагодна. — Усміхаючыся лезе за цыгарэтай і зноў працягвае свой аповед. — Я адмовіўся ад супрацоўніцтва са службамі.

Гэта быў такі дзіўны момант, калі раптам КГБ страціла вочы і вушы. Галоўны рэдактар латышскага «Голасу Айчыны», як пазней аказалася — палкоўнік КГБ, акрэдытаваны пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, папрасіў палітычнага сховішча. І праваліў усіх таемных супрацоўнікаў, якіх завербаваў.

Я адмовіў не таму, што быў адважны. Я быў перакананы, што як каму, але мне нічога нельга зрабіць. Бо меў моцны тыл. Больш за тое, я пайшоў са скаргай у пракуратуру да калегі айчыма, які наглядаў за выкананнем законнасці таймымі службамі. І аказалася, што гэты невялікі функцыянер, які са мной гутарыў, мае насамрэч неабмежаваную ўладу, кіруе нават пракуратурай. Адабралі маю «працоўную кніжку», а гэта азначала, што пазбавілі ўсяго працоўнага стажу, што я зарабіў да таго часу. Жыццё пачало адціраць мяне на абочыну. Са мною не прадоўжылі кантракт у газеце. Яшчэ

нехта стараўся мне дапамагчы, яшчэ тэлебачанне набыло мой сцэнар, яшчэ калі-нікалі я недзе лавіў часовую працу. Але ўрэшце засталася мне толькі разгрузка вагонаў — у тыя дні, калі прыходзіў незапланаваны цягнік. Гэта цягнулася чатыры гады. І вось выклікалі мяне ў «дом на рагу».

— Мы не хочам, каб вы скончылі ў псіхіятрычцы, у вас ёсць жонка, дзеці, калі ласка, прапануем вам працу ў Ташкенце, у газеце, — прапанаваў афіцэр мне такую добраахвотную ссылку, — і прашу не крыўдаваць на нас за ўсё, такія маем інструкцыі, прыёмы работы, працэдуры.

Так трапіў я ў Азію, ва Узбекістан. Гэта быў «Вячэрні Ташкент», газета, да якой мяне прыгаварылі. Яшчэ адзін парадокс — у той час, як мой сярэдні сын, лаўрэат алімпіяды па фізіцы, удзельнічаў у міжнародных сустрэчах у Аўстрыі, Японіі, мне было забаронена пакідаць горад. Пазней быў яшчэ эпізод, калі ў восемдзесят дзявятым годзе, на хвалі «перастройкі» я хацеў стварыць у Маскве ўласнае выдавецтва. За мной ішлі ўвесь час нейкія чорныя паперы, я не меў «даху», або прыкрыцця зверху, збанкрутаваў і праз тры гады вярнуўся ў Рыгу.

### Сімуляцыі...

Не ведаю, што з'яўляецца праўдаю, што прыдумкай, не здолею раздзяляць яго гісторыі на асобныя эпізоды, прывязаць да часу.

Толькі мова, пэўная культура маўлення, чужародныя словы, устаўкі сведчаць пра яго, з'яўляюцца аргументамі «за».

Усё іншае выступае супраць. Але можа гэта толькі сімуляцыі... Бо атачае ж нас столькі неверагоднага...

### Пярун не грымне, мужык не перахрысціцца

Пачаў я думаць пра жыццё інакш. — Кажа ён. — Трохі як у той прымаўцы.

Вярнуўся ў Рыгу.



Мама не жывая, айчым, жонка.

Двое маіх сыноў жывуць у Штатах, адзін — ва Украіне. Я застаўся самотны.

Малюю разам з Ігарам. Ён расеец, але не жыве ў іхнім гета. Мае выключнае адчуванне святла, мы ўзаемна дапаўняем адзін другога. Я раблю эскіз малюнка, кампаную, ён запаўняе яго колерамі.

Так жыву.

Цяпер я ўсё магу адмаўляць і прызнацца амаль ва ўсім — у сваіх грахах і памылках, у кепскіх выбарах, добрых учынках і заслугах, польскім паходжанні, але нічога з таго, што адбылося, не зменіш. Каго хвалюе, што я — паляк? А хацеў бы яшчэ паехаць, хацеў бы пабачыць Гданьск. Каб ведаць, ці насамрэч прыгажэйшы за Рыгу. Толькі ці дазволіць мне лёс?

Не ведаю.

Нездарма Даўгаву называюць «Ракою лёсу».

## РУКА, НАГА, МОЗГ НА СЦЯНЕ

Вадзіць турыстаў па касцёле ён заўжды пачынае аднолькава, словамі: — Я Станіслаў Віняр, нарадзіўся ў студзені 1931 года, слава Ісусу Хрысту. Потым робіць хвілінную паўзу, уважліва пазірае ў вочы прысутных, быццам вырашае, колькі распавесці з таго, што важна, а колькі прамінуць, прамаўчаць.

Часам дадае: — Нарадзіўся я ў турме на «брыгідках» альбо «на горцы».

І каб усё было зразумела, дагаворвае: — У вязніцы быў касцёльчык, цэркаўка і маленькая сінагога, кожны паводле сваёй нацыі мог маліцца да Бога па-свойму. Але я быў ахрышчаны ў касцёле, так хацелі бацькі.

Наш касцёл называюць «Рука, нага, мозг на сцяне».

Я тут вартаўнік.

«Пальмін» — гэта было самае вялікае нафтаперагоннае прадпрыемства ў Драгобычы. Туды не бралі на працу яўрэяў. Тыя, з «Пальміна» былі дзяржаўныя, лепшыя, трымаліся асобна. З меншых былі яшчэ «Дрос», Ёта», «Нафта»… Яўрэі ішлі ў «Галіцыю», мелі сваю нафтаперагонку.

У двух кіламетрах за «Пальмінам» быў у полі хутар Марцаполь, дванаццаць хат. Адны палякі. Калі ў сорак чацвёртым выехалі, Саветы хутар знеслі, зраўнялі з зямлёю. Цяпер у тым месцы ад жылля няма і следу. Мой дзядуля паходзіў з таго хутара. Маладым памёр. У Драгобычы па панядзелках быў вялікі рынак, а па пятніцах — малы. Дзядуля фурманкай паехаў у панядзелак, ці можа ў пятніцу, па дарозе зайшоў у карчму. Сем «нажоў яму ўсадзілі». З Марцаполя родам бацька, у 1904 нарадзіўся, атрымаў імя Якуб. Сястра бацькава, гэтага дакладна не скажу, хіба з 1896, выйшла замуж за «передавіка», інакш — начальніка



турмы. Пасля гэтага я нарадзіўся. За год да вайны выехалі ў Забжа. Маю брата, маладзейшага на шэсць гадоў, жыве ў Латвіі, і маладзейшую на тры гады сястру.

Латыш, паляк, украінец, чэх — калі глядзець па грамадзянству, усё перамешана, такая сям'я.

Спачатку была соль — пасля ўступнай прамовы ён пачынае казаць пра соль, пра капальні, пра саляныя груды на гербе — соль важнейшая за золата.

Але яшчэ важнейшая — вада, вады ў Драгобычы заўжды бракавала, тут паўсюль быў расол, непрыдатны для піцця, мусілі прывозіць ваду ажно са Стрыя. Варыльня па сёння працуе, расол па трубах гоняць з іншых месцаў, скважыны ў трох кіламетрах у кірунку на вёску Салец прасвідравалі.

Соль, хлеб, вада — гэта сапраўднае багацце, на солі Драгобыч вырас.

Бацька пайшоў працаваць у турму стражнікам, швагер яго да сябе ўзяў, дваццаць з нечым ён меў, і я тады нарадзіўся. «На горцы». Вязніцу аўстрыйцы пабудавалі. Дзяцей стражнікаў у школу вазілі брычкай. Да вайны я скончыў тры класы ў польскай школе св. Ядвігі, смаркачом быў дзевяцігадовым, але ў футбол ужо гуляў. Палітыкай я не займаўся, за тымі, хто крычаў «не купляй у яўрэя», не бегаў. Калі гуляў драгобыцкі «Юнак» бацька браў мяне на матчы. Ля агароджы, праз плот, на стадыёне усе крычалі «*Юнак! Юнак!*». А калі раптам апускалася цішыня, між трыбун чуўся пявучы лямант гандляроў: *«Семкі, вітушкі, найлепшыя вітушкі на яйках, семкі…»* У 1938 не было мацнейшых за нашых, узялі мы львоўскую лігу. Толькі раз.

Яўрэі з «Бетара» выйгравалі ў нашых, ну і была такая украінская каманда ў Львове — «Украіна», два разы пацярпеў «Юнак». Усе з усімі тады біліся, рабілі «дымавухі», увесь горад змагаўся сам з сабою… «Пальмін» купляў для гульні спартоўцаў, мы былі на адлегласці выцягнутай рукі ад першынства краіны. Але 1939 год, вайна. Бацька працаваў можа да паловы верасня. У той дзень выпалі выхадныя ці

адгулы для сямёх. Бацька меў брата, той працаваў ветэрынарам пры бойні, зайшоў туды з маці ўвечары — пагасціць, параіцца. Мы, трое дзяцей, заставаліся дома. Усе астатнія стражнікі былі на службе, а было іх сорак дзевяць, можа пяцьдзясят, не хачу лгаць. Калі выходзіў, заўважыў адчынены кузаў грузавіка, яны там укленчыўшы, скутыя ззаду кайданкамі, па чатырох кутах — энкавэдысты з карабінамі. Некаторых у сутарэннях суда адразу расстралялі, рэшту вывезлі ў Харкаў, ніхто не вярнуўся. Маці ціхенька ўзяла нас за рукі, забрала з дому, усё пакінула. Бацька схаваўся, выкапаў сабе яму, схрон, і так сядзеў сямнаццаць месяцаў, пакуль былі Саветы.

Мы па-дзіцячы пыталіся: «Дзе тата? Дзе тата?».

Шукалі нас, мы былі раз тут, раз у іншым месцы, каб не вывезлі. У украінцаў, палякаў, дзе ўдавалася. Добрыя былі суседзі, мы таксама нікому нічога кепскага. Не здрадзілі нас. Дзякуй Богу, тыя, сямёра, выратаваліся.

Наш касцёл называюць «Рука, нага, мазгі на сцяне». У час яго будоўлі на тым месцы знайшлі каменную скульптуру паганскага бажка. Усё, што ад яго засталося, умуравалі ў сцяну са знешняга боку. Галава, рука, ступак.

Гэта было пры каралі Ягайле ў 1392 годзе, — вядзе да вызваленых з-пад пластоў тынкоўкі фрагментаў сярэднявечных роспісаў.

— У сорак першым прыйшлі немцы. Бацька пакінуў схрон. Быў спіс тых, хто перажыў Саветы — усіх сямёх выклікалі на працу. Маці сказала — «ідзі, камуністы пабітыя, не вернуцца». Адчынілі турму — бярыце сваіх. Перад адыходам НКВД ўсіх палітычных перабілі. У самой турме забілі іх можа з дзвесце. За магістратам таксама, вугалем іх цэлы прысыпалі. Людзі хадзілі, шукалі. Праз два тыдні яны пачалі раскладацца, смярдзела страшна, урэшце закапалі іх у агульнай магіле.

За час вайны скончыў я яшчэ два класы польскай школы.

Яўрэям немцы зрабілі за тыя гады страшныя рэчы. Ім не пазайздросціш — голад, сутарэнні, канавы, паміранне.



Яны казалі — не ўсіх жа нас заб'юць, гэта не змяшчаецца ў галаве. Нам таксама не змяшчалася.

Не кожнай экскурсіі паказвае ён роспісы на скляпеннях касцёла, дзе намалявана разня палякаў: — Тут у 1648 годзе была такая рэвалюцыя, распачатая Хмяльніцкім, пасля якой касцёл быў знішчаны, ёсць умураваная дошка на званніцы. Сённяшняя ўлада там напісала — «Казакі і сяляне вызвалілі горад і перамаглі польска-шляхецкае войска» Горад быў безабаронны, усіх перабілі. Тых, што схаваліся ў касцёле, пахавалі за парогам. Пазней, каб не таптаць іх косці, дабудавалі там капліцу.

У сорак чацвёртым, у жніўні, ніхто не чакаў, горад не быў захоплены, на золку арыштавалі бацьку тыя, з НКВД. Забіралі паводле спісу, толькі пасля гэтага ўвайшло войска. Выслалі ў лагер, Ужлаг. Адным прысудам, за раз, асудзілі дзве тысячы чалавек. Астатніх палякаў выганялі на заходнія землі. Усе, хто маглі, выехалі. Касцёл быў без ксяндза, мы самі там збіраліся, а канчаткова яго зачынілі 30 чэрвеня 1949 года, зрабілі ў касцёле склад. Мы засталіся. «Пачакаем бацьку» — сказала мама. Сваякі тры гады трымалі нам у Шчэціне мэбляванае жыллё. Трэба было паехаць — так сёння думаю. Было цяжка, я пачаў працаваць на вытворчасці дахоўкі, там пры немцах яўрэйская брыгада працавала, вечарамі трэніраваўся. Адзінае, што меў для сябе — мяч. Адразу, як толькі вайна скончылася, мы гулялі вуліца на вуліцу, пазней мяне ў «Буравеснік» узялі, пры тартаку, гуляў з мясцовымі — «Нафтавікам» і «Спартаком» — за ўваход у другую лігу. Мы прайгралі, 2:0. У 1950 забралі мяне ў войска, у Мінск, у вайсковай камандзе гуляў. Адслужыў я сваё, праз чатыры гады ў снежні вярнуўся. І бацька тым жа годам вярнуўся, быў ужо дома. Чорнарабочым на тартаку працаваў да самай пенсіі. Апавядаць не хацеў. «Табе тое, што я перажыў, ведаць непатрэбна. — Казаў. — Ты малады, павінен верыць у жыццё». Ведаю толькі, што везлі іх морам, памерлых кідалі ў ваду. Палова не даехала. Пасылкі мы ў Кіраў адпраўлялі.

Пазней ён вядзе нас праз увесь касцёл да алтарнай часткі каб паказаць тры вялізныя драўляныя памятныя дошкі, арыгінальныя, яны вісяць на сценах і на іх запісана гісторыя касцёла, і чацвёртую, гэткую ж вялізную — пра жыццё ксяндза Марціна Латэрны, спавядальніка Баторыя. Ён загінуў, чацвяртаваны і выкінуты ў Балтыйскае мора шведамі.

— Калісьці, каб запісаць гісторыю пакутніцкай смерці аднаго чалавека, была патрэбна такая дошка. — Кажа ён

Пасля войска я лічыўся аўтамеханікам, тады гэта называлася іначай — «галоўны інжынер лесапільні» — але насамрэч пасада была «спартыўнай», збіраў футбольную дружыну, даваў добры заробак. Абяцаў, што будзе час для трэніровак, кожны другі дзень — выхадны, штат спартоўца. Жонка мая па смерці маці і дзеда з прадзедам тут пасялілася, дзявочае прозвішча Бібр, яе бацька з чэхаў, за Польшчай трапіў працаваць тут у нафтаперагонцы. Загінуў у «Пальміне» падчас бамбаваньня, у 1944 годзе, 26 чэрвеня дзве тысячы амерыканскіх самалётаў скідвалі бомбы. Спачатку быў звон, як камарыны, усё больш моцны, аж пакуль не загрымела, раздзіраючы вушы, увесь свет быў аглушаны. Стала шэра, нібыта ўвечары, гэта самалёты засланілі сонца. Усё неба пакрылася алюмініевай лускою, і тады ўдарылі першыя бомбы. Выбухнуў чорны слуп дыму. Немцы зачынілі брамы, а хто спрабаваў уцячы — стралялі. Загінула тады ў «Пальміне» восемсот чалавек. А потым на могілках ганаровая варта, *«Хайль Гітлер»,* урачыстасць. У 1956 годзе я ажаніўся, самы блізкі «дзеючы» касцёл мы мелі ў Самборы. Хто б падумаў — камсамолка, у бухгалтэрыі бойні працавала, а тут — шлюб у касцёле. Два гады пасведчанне не забірала, званілі ёй, выклікалі, маці яе вар'яцела — дачакаешся! Рабілі выгляд, што не ведаюць, улады тады да мяне прыязнымі былі, потым ужо састарэў для футбола. Дом пачалі будаваць, як кажуць, сваімі рукамі. У 1957 годзе дачка нарадзілася, Багуслава, Багуся, медыцынскі скончыла, чатырма гадамі пазней — Адам,



стаматолаг. Ну, і ўнукі пайшлі, па-нашаму ахрышчаныя, з дачкой па-польску размаўляюць, з бацькам — па-ўкраінску, добра, што прыстойны чалавек і не забараняе. Які ім лёс прадвызначаны, таго ніхто не ведае, яны цяпер можа раскажуць — быў сабе дзед, была таксама бабуля…

Пасля знішчэння ў пачатку XVIII стагоддзя, касцёл адбудавалі, — рэшту свайго аповеду пра гісторыю касцёла ён прамаўляе, стоячы пасярэдзіне, у праходзе паміж лавамі, — роспісы нанава зрабіў тутэйшы мастак, Андрэй Салэцкі, уся гісторыя Драгобыча, сцэны з яго жыцця на сценах. Колькі пад імі засталося даўнейшых, сярэднявечных аздабленняў, невядома.

Вайна ўсіх памірыла, перад вайною нас было пятнаццаць тысяч. Яўрэяў столькі ж сама, як каталікоў, і рэшта праваслаўных, можа тысяч восем. Зараз Драгобыч мае восемдзесят чатыры тысячы, нашых і тысячы няма, кажуць — дзевяцьсот шэсцьдзясят восем асобаў, яўрэяў няпоўных дзвесце, чужых, з усходу прыбылі. Толькі адзін даваенны драгобыцкі застаўся. Нічога ад нас не залежыць, мы тут на паміранні, але павінны пасля сябе нейкі след пакінуць.

Быў час, калі нельга было размаўляць па-польску, маліцца не было дзе, святкаваць не дазвалялі. Заўсёды былі якіясьці тэрміновыя сустрэчы, неадкладныя заказы, камандзіроўкі — на Каляды, на Вялікдзень трэба было ісці на працу, толькі ў працоўныя дні не было чаго рабіць. Мы жылі тут як тыя першыя хрысціяне, таемна збіраліся, часам прыязджаў ксёндз, крадком адпраўляў у доме імшу.

Калі касцёл зачынілі, тут зрабілі склад макулатуры, пачалі ўсё граміць, пабілі вітражы, праекты да якіх рабілі вучні Мацейкі, прыгожыя былі, усяго некалькі шыбак угары ацалелі. Трохчацвяртныя арганы першы сакратар горада прадаў за 300 рублёў кудысьці на ўсход, грузінам. Прыйшла зіма, быў мароз, каб касцёл абагрэць палілі ў такіх жалезных козах, усё па чарзе пайшло ў агонь: алтары,

абразы, лавы, канфесіяналы, спалілі бясцэнныя кніжкі з касцельнай бібліятэкі. Закапцілі скляпенні, пачарнелі роспісы. З абсталявання касцёла тыя чатыры дошкі ацалелі… Урэшце ў алтарнай частцы пачалі тынк збіваць, забялілі сцены, у касцёле зладзілі музей атэізму.

Калі дадаць службу ў войску, то больш пяцідзесяці гадоў працаваў, шмат часу. Атрымаў за тое пенсію 536 *грыўняў*, гэта дакладна 100 даляраў, газу ўзімку выпальваем больш чым палова гэтага, а ўсё роўна холадна, ходзім па доме апрануўшыся. Святло 40, вада 30, тэлефон 50, лекі…аж не хочацца казаць, напрамілы Госпадзе, маёй пенсіі недастаткова. Але мы не наракаем, прыходзіла на нас і горшая бяда. Моладзь уцякае ў горад, вёска спустошваецца, на старых людзях трымаецца, асцём, дзядоўнікам, *«будакамі»* палеткі зараслі, па вёсках пустыя хаты, кароў павыразалі. Хто на зямлі павінен працаваць, што ён матыкай ці рыдлёўкай зробіць? Усё з дня на дзень даражэе, бохан хлеба ўжо 2,80 *грыўні*, кілё цукру 3.80, кілё мяса 40 *грыўняў*, як жыць? Так што ў маёй галаве толькі ратаванне таго касцёлу, можа тады штосці пасля мяне застанецца.

У 1987 пачалі мы наконт касцёла стукацца — у Кіеў, у Маскву напісалі мы сто дваццаць чатыры лісты да ўладаў, ні на адзін не атрымалі адказу. Мелі мы яшчэ адзін касцёл — капуцынаў, на гары Вайтоўскай. Занялі яго Саветы, войска, праклалі бэлькі, зрабілі на першым паверсе сталоўку, а на другім клуб. Грэка-каталікі ўсё адбілі, адрамантавалі і зрабілі царкву. Нам у 1989 дапамог ксёндз Станіслаў Драгула з Вроцлава. — Збірайце подпісы, — сказаў, — завязём вашыя лісты ў Ватыкан. У канцы года да Святога Айца прыехаў Гарбачоў і тады паабяцаў аддаць касцёл. 13 снежня выклікалі нас у ратушу — прыйшлі ў Драгобыч па той справе паперы — яшчэ спрабавалі па-свойму выкруціць, маўляў вы раніцаю набажэнства адпраўляеце, мы ўвечары там будзем клуб ладзіць, спатканні атэістаў. Але мы, толькі нам ключы 16 снежня далі, памянялі замкі.



Касцёл пусты, упершыню за сорак гадоў Божае Нараджэнне тут святкавалі. Памаленьку так працуем, збіраем капейку да капейкі, дах зрабілі на дзвесце гадоў, вада нам на галовы не льецца, маем дзе маліцца, алтары бакавыя нам з касцёла ў Кракаве далі, сцены сушым, нас толькі жменя, можа дзвесце чалавек палякаў, якія цвёрда стаяць ля веры. Большасць пенсіянеры, людзі старыя, капейкі ахвяруюць, як можна за тыя грошы адрамантаваць? Нашаму Папу помнік перад касцёлам хочам паставіць, гэта ён насамрэч нам касцёл сыскаў, ён — наш дабрачынца.

Дадае: — Часамі думаю, з якога прысуду, з чыёй волі я тут знаходжуся, застаўся, з якой мэтай.

Паказвае скрынку для ахвяраванняў і заканчвае тымі самымі звыклымі словамі: — Усіх прашу, калі можаце, дапамажыце нам, бо самі не дадзім рады касцёл да хараства вярнуць.

І дзякуе заўсёды адным і тым жа чынам: — Шчасці вас Божа у імя Айца і Сына і Духа святога.

# КРАМЯНЕЦКІ ЛЕМАНТАР. ХТО ТЫ?

Дабраслаўёныя дрэвы стогадовага ўзросту
Нейкі галава роду для сваёй пасекі
Садзіў Вас, ўзіраючыся ў далёкую будучыню
З думкай пра залаты мёд для ўнукаў сваіх дзяцей (...)
Будзьце дабраслаўёныя! Хоць бура зваліла
Маладзейшых за вас, вялізных, і яны пад нагамі
Загарадзілі шлях вандроўцам, пагражаюць сукамі,
Вы ж перажылі вякі:
Бо ў каранях сіла.

*Ірэна Сандэцка. «Вершы з-пад гары Боны*

— Не любяць нас тут. Перашкаджае ім наша рэлігія, мы самі, наша гісторыя, якую спрабуюць змяніць. Перад вайною ў нашай дыяцэзіі было 169 касцёлаў, зараз жа , паводле дадзеных за некалькі гадоў, толькі 22, але і яны як пясчынка ў воку, колюць. Тое ж, што зараз тут будуюць каля 100 лютэранскіх збораў, нікому не перашкаджае. Нашы выступаюць у ролі наіўных, легкаверных турыстаў, што частуюць дзяцей цукеркамі. Маладыя украінцы едуць да нас на заробкі. Праз нашы рукі да мясцовых трапляюць падарункі з Польшчы. Крыніцаю і асноваю пражыцця тут з'яўляецца наш бесклапотны зямляк і пенсія.

Яны ўсведамляюць, што знаходзяцца ў расейскай кішэні. — Гэта не маё меркаванне, гэта я прачытала нядаўна ў газеце — дастаткова Маскве закруціць краны з нафтай і газам, як уся тутэйшая гаспадарка ўпадзе на калені.

Бог, Гонар, Айчына — гэта можна было прачытаць на нашых штандарах. Бог — ёсць. Айчына — таксама. Але куды падзеўся наш гонар? Каму падаем руку?

Тое, што ўжо адбылося, немагчыма змяніць, трэба быць дурнем, — кажа з запалам, быццам штосьці змяніць могуць гэтыя словы.



— Была ў мяне група з польскага тэлебачання. — Мы не можам гэтага даць у эфір, — сказалі. — Маем забарону рабіць фільмы на гэтыя тэмы. Не хочам працягваць звяртацца да мінулага, якое нас раздзяляе. — Паехалі. Іх справа. Прыехалі наступныя. З Кіева, з украінскага тэлебачання. Я чакала. Урэшце ўзнікла тое пытанне. Немцы пакаралі сваіх злачынцаў, — сказала я, — і зрабілі гэта на вачах усяго свету. Прызнання Расеі сваіх злачынстваў мы былі вымушаны чакаць доўга, але дачакаліся — яны прызналі Катынь, ГУЛАГ. Ад вас, выбачайце, дагэтуль не пачулі ні слова. Замест гэтага мы чуем, што гісторыя, якую вывучае моладзь, павінна быць чыстай, што вінаватыя абодва бакі, што аперацыя «Вісла», што павінны пачакаць — *«вам трэба шмат цярпення»* — каб умацавалася маладая украінская дэмакратыя, каб з'явілася нацыянальная самасвядомасць народа.

Тым часам розныя разумнікі папраўляюць дакументы, перайначваюць факты.

Гэта паказанне непасрэднага сведкі. Усе польскія дамы вытрыбушаны даастатку, «перакапаныя» ад страхі да сутарэння, разгромлены, расчынены, знішчаны. Ні душы. Вішнявец. Я была там з апошнім атрадам немцаў, упрасіла аўстрыйскага генерала, які паслаў туды разведчыкаў, каб дазволіў ім узяць нас. Хацелася б даведацца хоць бы прозвішчы тых хлопцаў. Старэйшы з жаўнераў меў 24 гады, малодшы — 16, усе з прыстойных аўстрыйскіх сем'яў, відаць немцы збіралі ўжо астаткі, раз бралі на вайну дзяцей. Адмысловы аддзел матацыклістаў. Яны паабяцалі мне, што дапамогуць шукаць тых, хто выжыў. Мы ўвайшлі ў падзямелле праз акно. Велічэзны касцёл, паблізу палац. У крыпце прываленая абломкамі вялікага алтара кабета з немаўляткам на руках, зверху хлопчык гадоў, можа, дзесяці, прыгожы твар з доўгімі вейкамі, заплюшчаныя вочы і... надрэз — шырока развалены чырвоны шнар на шыі. Кінутых адразу закапалі, так заўсёды рабілі. Потым мы спаткалі першага паляка, які гэта перажыў —

Гансяроўскага, зарослага, абшарпанага як жабрак. Ён нам распавёў, што адбылося. Іх забраў савецкі старшы лейтэнант, загадаў арганізаваць самаабарону, заказаў для касцёла хлеб у пякарні і ваду. Хтосьці стрэліў з засады, і… няма старшага лейтэнанта, ёсць труп. Нашы замкнуліся з манахамі ўсярэдзіне, частка схавалася ў сутарэнні. І тады з'явіўся атрад у мундзірах, які паведаміў, што ён — Саветы. — Клікалі нас: «Мы стаім, можаце выходзіць». Першым забілі ксяндза, потым астатніх. Найбольш здзекаваліся з кабет, якія служылі ў нямецкім войску. Хлопец, што камандаваў абаронай, зусім разгубіўся, не зрабіў ні стрэлу, яго жорстка закатавалі. Я маю двух сведкаў, якія могуць пацвердзіць, яны ўсё бачылі: Капусцінскі, уцякач, у Вішняўцы загінулі яго бацькі, і Канапацкі, адтуль жа, меў там знаёмых. Звесткі пра вынішчанае мястэчка з'яўляюцца менавіта такімі. Што рабіць? Уявіце сабе жах ад весткі, што разведчыкі едуць далей. Калі паспрабуем вяртацца самі, чакае нас смерць — там, у Чорным лесе стаяць бандэраўцы. Нават няма выбару. Каб жыць, трэба ехаць далей. Так апынуліся мы ў Збаражы. Я памятаю тыя пахі ў манашак на кухні, столькі гадоў мінула, а такія рэчы ў памяці — для нас міска з вадою, крупіна крупіну даганяе — калі ласка, вось справядлівасць. А што я павінна зрабіць: аднаго з тых спадарожных памочнікаў узяла ад жонкі, другога ад маці, я за іх адказваю.

*Думаю* — ёсць дома добры лікёр, як адыходзілі Саветы толькі гэта ў крамах засталося, пайшла на той алкаголь ўся пенсія мамы, можа ўдасца пераканаць, папрашу каб нас адвезлі ў Крамянец.

*Кажу* — нам жа смерць прадвызначана, можам паехаць, але штосьці ж ад жыцця хочам — спачатку пойдзем разам у кіно. Вайна! Але быццам бы — чаму не, хай будзе кіно. Гэта ў галаве не можа памясціцца — кіно! І ў час фільма, першай серыі, снарад з гарматы, савецкія танкі на вуліцах. Сані, якімі вяртацца меліся, прапалі. Адзіны вольны праезд праз Тарнопаль. У вялізным заторы нямецкія аўтамабілі з кансервамі, шакаладам, хлебам — забеспячэнне.



«Танк! Ур-ра!» — Паніка. «Танк, танк…!» Пярэпалах, усе кудысьці бягуць, уцякаюць — адны сюдой, другія тудой. З таго дня памятаю я той густы, тлусты пах ежы ў паветры манастырскай кухні, і фільм.

З Божай дапамогаю вярнуліся мы ў Крамянец.

— Ратуймася! — пачала я бегаць па дамах, бо на ўласныя вочы бачыла, што сталася ў Вішняўцы.

— Што рыхтуецца? — Выйдуць немцы, а тады ударацць яны.

Перш, чым прыйдуць Саветы. Дзве гадзіны і нас не будзе. Хопіць часу. Мы бачылі, што тут ёсць іх кіраўніцтва, на схіле Боны.

На ўсялякі выпадак — у доме насупраць ёсць зброя, там мы павінны сабрацца і бараніцца.

Ранкам выходжу — савецкае войска.

Трывогі не было. Усю ноч хтосьці страляў у паветра асвятляльнымі ракетамі. Генерал, той аўстрыец ці сілезец, нас уратаваў. Так — уратаваў. Пакінуў старога жаўнера, прыгразіў яму расстрэлам, гэта ён выпускаў тыя ракеты адну за другой — каб думалі, што ў горадзе яшчэ немцы. А можа зрабіў гэта з уласнага інтарэсу, каб спакойна адступіць. Пэўна гэта эгаістычна, але я ўсіх прашу каб даведаліся яго прозвішча. Гітлераўскі генерал — хто гэта быў? Тыя хлопцы з яго аддзелу, за дзень да адыходу прыехалі развітацца, яшчэ характэрная прыкмета — адзін быў без вуха.

Шкада мне іх — думаю, што загінулі. Гарантавана! Аўстрыйцы не любілі Гітлера, таму кідалі іх на пабіццё Саветам, каб прыкрыць адступаючыя аддзелы. На смерць.

Распараджэнне ўлады за часамі Хрушчова: да 1980 года рэлігія ў СССР перастане існаваць. На допыце ў МГБ* мяне папярэдзілі, што за парушэнне дзеючага закона буду пакараная. Я чула аб працэсах супраць кабет, што вучылі дзяцей

* Министерство Государственной Безопасности ўтворана ў 1946, было ператворана ў 1963 годзе ў МВД. — Заўв. аўт.

мове і рэлігіі, якія скончыліся выракамі да шматгадовага турэмнага ўвязнення альбо высыланнем у лагеры.

Я напісала той лемантар ад рукі, адна. Гэта былі два звычайныя сшыткі для малюнкаў, з іх складаўся падручнік для вучобы. І гэтыя школьныя падручнікі сталі пагрозай для ўлады.

*«...Трэба іх да хроснай мамы, што жыве ў Крамянцы на вуліцы Шырокай.*

*Правіла: Пасля «t», «ch», «k», «p» пішацца «rz», хоць чуецца «sz»*

*Выключэнне pszczoła і pszenica*
*Olek jest dobry, ale Ala jest lepsza.*
*Wala jest duża, ale Jula większa.*
*Stasia jest najpracowitsza.*
*Ta staruszka jest głucha, a ta głuchsza.*

*Правіла: пры змяненнях прыметнікаў пасля «t» пішам «k», «p», «ch», «sz»*

*Гэта касцёл Крамянецкага ліцэя. 150 і 40 гадоў таму тут была славутая польская школа, 150 гадоў таму у гэтай школе вучыў польскую мову бацька Юліюша Славацкага, Яўгеніюш Славацкі. «Mamo moja, cudny kraj opuściłem i pewnie już do niego nigdy nie powrócę» — пісаў Юліюш Славацкі да маці ў Крамянцы...»* — гэтым падручнікам я карысталася для навучання дзяцей польскай мове (Ірэна Сандэцка *«Лемантар Крамянецкі»,* Кельцы 2002).

*Калі ты хочаш срэбра — ідзі на Ікву-раку,*
*Там срэбрам зіхацяяць надвіслянскіх вербаў кроны*
*І дзіды сонца срэбныя плынь Іквы рассякаюць*
*І ад хвалі серабрыстай чуцен срэбны сьмех.*

*(Ірэна Сандэцка «Вершы з-пад гары Боны»)*

Крамянец — гэта не Украіна, а Польшча. На тое ёсць дакументы ў Архіве Старажытных Актаў. Год 1883, чацвёрты сшытак, старонка 777, літара «к» — *«Геаграфічны слоўнік каралеўства Польскага і іншых краінаў славянскіх»* Крамянец — 1064 год, прыбывае Баляслаў Смелы, якому добраахвотна аддаюць горад і замак Макасеі Дзяніскі, яго ўладальнікі. Гэта наша неад'емнае права. Без уліку таго, што яны тут зрабілі. А што пазней гэтыя землі пераходзілі з рук у рукі..

Я кажу гэта, каб даць усім палякам зразумець, што яны тут у сябе, у сваім доме. Але ніхто не хоча сюды вяртацца — баяцца прыехаць на сталае жыццё. Калі і бываюць тут дзеці і ўнукі выгнаных палякаў — то так, па святах, былі і сплылі.

Калі б не Славацкі, пэўна ніхто б сюды не прыехаў. Нарадзіўся ён у доме бабулі і дзядулі, у доме, якога на жаль ужо няма. Стаяў да пачатку І Сусветнай вайны. Улады прадалі той дом яўрэям. Хутка, паспешна, быццам прадчувалі, што сюды вернецца Польшча. Яго абклалі цудоўнай старой цэглай, так што хоць бы з гэтай прычыны варта было яго набыць. Каб супакоіць грамадскую думку, пусцілі плётку, што Славацкі нарадзіўся ў доме, які набыў яго бацька.

Гэта ўсяго некалькі крокаў па другім баку вуліцы, зараз там музей. Калі бацьку Славацкага прапанавалі пасаду ва ўніверсітэце , яны разам выехалі ў Вільню. А пасля яго смерці дом быў прададзены каб расплаціцца за адукацыю сына. Маці вярнулася ў Крамянец і там у доме бабулі і дзеда Славацкі выхоўваўся да дзевятнаццатага году жыцця, туды прыязджаў на канікулы. Тыя ўсе плёткі, што ў свой час распускаліся, былі глупствам. Жылі сведкі з роду Славацкіх, якія цудоўна ведалі, дзе ён насамрэч нарадзіўся. Тое месца прызначылі для саду ружаў, там пасадзілі тры таполі, захаваліся здымкі... *«У даліне, завешанай імглою, сярод таполевых калон, хай светлым пачуццём дзіця пра будучыню марыць...»* (Юліюш Славацкі *«Гадзіна думкі»*). Але прыйшлі Саветы, якія не мелі жадання нічога шанаваць, і пабудавалі ў тым месцы спартыўную залу. Да двухсотай гадавіны народзінаў Славацкага рукой падаць, маем няпоўны год каб знесці залу, вярнуць тую тэрыторыю. Тут большасць вельмі любіць грошы, таму гэта можна зрабіць.

Толькі мы павінны ўсе гаварыць у адзін голас.

Саветы пагарджалі рэлігіяй, але ўшаноўвалі вялікіх, выбітных людзей. Пазней ужывалі іх для ўласных мэтаў. Загадалі забраць помнік Славацкаму з касцёла. Але яго творца, Шыманоўскі, які зрабіў помнік у Парыжы, раздзяліў яго на фрагменты, і тут у касцёле ледзьве склаў. Савецкая камісія зразумела, што дэмантаваць помнік нельга, бо гэта пагражае знішчэннем скульптуры. І Славацкі ўратаваў нам касцёл, які адзіны ў луцкай дыяцэзіі дзеля прапаганды не быў зачынены. Мы касцёл захавалі насуперак усяму. Бо гэта наша права і наша спадчына, ён быў пабудаваны тады, калі пасля лістападаўскага паўстання ўсе касцёлы пераўтваралі ў цэрквы. Сведчанне аб нашай нязломнай волі.

Дванаццаць гадоў я пражыла як няверуючая, атэістка. Пасля факультэта філасофіі ва ўніверсітэце я дайшла да высновы, што чалавечыя намеры з'яўляюцца занадта слабымі, каб нешта ўведаць у справах Бога. Так, альбо не. Таму я выбрала самае сумленнае рашэнне. Сказаць — не ведаю. Гэта значыць не наведваю касцёл, не малюся, бо — не ведаю. Але калі пачалі знішчаць касцёлы, змагацца з рэлігіяй — сэрца адазвалася. Пачала чытаць — Бог хоча ад нас веры і не дае доказаў. І калі ў Бердычаве я пайшла на гутарку да ксяндза, той адказаў мне ў час казання — *«Некаторыя думаюць, што з-за філасофіі страцілі веру, іншыя — што адшукалі, калі чыталі кніжкі, але гэта не так, гэта прыходзіць Дух Святы»*. Відавочна прыйшоў.

А ні дома, а ні плота, а ні студні, а ні будкі, а ні... Да такой ступені нас тут не любяць. Калі прыехала сюды панна Рагальска, бацька якой меў тысячу гектараў, каб убачыць дом свайго дзеда, не ўбачыла нічога — толькі голае поле. Усё польскае нішчыцца. Ужо тое добра, што ў нас у Крамянцы не было разні. Гэта яны да Славацкага маюць слабасць.

*«Калі здарыцца — у той маёй краіне,*
*Дзе па далінах цячэ мая Іква,*


*Дзе мае горы высяцца ў блакіце*
*А горад над звонам шумлівым струменя,*
*Дзе водар ландышаў з левадаў*
*Накатвае на скалы... хаты і сады...*

*Калі там будзеш... у нетрах душы,*
*Хоць промнем да цела вернутай,*
*То не забудзеш маёй тугі,*
*Што стаіць там залатым анёлам,*
*Ці аблятае арлом горад*
*І зноўку на скалах ззяе ў спакоі».*

*(Юліюш Славацкі «Калі здарыцца —*
*ў той маёй краіне...)*

— Мы запісалі на іх карысць, што выракаемся сваіх злачынстваў, гэта значыць, што пачынаем саромецца. Я чарговы раз чытаю зараз «Агнём і мячом» — нічога не змянілася, яны такія ж самыя, як былі калісьці. Кажуць — паляк, немец, француз крадзе, але ведае, што робіць кепска, а украінец наадварот — што добра, лічыць гэта прычынаю ганарыцца. Але я ім тлумачу і веру, што незалежнасць іх ад гэтага вылечыць, дагэтуль яны абкрадалі тых, ад каго залежалі.

Зараз жа абкрадаюць сябе, сваю краіну. А гэта ўжо абсалютна іншае.

Пакуль што я маю іншую праблему, бо тут паблізу робяць самую лепшую ў горадзе самагонку, і як уначы ўсе каты чорныя, гэтак уначы ў маё акно грукаюць.

Я не належала да партызанскага руху, але ў савецкай вязніцы сядзела. Мяне занадта ведалі. Тут немцы ацэньвалі нас іначай, чым у Польшчы. Мы не былі для іх пагрозай, нам даручалі кіраванне прадпрыемствамі, адміністраванне маёмасцю, бо вядома — паляк не крадзе. Тут з палякаў фармавалі паліцыю. І рэч не ў калабарацыі, супрацоўніцтве з немцамі, а ў зброі.

У самым пачатку акупацыі было, можа, горш — чыстку сярод нашых зрабіла украінскае Гестапа. Гэта мінула, асабліва калі нашы шуцманы ўратавалі немца ад бандэраўскай баявой дружыны. У 1943 годзе вялікая частка украінскіх паліцыянтаў са 102 батальёна дэзерціравала да УПА. Мы былі вымушаны бараніцца, патрэбны былі карабіны, пісталеты, амуніцыя — як іначай змагацца за сваіх у небяспечных сітуацыях? Гэта гучыць неверагодна, але калі набліжаўся фронт, немцы падагналі нам пасажырскі вагон для эвакуацыі ў Кракаў кабет з дзецьмі (толькі адна Прытомска мела шасцёх). Так што тут мы жылі з немцамі трохі інакш, нам было лягчэй.

Мяне клічуць Ірэна Сандэцка. Я нарадзілася 11 красавіка 1912 года ў Умані, горадзе больш польскім, чым шмат якія польскія гарады сёння, мы мелі свой касцёл, сваіх ксяндзоў, сваю школу, свой тэатр, сваіх харцэраў, наш быў памочнік камандзіра харцэрскай дружыны Камінскі, аўтар «Каменняў на шанец»... Магу нават пералічыць прозвішчы суседзяў: Чарняеўскія, праз плот Канеўскія, Вінаградскія, далей Чайкоўскія... адным словам — палякі. Мае бацькі паходзілі з Варшавы, мама была настаўніцай у школе, бацька як дыпламаваны бухгалтар — скончыў венскую «Гохшуле», працаваў у маёнтках памешчыкаў. Пасля студэнцкіх гадоў з'явілася ў яго вялікая любоў да нямецкай літаратуры, асабліва да Гётэ. Як аўстрыйскі падданы быў у 1914 годзе вывезены ўглыб Расеі, вярнуўся пасля савецкай рэвалюцыі. Прыйшлі кепскія часы расстрэлаў, забойстваў, праз мястэчка перакочвалася рэвалюцыя. То чырвоныя, то пятлюраўцы. І ўрэшце польска-бальшавіцкая вайна. Маўчанне Саветаў. Падпісанне ў 1921 годзе дамовы аб усталяванні мяжы, якая абурыла украінцаў, бо тыя разлічвалі на незалежнасць. Савецкая медыцынская камісія выдала маме пропуск на выезд да сваякоў каб падлячыцца. З пячаткай. Уся хітрасць грунтавалася на тым, што месца побыту знаходзілася паблізу мяжы. Мы задумалі ўцячы, нелегальна яе перайсці і апынуцца ў Польшчы. У той кантрабанднай працэдуры браў удзел цэлы шэраг людзей.



Перадапошняй ноччу мы перайшлі Прыпяць. Вада біла ў колы фурманкі, на якой нас везлі. З намі была пара расейцаў, якія прычынялі жахлівыя праблемы: яна прыбраная як на баль, на шпільках, з каханым, які апрача валізы быў вымушаны цягнуць і яе. А не маючы дастаткова сілаў, увесь час адставаў. Праваднік быў перапалоханы: — Вас зловяць — вернуць да месца жыхарства, мне ж — адразу куля ў лоб. Мне тады было дзевяць гадоў.

На каленях мы цалавалі польскую зямлю. Гэта для дзіцяці было трохі смешна, матуля прышыла усім нам мяшэчкі, па два на такіх шлейках: адзін спераду, другі ззаду. Кожны штосьці нёс, тата найбольш, я, паколькі была самай малой, атрымала для пераносу грошы і каштоўнасці. У пэўны момант нас заспеў патруль, мы схаваліся пад мастком, я чула стук капытоў над галавою, не заўважылі. І ўрэшце мяжа, рака, заказаны човен і куплены украінскі памежнік. У нас была гадзіна, і мы паспелі: спачатку кабеты і дзеці, потым мужчыны. Нашы жаўнеры без пытанняў забралі нас у школу, накармілі. Я тады ўпершыню піла піва, у краме больш нічога не было купіць. І нас паслалі ў Роўнае ў казармы на каранцін. Бо тады панавала воспа, яшчэ здараўся тыф, іншыя хваробы... Кармілі нас уволю: раніцаю, увечар, у полудзень — гарохаўка, потым шмат гадоў не магла я нават глядзець на гэты суп. Там мы спаткалі знаёмага лекара, нас выпусцілі і мы вярнуліся ў Варшаву. Вучылася я ў пансіёне ім. Эміліі Плятар — так тады казалі пра прыватныя школы. Дырэктар нашай школы ў Умані, Пякарскі, які ведаў маю маму, прапанаваў ёй працу ў Крамянецкім ліцэі. Там я скончыла гімназію ім. Тадэвуша Чацкага, пазней, у шаснаццаць гадоў — экстэрнам — настаўніцкую семінарыю імя Гуга Калантая і пачала вучыцца ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Скончыла педагагічны факультэт і тры гады працавала ў агульнаадукацыйных школах у Роўным, Крамянцы, Сасноўцы.

З 1 верасня 1939 года я павінна была пачаць працу ў педагагічнай школе ў Пшчыне. Але была на канікулах.

Наша камендантка харугвы, Марыля Скарупска, прыгожая і разумная дзяўчына, хадзячы ідэал, прапанавала мне калонію для дзяцей польскіх работнікаў з Лімбургіі, у Бельгіі. Гутарка ішла пра «зуховую методыку», працу з малымі дзецьмі, такі «зух» з'яўляецца лепшым, чым «харцэр». Я паплыла на судне «Гелій» — цудоўная кухня, капітан загадаў падчас абеду не падаваць алкаголь — «з намі едзе харцэрка». Дружыны насілі назвы польскіх гарадоў, гэта была такая наша ідэя. Я займалася Варшаваю, Кракавам і Львовам. Казкі, легенды, песні або постаці, звязаныя з гісторыяй. Памятаю варшаўскі заклік *«Дам рады сам»*. Жыла я ў цудоўна абсталяваным доме, адна, пачувалася там жахліва: за мяжой і толькі сама, сама, сама… Ужо набліжалася вайна, будзіла няпэўны настрой. І проста подласць — кепскія ўмовы працы для польскіх работнікаў, без медыцынскай страхоўкі і пенсіі. У багатай Бельгіі для нашых нічога нельга было зрабіць. На ўрачыстым заканчэнні лагерных збораў у Брусэлі я завяла гутарку пра бальшавікоў, пра іх поспехі і перамогі калі ішлі на Варшаву, і тым ганебным разгроме — адносна немцаў і іх заявы. Палітыкаў з дыпламатычнай місіі хапіў удар, яны не хацелі абвастраць сітуацыю, але я была шчыра перакананая, што немцам мы дадзім рады. Усе вярнуліся ў Польшчу гэтак жа, як прыехалі — цягніком, толькі я адна не мела нямецкай візы, а на судна мяне ўзяць не маглі, бо мелі іншыя загады. Купляю я ў чыгуначнай касе квіток, а мне кажуць: — Кракаў бамбілі. Вярталася кружным шляхам: цэлы дзень па Францыі, уначы па Швейцарыі, потым па Італіі. У Венецыі страшэннае хваляванне, паўсюль патрулі. Югаславія, Венгрыя і Румынія. Гэта была вандроўка —ў краіну на памежным пераходзе я адна, а ў адваротным кірунку натоўпы ўцекачоў-яўрэяў. У Львове паветраная трывога, я там была за дзень перад знішчэннем чыгуначнага вакзалу.

У Львове мяне ўзялі на вайсковую кухню — «мы не патрабуем ад кабет страляць з карабіна, нам трэба кабеты абіраць бульбу». Усіх добраахвотніц на вайну як вымелі! Там страху не было, у Львове ніхто немцаў не баяўся. Мы вазілі ад пляцоўкі да пляцоўкі капусту і гуляш. Пазней былі ўжо толькі хлеб і гарбата. Тая кабета, якая кіравала коньмі, сказала такое, што я запамятала па сёння: — Ірэна, у нас ёсць толькі мука і цукар, але пакуль у нас ёсць, то маеш тут што есці. Яшчэ ў перавязачным пункце я скубла корпію, потым стала санітаркаю, апекавала пані Наварытаву, якая падчас бамбавання зламала нагу. Бачыла сполах на яе твары, калі на пытанне пра кваліфікацыю адказала, што магу зрабіць ускрыццё, гэтаму навучылі на ўроках біялогіі. На кароткі час вярнулася ў Крамянец, якраз на Каляды. Але лёс упарта вяртаў мяне ў Львоў, быццам гэты горад быў мне наканаваны. Знайшла сабе працу ў неўралагічнай клініцы доктара Гальбама. Ліфцёрам там працаваў граф, швейцарам памешчык — іншымі словамі, мясцовая арыстакратыя. Я — спачатку ў бібліятэцы, пазней на начных дзяжурствах. Там прафесар Кмітовіч распавёў мне пра лёс майго роду, якога выгнаў з Судэччыны яго продак. Зындрам, пра яго ўзгадваў Сянкевіч у «*Крыжаках*», павінен быў быць маім сваяком. А я заўсёды трымала ў сабе гэткую сціпласць — мой дзед быў варшаўскім краўцом, узначальваў рамеснікаў, выдаваў фабрычную газету.

Я вярнулася ў Крамянец, два гады працавала ў Белакрыніцах сакратаркаю ў Лясной Школе. Там мяне застала нямецка-бальшавіцкая вайна, чарговая акупацыя. У 1941 годзе я пачала працаваць у нямецкай канторы стэнаграфісткай-машыністкай. Пачынаўся час, калі трэба было арганізоўваць дапамогу палякам, якія ўцякалі ад бандаў, самаабарону. Ежа, спальныя месцы ў залах, касцёле. У Крамянец яны траплялі пасля страшных падзеяў. Жахлівыя вобразы, што назаўжды засталіся ў памяці — забітыя кабеты, дзеці.

І зноў вярнуліся бальшавікі. І ўсё пачалося спачатку. Мяне арыштавалі, сядзела я ў вязніцы МГБ у Крамянцы, у Збаражы. З маладымі украінкамі з ваколіцаў Тарнопаля — ах, як прыгожа яны спявалі! Мы танцавалі ў камеры

танга — насуперак усяму. Мяне, хоць і адмовілася ад супрацоўніцтва, выпусцілі. Яны таксама вярнуліся на вёску, і — гэта было неверагодна! — іх замардавалі свае, выкалалі ім вочы, западозрылі ў здрадзе. Мяне паставілі перад выбарам: супрацоўніцтва, альбо восем гадоў увязнення. Але нічога не зрабілі, у апошні момант перад вызваленнем загадалі вышараваць усе падлогі, каб хоць гэткім чынам мяне упакорыць. Афіцыйна я не працягвала сваю педагагічную працу, бо занадта добра ведала, як гэта можа скончыцца. Стала лабаранткаю ў шпіталі і гэтак ужо трывала да пенсіі. А неафіцыяльна — вучыла, вядома, дзяцей польскай мове, рэлігіі, рыхтавала да першай камуніі. Хадзіла з імі на раку, у лес, на гару Боны, запрашала да сябе ў дом. Я належала да парафіяльнага кіраўніцтва, касцельнай рады, якая займалася ўсімі справамі функцыянавання святыні, наймала ксяндза, выплочвала яму ўзнагароду, рабіла штогадавыя спісы касцельнага абсталявання.

Супольная мова ў малітве… Цяпер дзяды не знаходзяць у малітве супольнай мовы з унукамі. Гэта сумна. Касцёл тут заўжды быў апораю польскасці. Нашаю цвярдыняй. Гэта цяпер таксама мяняецца, і мы не маем на працэс уплыву. Нашы касцёлы украінізуюць. Запанавала ідэя экуменізму. Можа калі-небудзь, у далёкай будучыні, гэта дасць плён. Але цяпер катэхізацыя, літургія праводзяцца тут на украінскай мове. Мае меркаванні тут не ўлічваюцца. Спашлюся на артыкул «Палякі на былых усходніх ускраінах» Дзванкоўскага. Ён грунтуецца на статыстыцы апошняга года панавання савецкай улады. Польскія карані прадакляравалі каля мільёна палякаў. Пыталіся — «ты украінец?» — «Не, пішы «паляк». Але толькі 12.5% ведалі родную мову, калі ў той жа час у Летуве сярод палякаў — 85%, а ў Беларусі — 13.5% — такая была наша рэчаіснасць. Толькі малітва, святы, каляндар, звычаі трымалі іх пры польскасці. Зараз усё гэта атрымалі па-ўкраінску: малітва, набажэнства… і ўсё гэта прападае. Можа такім астатнім бастыёнам польскасці з'яўляецца гэты дом, у мяне гутараць толькі па-польску, тут наша мова абавязковая. Калісьці



гэты дворык належаў Вілібайду Бэсэру, батаніку з сусветнай славаю. Дзякуючы яму у мясцовым школьным батанічным садзе знаходзіліся расліны з усіх кантынентаў. Прызнаюць яго украінцы, расейцы, аўстрыйцы, немцы, палякі… але на ўсялякі выпадак не пішуць нацыянальнасці, толькі «вялікі вучоны». Набліжалася двухсотая гадавіна закладкі таго саду. Зрабілі, здаецца, прыгожую памятную дошку на двух мовах, і ўсё, дакументы згінулі. Усё, бо тут жа сядзіць старая Сандэцка і скуголіць — што забівалі, што банды…

Бо мне ж нічога не могуць зрабіць — маю больш за 95 гадоў. І спадзяюся, што не дажыву да тых часоў, калі ў Крамянцы не будзе ўжо аніводнага паляка.

*«Дык мы не самі! — За намі мільёны*
*Жывых і памерлых душ войска змагароў (…)*

*(Ірэна Сандэцка «Вершы з-пад гары Боны»)*

— Я старая, глухая, сляпая.

Да таго ж страшна пагарджаю біццё па мячы. Прыдумалі Алімпіяду, маўляў гэта збліжае моладзь. Я чытала, што нейкі там гулец у футбол з'яўляецца такім жа важным, як прэзідэнт Пуцін. Адзін дурань, які прапусціў мяч у сетку, здзейсніў самагубства. Гэткі зараз свет.

Толькі б мы не даліся вар'яцтву.

Бо сапраўды — за што так змагаемся?

Калі-небудзь трэба нарэшце запытаць — хто ты?

## БЕЛАРУСЫ, БЕЛАРУСЫ...

*«...я праінфармаваны, што ў выпадку, калі гэтая інфармацыя акажацца ілжывай, віза можа быць анулявана ў любы момант»,* — такой перасцярогай заканчваецца візавы бланк.

Справа сама па сабе простая — я думаю пра гэта, запаўняючы візавую анкету і капаючыся ў шуфлядзе ў пошуках фатаграфіі. Бланк бадай тыповы, неспакой будзіць толькі дэманстратыўная цікаўнасць. Гэтыя тыповыя, звычайныя ў іншай сітуацыі пытанні на тэму месца працы (тэлефона працадаўцы, пасады, адрасу ўстановы), папярэдніх візітаў, людзей, якія запрасілі, іх адрасоў, тэрмінаў і месцаў знаходжання. Звышадчувальнасць, завялікая ўражлівасць, — тлумачу я сабе, — нявер'е — гэта, відаць, першыя сімптомы хваробы. Яе пераносчыкамі з'яўляюцца медыя.

Але сухасць скуры на далонях застаецца.

У крайнім выпадку я не маю дзе схавацца.

Але ж гэта можа сказаць кожны.

І яно зусім не павінна быць праўдай.

Тады я паехаў з калектывам людзей, у групе, хацеў пазбегнуць стомнай візавай працэдуры. Скарыстаўся нагодай, што іх запрасілі са спектаклем.

У аўтобусе свабода і прыватная прастора невялікая, усё выглядае інакш, працэсы раздзелаў адбываюцца ў абмежаваным аб'ёме, і маюць асаблівую, выразную драматургію. Ёсць рашучая меншасць, што займае заднюю частку аўтобуса — звычайна непакорная і мяцежная, ёсць яшчэ нешматлікі перад, і большасць, якая займае сярэдзіну і акупіруе нават крайнія сядзенні. У пэўным узросце, пераступіўшы пяцьдзесят, матывам дзеянняў перастае быць моладзевая цікаўнасць да свету, ці службовы абавязак, вырастае значэнне іншых рэчаў, змяняюцца чаканні.



Відаць той псіхоз недаверлівасці перадаўся і астатнім. Нават пасля пераходу мяжы панавала маўчанне. Хоць Брэст застаўся дзесьці за намі і мы імчаліся па аўтастрадзе, пабудаванай да алімпіяды ў тыя часы, калі сацыялістычны лагер быў яшчэ аб'яднанай фармацыяй, «братнім саюзам», які намерваўся апанаваць свет.

Яшчэ памятаю доўгую чаргу да мяжы, нервовыя паводзіны кіроўцаў, нахабства мытнікаў. Так было тады.

Гэтым разам паспрабую інакш, — вырашыў я, — заўжды трэба пэўныя змены, паеду цягніком.

***Няспешнае падарожжа на мяжы ўяўлення***

Цягнік выклікае пачуццё настальгіі. Нагадвае мне старасвецкі дыліжанс. Такое сентыментальнае падарожжа на мяжы ўяўлення і часу...

Сёння, калі маем у распараджэнні сучасныя тэхналогіі, якія дазваляюць перамагаць прасторы, такое няспешнае падарожжа — гэта экстравагантнасць, — думаю я, пазіраючы, як усё павольней коцяцца вагоны. Адлегласці перасталі быць праблемамі. Праблемамі сталі адрознасць сістэмаў, культур, рэлігій і ідэалогій. Тады нават геаграфічная блізкасць не мае значэння.

Вакзал «Варшава Заходняя», ноч, холадна, адзінока стаю на пустым пероне. Ля кожнага вагона маладая кабета ў чыгуначным мундзіры. Доўгія, да шчыкалатак, цёмнасінія паліто, шэрагі залацістых гузікаў. Не ведаю, чаму мне гэты імпазантны жаночы батальён нагадвае той, які стаяў на варце перад Зімовым Палацам. Тады ад атакі юрлівых, п'яных матросаў з «Аўроры» пачалася «чырвоная» рэвалюцыя. Гэта цяпер толькі эпізод з падручніка гісторыі пра колер крыві.

Міграцыйная карта — раз.

Мытная дэкларацыя на шэрай газетнай паперы — два.

Спачатку валюта, каштоўнасці, ювелірныя вырабы. Зброя, наркотыкі, прадметы мастацтва, кнігі, носьбіты інфармацыі, агрэсіўныя і атрутныя рэчывы, радыеактыўныя матэрыялы, прадстаўнікі флоры, фаўны, і вытворныя

з іх прадукты, высокачастотныя прыборы і сродкі сувязі.… Спіс небяспек, ад каторых афіцыйныя органы абараняюць грамадзян.

— Не трэба, навошта рабіць сабе і камусьці клопат, — сусед з ніжняй паліцы бесцырымонна камячыць маю дэкларацыю рукою.

— Нічога не маем, нічога не вязём, — паведамляе ён мытніку, хоць хвіліну таму сунуў пад коўдру закручаны ў ручнік ноўтбук.

— Так нельга, ёсць закон, пэўныя правілы, калі б кожны так сябе паводзіў… — кажа яму пасля сыходу мытнікаў беларус з верхняй паліцы, які стала жыве ў Польшчы.

## Кожнаму паводле заслугаў (тады)

Памятаю, як я гартаў даведнік перад папярэднім выездам: сярэдняя шчыльнасць насельніцтва — 49 чалавек на квадратны кіламетр, лясы, торф, невялікае радовішча газу з'яўляюцца адзінымі прыроднымі багаццямі Беларусі. Гэтая інфармацыя змешвалася з пейзажам за акном. Хваёвы лес… у мяне тады было ўражанне, што гэтак жа, як у казках, лес можа не мець канца. А калі ўрэшце пачыналіся палеткі, і позірк сягаў далёка — зноў нічога, ніводнага паселішча, ні сядзібаў раскіданых між палямі, ні сціплага мястэчка. Калі б не засеяныя кукурузай плантацыі, сарваная з трактарнага кола шына на раллі, можна было б падумаць, што мы перамяшчаемся праз нежылыя, бязлюдныя раёны. Парадак. Трава скошана, парадак, у прыдарожных канавах няма і следу смецця, парадак, на лясных паркінгах пуста, чыста, парадак, вочы раздражняюць пабеленыя вапнай валуны з малюнкамі звяроў, гэта нагадвае гульню, такую дзіцячую дэманстрацыю ахайнасці, не менш — парадак, парадак і яшчэ раз…

Самая высокая гара мае ледзьве 346 метраў над узроўнем мора і названа імем рэвалюцыянера Фелікса Дзяржынскага.



— Што вы, палякі, маеце супраць яго? Ён жа ваш суайчыннік. — Пыталіся мяне суразмоўцы.

Ну, так, калісьці казалі, што кожны народ мае такіх герояў і правадыроў, якіх заслугоўвае, закон, здаецца, мае універсальны і адваротны характар.

## На паверхні сну… грукат (зараз)

Цягнік. У начным цягніку святло лямпачкі акрэслівае межы святла, аддадзенага ў валоданне падарожнікам. Там за акном чорная сажа, патушаная прастора. Тут — пажоўклая мяжа руху… вялай гутаркі.

— Мая маці — полька з роду Дварэцкіх, бацька — расеец, пачынае гутарку пасажыр зверху каб нечым запоўніць час…

— Мая мама са старой польскай сям'і Дравецкіх, бацьку ўбачыла ў няволі, у лагеры, у Магілёве. Ён быў казак з Растова, улада перасяляліла іх у Данецк, працавалі ў вугальных шахтах, бо казацтва было забаронена. Спадабаўся ёй, папрасіла дзеда, і той выкупіў яго ў нямецкага афіцэра за *«лукошка»* яек. Немец толькі: *«мала яйка, мала яйка»,* — словы змешваюцца з настойлівым грукатам колаў, да якога дадаецца скрыпенне тармазных калодак і віскат адчыняемых дзвярэй.

— Пасяліліся на хутары Дабрасневічы, бацька не хацеў у сінія паліцаі, пайшоў у лес, у *«чырвоныя партызаны»,* дапамагалі Саветам перамагчы. Дзед Дравецкі дажыў да 98 гадоў, два метры вышынёй, у царскім войску ў драгунах… — выкліканы ўяўленнем вобраз хвалюе, затуманьваецца імглой, вочы заплюшчваюцца і толькі грукат колаў, па паверхні сну… грукат.

## Маша моліцца за нас (тады)

Тады, у першы раз, начаваць здарылася ў кляштарным доме ў Баранавічах — памятаю яшчэ вечаровы выезд у Завоссе, хуткі, каб не губляць часу. Быць тут і не скары-

стацца гэтай блізкасцю… Размешчаны сярод бяскрайніх палеткаў дворык быў зачынены. Хто позна ўстае…, але вартаўнік згадзіўся прывязаць сабак. Можам агледзець музей звонку. Тыповая драўляная беларуская хата, доўгая, прысадзістая, крытая саломай.

— Адчынена нядаўна, у 1996 годзе, амаль новая, — падкрэслівае вартаўнік з кранальнай шчырасцю, — тут нічога не было, усё пабудавана ўжо за маім часам.

Калі б не раскінуўся луг, над якім паволі збіралася мгла, вечаровае святло… і цішыня, што агарнула ўсё. Высокія плечы жорава ля студні дасягалі зор…

— Што тут казаць, гэткія ж халупы можна ўбачыць і ў нас, у Польшчы. Толькі што крытыя шыферам. Але гэта зменіцца. У нас, бо тут па вёсках паўсюль на першым месцы тое лайно, шыфер, яго дастаткова.

— Якая Тэлімена… — правакацыйна пачынае нехта.

— Э, Мадонна! Гэта толькі палка.

Вяртаемся ў Баранавічы. Навіцыятак у кляштары больш дзесяці, іх позіркі ўважлівыя, цікавяцца ўсім датычным нашай суполкі, строямі, бялізнай, касметыкай. Апускаюць вочы.

— У большасці беларускі, — тлумачыць старэйшая манашка, — прызвычаіліся да гасцей з Польшчы. Маша… ох, што за дзяўчыска! — Заклікае адну з іх да парадку.

— А дзеля бяспекі, — кажа яна далей, — просім не пакідаць тэрыторыю дома. — Аб начлегу групы заяўлена ў міліцыю, браму зачыняем а 21-й.

У Машы замглёныя прыгожыя вочы. Па-нашаму яна Марыся.

Маша моліцца за нас… Гэта пакаранне.

## Мінск у студзені і дажджавая песня (зараз)

«Чай ілі кофе», — пытанне апярэдзіў скрыгат энергічна адчыняемых дзвярэй, з дынаміка загучала маршавая музыка, «с добрым утром», мы даехалі да Мінска. Горад прывітаў нас дажджом, хоць у студзені снег быў бы больш натуральным. Не кажучы ўжо пра мароз (траскучы, і мядзведзі на вуліцах) — звыклыя стэрэатыпы замацаваліся ў свядомасці дзякуючы выпадковым спадарожнікам, і іх працілеглым рэчаіснасці аповедам. Плюх, плюх па лядовай кашы, якой пакрыты перон, уніз па сходах, доўгім тунэлем пад зямлёю, сходамі ўгару, і зачараванне, асляпленне: сучасны з кожнага боку — і ў неба, і ўпоперак — чыгуначны вакзал. Праз таніраваныя шыбы зыркаюць усярэдзіну першыя нясмелыя прамені. Брама Мінска спавіта далікатным вэлюмам імглы. Гэта сыходзяць парам , адтаюць у сонечным цяпле сцены сацрэалістычных вежаў насупраць чыгуначнага вакзала.

## Івянец, францішканцы і звон (тады)

Тады менавіта гэтае мястэчка, сягаючае сваім заснаваннем у шаснаццатае стагоддзе, было галоўнай мэтаю нашага падарожжа. У 1702 годзе з дазволу стольніка мінскага Тэадора Ваньковіча пасялілі тут айцоў францішканцаў. Іх стараннямі, са складак і ахвяраванняў збудаваны мураваны касцёл і кляштар. На вежы таго касцёла вісеў звон, які канфіскавала акупацыйная адміністрацыя ў часы вялікай вайны 1917 года. На яго месца ў 1935 годзе за кошт складчыны стральцоў, падафіцэраў і афіцэраў гарнізона Корпуса Аховы мяжы, усталявалі новы. Той наваствораны звон ахрысцілі імем Юзафа Пілсудскага, маршалка Польшчы. На ім размешчана прысвячэнне: *«Св. Арханёл Міхале барані нас у барацьбе з сіламі цемры»*. Майстрам, які выканаў той заказ у сваёй майстэрні, быў Якуб Крушэўскі, раменнік з Вэнгрова. Сюдою, у сарака кіламетрах ад Мінска, у міжваенны перыяд пралягала мяжа паміж адроджанай пасля раздзелаў Польшчай і бальшавіцкай Расеяй. Раскрыць гісторыю адлітага ў той час звона сёння немагчыма. Канфіскаваны ў 1944 (тут сведчанні разыходзяцца, даюцца розныя даты, ёсць такія, што настойваюць на 1943), падрыхтаваны да вывазу і знішчэння, звон пэўна падзяліў бы лёс свайго папярэдніка, але невядома чыімі клопатамі, ён, які важыў нашмат больш

тоны, уначы знік. Нягледзячы на пошукі, праведзеныя тагачаснымі савецкімі ўладамі, знайсці яго не ўдалося. Ужо толькі пасля вайны ў вёсцы Каноплічы, у вуллі на пасецы арганіста, які выехаў у Польшчу, выпадкова натрапілі на парафіяльныя кнігі і метрыку «звона маршалка». Прайшло больш за шэсцьдзясят гадоў.

## Падчас шпацыру па Мінску (зараз)

…думаю пра Івянец… Спроба ахапіць большую паўнату горада з натоўпам мінакоў, што спяшаюцца невядома куды і навошта, рэгіёна і людзей у ім, памяці, якая жыве ў іх як смаляная стрэмка (не кажучы пра народ і краіну), патрабуе дыстанцыі, назірання зверху. Але тады губляецца канкрэтыка, размываецца вобраз. Праўда жыве на ўзроўні дэталяў, яе можна пераказаць толькі сыходзячы ўніз, апісаць зблізку кропку на карце. Ці хопіць таго невялікага, пазбаўленага прамысловасці сельскага пасёлка з адзінаю галоўнай вуліцай і нядаўна пабудаванай у цэнтры на шырокай плошчы цэркаўкай, каб як пад лупай пабачыць у ім усю Беларусь? Я памятаю пышны, мураваны двухпавярховы будынак Польскага дома. Тут жа слова «пышны» мае крыху іншае значэнне. Большасць будынкаў аднапавярховых, драўляных, пэўна гэткім быў Івянец і пяцьдзесят і сто гадоў таму. Жыццё цячэ тут ляніва, яго рытм вызначаюць поры года, прырода. Даволі вялікую частку жыхароў складаюць палякі, большасць з іх працуе ў калгасе. Калі прыходзіцца распавядаць пра сябе, яны захоўваюць асцярожнасць, пераважна маўчаць. Нягледзячы на гэта, я хацеў бы туды вярнуцца. Але ці будзе мець маё вяртанне сэнс, ці не акажацца гэты выбар Івянца памылкай?

## Няма як… Мінск (тады)

Мінск уражвае. Пачынаецца без папярэджання і гэтак жа заканчваецца. Тут няма прадмесцяў, ля шашы няма шыльдаў, сігналячых пра блізкасць горада. Яшчэ добра не скончылася разаранае поле, як ужо раптоўна з'яўляецца скрыжаванне са святлафорамі, паселішча на пяцьдзясят тысяч жыхароў, забудаванае панэльнымі шматпавярховікамі. Васьміпавярховыя шэрыя блокі з бетону, кожны даўжынёю амаль на кіламетр. Субота пасля апоўдня, але горад здаецца мёртвым, шырокія вуліцы пустыя, часам з выхаду метро на паверхню высыпаецца жменька людзей. Пануе лад і парадак, гэты парадак здаецца такім жа ненатуральным, як той, на лясных паркінгах, разлічаны на ідэалізаваную, пазбаўленую стасункаў з рэчаіснасцю меру. Выклікае падазрэнне, што тыя два мільёны, можа нават больш, чым два мільёны жыхароў Мінска, выкарыстоўваюць суботні час схаваўшыся ў бетонных клетках у чаканні панядзелка. Мы праходзім каля замкнутых крамаў, зачыненых рэстаранаў. Здаецца, што горад пагрузіўся ў сябе, застыў у нерухомасці. Так, нібыта збіраўся ніколі не абудзіцца, не падхапіцца ў панядзелак па голасу сірэны, што раскаціўся над дахамі. Толькі на набярэжным бульвары ля Свіслачы нешта адбываецца, круцяцца групы маладых людзей. Можа гэта абавязак маладосці, тая патрэба адрознення ад паводзінаў бацькоў, дэманстрацыя інакшасці. Да царквы, што стаіць на цэнтральным бульвары, пад'язджаюць вясельныя аўтамабілі. Мабыць у нешта вераць, мабыць задаюць сабе пытанні — у якой краіне прыйдзецца жыць іх дзецям.

Мы на хвіліну затрымліваемся ля помніка Міцкевічу. Ад гучання чужой мовы навокал пусцеюць лавы.

— Беларусы такія асцярожныя, так дыстанцыруюцца, што няма з кім пагаманіць. — Прыходзіць раптам камусьці ахвота да размовы.

— Ажно дрыжыкі па спіне, быццам мурашы аб'елі мяса гэтага горада да каменя, бетону. — Дадае.

## Адпуст святога Міхала (тады)

Урачыстасці, звязаныя з асвячэннем адшуканага звона запланавалі на 29 верасня 2006 года — парафіяльны дзень івянецкай парафіі святога Арханёла Міхаіла. Дарма,

што пачынаюцца яны амаль у поўдзень, натоўп збіраецца зранку.

Гэта хіба ўпартасць францішканцаў зрабіла, што ў Івянцы ўвесь час бальшыню складаюць каталікі. Можна сказаць ператрывалі надзвычай неспрыяльныя варункі і рэпрэсіі. Бачу на многіх тварах слёзы…

Добра, што надвор'е вытрымала, і няма дажджу.

З'яўляюцца першыя аўтамабілі з дыпламатычнымі нумарамі. Мінае паўгадзіны, а ўсё доўжацца афіцыйныя прамовы. Кабеты ў народных строях пераступаюць з нагі на нагу, холадна. Урэшце пачынаецца імша, казанне на двух мовах — усё па пратаколу. І надыходзіць момант паўторнага асвячэння звона. Першы ўдар нібыта здушаны часам, гук нясмела адбіваецца ад кляштарных муроў, вяртаецца, але ўжо другі коціцца як хваля, дрыжыць у паветры, потым трэці і наступныя… гук, воклічы нарастаюць, набіраюць моцы, дасягаюць неба.

Звон.

— Цуд, нічога апрача цуда, што ўдалося яго адшукаць, больш шасцідзесяці гадоў ляжаў у зямлі, відаць ніхто з тых палякаў, якія яго тады схавалі, ужо не жыве.

— Будзем за іх маліцца. — Узносіць далоні ўгору айцец Лех, гвардыян ордэна францішканцаў, які адпраўляе імшу.

## Анансаванне блізкіх перспектываў Кульшычаў (зараз)

— Я памятаю асвячэнне звона ў 1935 годзе, было мне тады сем гадоў, хадзіў у першы клас. Некалькі пакаленняў майго роду жылі паблізу Івянца, у Кульшычах. Менавіта там у 1891 годзе нарадзіўся мой бацька Казімір і ў 1900 годзе мая маці Гэнавэфа, з дому Юхневічаў. Толькі для іх гэта была Расея, а я нарадзіўся ў Кульшычах пры Польшчы, 9 снежня 1927 года (у той час гміна Івянец, павет валожынскі, ваяводства навагрудскае).

Мяне клічуць Фэлікс Паплаўскі, — кажа, пазіраючы ў акно, за якім віруе снегапад. — Першы, самы стары след з



1861 года, да якога мне ўдалося дасягнуць, гэта дакумент, дзе пералічаны чатырнаццаць сем'яў з нашай вёскі, там ёсць аб вызваленні майго прадзеда ад прыгону і атрыманні валокі зямлі.

У нашай вёсцы была школа на чатыры класы. Але не ўсе хацелі вучыцца, былі такія, што бацька або маці на вяроўцы вялі іх у клас. Для бацькоў існавала кара, гэта называлася «школьны абавязак». Наша суседка, удава, тыдзень адседзела ў гміннай арыштанцкай, бо не пасылала дзяцей у школу. Настаўнікам быў Мар'ян Шаховіч, падпаручнік рэзерву, 1913 года нараджэння. Пасля вайны я спрабаваў яго адшукаць. Па ягонай рэкамендацыі бацькі запісалі мяне ў сямігодку, але вучыўся я ў Івянцы толькі год, прыйшоў трыццаць дзявяты і ўвайшлі Саветы. А пасля іх на нашы каркі ўпалі немцы. Гэта нібыта яны рэквізавалі званы, але пасля іх адыходу тыя ўсё яшчэ былі, зніклі калі ў Івянец вярнулася Чырвоная Армія. У сутарэннях касцёла абсталявалі склад паліва і алівы, у галоўнай наве паставілі такарныя станкі па металу, тут рабілі дэталі па заказу мінскага трактарнага завода.

## Настаўнік з Радома — весткі Фэлікса Паплаўскага

— Што тычыцца настаўніка Мар'яна Шаховіча, то пасля вайны я спрабаваў яго адшукаць, распытваў людзей, пісаў чыноўнікам, усе дарогі прайшоў, але што можа такі Фелікс Паплаўскі, просты чалавек, — кажа пра сябе, корпаючыся ў стосе папер і кніжак, — ведаю, што нарадзіўся ён у Радоме 2 лютага 1913 года, у 1933 годзе скончыў слонімскую настаўніцкую семінарыю і пачаў працаваць у нашай вёсцы, Кульшычах, настаўнікам чатырохгадовай школы. Калі ён ішоў дарогаю, немагчыма было яму не пакланіцца, такою карыстаўся павагаю, гэта быў жаўнер да мозгу касцей.

Я маю інфармацыю, што ён скончыў курсы падхарунжых рэзерву і 1 студзеня 1937 года атрымаў званне падпаручніка. На выпадак вайны меў мабілізацыйнае прыкамандзі-

раванне, як і яго старэйшы брат Зыгмунт, да 72 пяхотнага палка імя Дзяніса Чахоўскага. Гэта была адзінка, якая ўдзельнічала ў вайне з бальшавікамі, а з 24 красавіка 1922 года размяшчалася ў Радоме. Сам прэзідэнт Рэспублікі, Станіслаў Вайцяхоўскі ў жніўні 1923 года ўручыў ім штандар ад Камітэта горада Радом і радомскага павета.

Калі выбухнула вайна, ён прыйшоў у школу развітацца. Яму змянілі прыпіску на загад увайсці ў Корпус аховы мяжы «Івянец».

— Вайна яшчэ не скончана. — Сказаў ён на вестку пра напад бальшавікоў пану Пілярскаму, маёру, удзельніку першай вайны, яшчэ з легіёнаў. Гэта было 17 верасня, з усходу чулася страляніна. Саветы абкружылі іх у ваколіцах Ліды, раззброілі. Трапіў у няволю.

Апошняя вестка пра яго паходзіць ад Пётра Трасянкі, мясцовага краўца, падафіцэра рэзерву. Іх везлі ў лагер, цягнік затрымаўся ў Маладзечне, выламалі ў падлозе дошкі.

— Давай, будзем уцякаць, — прапанаваў Трасянка.

— Вы можаце, я — не, не было загаду, вайна працягваецца, за гэта куля ў лоб, — неяк так адказаў Шаховіч.

Я ведаю, што ў лагеры ён спаткаў брата Зыгмунта. У спісе «Цвінтарнай кнігі» знайшоў іх здымкі. Ведаю, што іх павезлі ў Катынь. Там згінулі.

Напісалі, што ў яго брата засталіся жонка і дачка. Я прашу нагадаць ім, што яго вучань з Кульшычаў заўжды пра яго памятае. Можа яшчэ ў Радоме жыве хтосьці з яго блізкіх, чакае гэтых словаў…

### Грошы гэта ўсё і не (тады)

— Трэба недзе памяняць даляры і пакаштаваць гэтай Беларусі, якая на смак у роце, — з дзіўнай упартасцю трымаецца памяркоўная большасць, што прадстаўляе сярэднюю частку салона аўтобуса, — хоць піва альбо гарэлкі, ці шакаладу, слодычаў паспрабаваць, пакуль банк працуе.

У Беларусі няма прыватных абменнікаў, абмен валюты прыватнымі асобамі забаронены. Немагчыма разабрацца ў тых мясцовых грашах, ад курса галавакружэнне, за даляр у банкаўскай касе даюць дзве тысячы сто чатырнаццаць беларускіх рублёў. Тысячу дзвесце тых мясцовых рублёў каштуе піва, самая танная гарэлка ( гэта ў Польшчы найбольш папулярны маштаб) — па-рознаму, у межах пяці тысяч… гэта нейкія няпоўныя тры даляры. З гэтага вынікае, што праблемы для турыстаў, якія наведваюць Беларусь, ніколі не павінны скончыцца. Рэчаіснасць у гэтым плане разыходзіцца з розумам. Верх бярэ палітыка.

### Чаму Івянец? (зараз)

Зіма, але на вуліцах няма снегу, гэты часовы дэфіцыт пазбаўляе студзень карцiннасці — гурбаў, пуховых шапак, эфектных малюнкаў на шыбах, снежнай белі, але не дэфармуе вобраз Івянца. Нічога не памянялася, існуе толькі шэрасць, паўсядзённасць, усё знаходзіцца пагружаным у цішыню і будзённасць. Я спрабую прыгадаць вычытаныя ў штогодніках дадзеныя за 1931 год: 3084 жыхары, 574 дамы, з іх мураваных толькі дзесяць. Паштовае аддзяленне, шпіталь, гарадскі суд, агульнаадукацыйная школа, дом жаўнера, аптэка, касцёл св. Міхала, царква (былы касцёл св. Тройцы), паліцэйскі пастарунак, дом яўрэйскай гміны, казармы Корпуса аховы мяжы, касцёл св. Аляксея (называны «чырвоным»), крамы, бойня, млыны, цагельня, рака Волма… Нават два гатэлі, кіно «Світанак» і лётнае поле. Не кажучы пра рэстараны, брукаваныя вуліцы, электрычнае асвятленне.

Вайна паставіла Івянец перад выпрабаваннем, вырвала з ілюзій, усё паставіла дагары нагамі: разбурыла парадак і спакой, змяніла прапорцыі паміж дабром і злом, адных саштурхнула ў бездань, у амаральнасць, іншым дала шанец на захаванне чалавечнасці. Польскія партызаны з атрада імя Тадэвуша Касцюшкі 19 чэрвеня 1943 года занялі мястэчка, сігналам да атакі быў голас «Звона маршалка». На іх бок перайшла беларуская «цёмна-сіняя» паліцыя, кіраваў боем «Леванд» — паручнік Кацпер Мілашэўскі, жыхар

Налібоцкіх ваколіцаў, удзельнік вераснёўскай кампаніі. Гэтыя чатыры дні параўнальнай вольнасці пазней назвалі «Івянецкім паўстаннем». Але ці дасца гэтая інфармацыя, прапушчаная праз фільтр часу, усярэдніць сябе, абагульніць у адзіны вобраз? Нават калі дапоўнім падзею, дададзім з боку лютасці яшчэ нямецкага жандара Савінёля, называемага івянецкім катам, а з боку святасці двух францішканцаў, прызнаных Касцёлам дабраславёнымі — айца Ахілеса Пухалу і айца Германа Стэмпня, забітых немцамі 19 ліпеня 1943 года ў вёсцы Баравікоўшчына.

## Прагулянка па канаце (тады)

Пад канец завезлі нас у Нясвіж, радавую сядзібу (з 1533 года) Радзівілаў. У сутарэннях касцёла Божага Цела ляжаць парэшткі прадстаўнікоў гэтага магнацкага роду. Шэрагі трунаў. Усе аднолькавыя, збітыя з простых бярозавых дошак, пафарбаваныя пад цёмнае чырвонае дрэва фарбаю, якая у нас калісьці ўжывалася для фарбавання падлогі. Тых трунаў больш сотні. Яны шчыльна запаўняюць памяшканне крыпты.

— Былі ўмацаваныя дротам і апламбаваныя, замкнутыя, — тлумачыць пробашч. У той час выкарыстоўвалі падвойныя труны, тыя, што ўнутры — з бляхі.

Я разглядаю іржавы дрот, дугу прымітыўнага вісячага замка, прапушчаную праз вушка. Навошта? У краіне, дзе ліквідуецца са школ родная, беларуская мова і замяняецца на чужую, расейскую, у якой заціраецца нацыянальная ідэнтычнасць, пэўна такіх пагрозаў, такіх пытанняў больш.

— Жыццё ўвесь час падкідвае горкія жарты, невядома, як яны складуцца. — Чую за спінаю шэпт.

— У нешта ж трэба верыць, іначай усё ў дупу. — Голасна выражае сваё меркаванне нехта яшчэ.

— Гэта такая прагулянка па канаце, можа здарыцца ўсё.



## ...спачатку гэта будзе мода, потым азарт (зараз)

Івянец — пасёлак гарадскога тыпу. Той свет малога мястэчка, запхнутага новым парадкам пасля вайны на ўскраек жыцця, у мінулы час, дазваляе прасачыць правілы, акрэсліць маральнасць, якімі ў глабальным маштабе кіравалася дзяржава. Усё бачна як на далоні. Гэтыя пяцьдзесят гадоў Івянец упіраўся. Змены мелі павярхоўны, уяўны характар, датычыліся знешніх параметраў функцыянавання адміністрацыйнай адзінкі, тэрміналогіі і сімволікі. Змяніліся лозунгі, назвы кантор, прызначэнне будынкаў, Івянец меў нават музей Фелікса Дзяржынскага з філіяй у недалёкім Дзяржынове. Камяні, якімі перад вайною выбрукаваны вуліцы, закрыты пластам асфальту, пастаўлены бетонныя шматпавярхоўкі для жылля. Вось і ўсё, калі насамрэч, то нічога не змянілася. Нават калі нарэшце прыйшла незалежнасць і вольнасць. У штосьці, аднак, трэба верыць, чагосьці чакаць, за штосьці змагацца. Пэўна на ўсё прыйдзе час. Зрэшты гэта наконт вольнасці, неасцярожна падараванай людзям, перасцерагаў валадароў у 1881-м пасол пры двары Аляксандра І, Жозаф дэ Мэстр, калі пісаў: *«...спачатку гэта будзе мода, потым азарт, нарэшце шал (...). Свабода дзейнічае на такія натуры як моцнае віно і хутка б'е ў галаву, непрывычную да яго».*

**ПУСТАЯ СТАРОНКА!!!!!!!!!!!!!!**



# Кніга лічбаў
## Падарожжа чацвёртае — прастора прароцтваў

I бачыў у правай руцэ Засядаючага на троне кнігу, спісаную знутры і звонку, запячатаную на сем пячатак.

*Апакаліпсіс св. Яна 5.1*

# МЫ З ВАРКУТЫ

— Я не хачу называць сваіх імя і прозвішча. Гэта нікому не патрэбна.

Не хачу, каб хтосьці нават выпадкова даведаўся, што я прайшла праз тое пекла.

Чалавек умее прыстасавацца да якіх заўгодна ўмоваў.

Пабудаваць вакол сябе свет.

І тады лягчэй.

Не хачу памятаць, як гэта было.

Але нават у пекле можна жыць.

Калі памяць мяне не падманвае, і я правільна прыгадваю, вывезлі нас 10 ці 12 лютага 1940 года. Памятаю, што ў апошнія хвіліны бацька яшчэ спрабаваў забіць свінню, каб узяць на дарогу хоць трохі ежы. Яго клікалі Мацей, маму ж Эўфрасіння. Мы жылі ў Чэкні пад Луцкам, там мае бацькі пабудавалі дом. Засяліліся мы ў яго ў 1935 годзе, тая дата моцна захавалася ў маёй галаве — у тым годзе, 12 траўня, памёр маршалак Юзаф Пілсудскі. Бацька быў солтысам, паводзіў сябе па-панску, на працу ў садочку надзяваў пальчаткі. Ворнай зямлі ўраблялі шмат, а на беразе Стыра у нашым ужытку быў кавалак лугу. Коні, воз, абсталяванне, каровы — мы мелі ўсё неабходнае для гаспадарання. У тым ліку дапамогу сям'і і суседзяў.

Нікога ўжо няма. Нічога не засталося пасля Шліхтаў. Няма і патрэбы гэтакай, каб цяпер пра тое ўзгадваць.

У Чэкні жылі разам украінцы і палякі. Побач. Пасярэдзіне вёскі ішла галоўная дарога, ад яе адыходзілі дзве бочныя. Самая блізкая чатырохкласная школа была ў вёсцы Яловыч. Улетку хадзілі кароткім шляхам, праз ручай. А зімою дзяцей вазілі ў школу санямі — раз давалі падводу яны, раз мы. Ніхто з гэтага не рабіў праблему. Была крама, якую трымалі яўрэі. Быў таксама маёнтак, тут ля царквы, у маёнтку жыў палкоўнік, між ім і бацькамі існавалі прыяцельскія адносіны.

Вакол маёнтка я памятаю прыгожыя ліпы.

Палкоўніка з сям'ёю і частку нашых асаднікаў, тых што жылі бліжэй да Стыра, вывезлі раней. Да нас дайшла чарга з другой хваляй. Вывозіць — бо кулак, дах пакрыты быў ацынкаванай бляхай, «дом пад срэбрам». Засыпаць студню — бо кулацкая. Потым выкапалі новую, а цэлы год хутар ездзіў за вадою да ракі.

Бацькоў вывезлі ў Шокшу на лесапавал, каля Архангельска. Мне асобна далі лагер у Варкуце. Таварны цягнік, якім нас везлі, тыднямі стаяў на запасных пуцях. Выехалі вясною, дабраліся пад канец лета. У тым, што на сабе мелі. Вопратку — ватоўкі, валёнкі, атрымалі толькі ў лагеры. Дарогаю адны нараджалі, бо з намі ж ехалі цяжарныя кабеты, іншыя паміралі, хварэлі... Да лагера шмат хто не даехаў... «Пад'ём» — падымацца, будзе пераклічка. Уначы прыходзілі правяраць — ці не ўцёк хто. Чаму мы тады смяяліся — не ведаю, відаць толькі гэта нам і засталося — смех. Мы былі маладыя, усё здавалася такім недарэчным, што аж смешным.

Вагоны прызначаны асобна для кабет, асобна для мужчын. За парушэнне гэтага загаду сурова каралі. Але калі мы даехалі да месца, то пэўны час, пакуль не паставілі баракі, спалі разам, мужчыны злева, кабеты справа. Надыходзіла зіма і адны другіх падганялі, мы самі будавалі сабе лагер. Гэта можа здацца дзіўным, але больш цікаўнасці ўзбуджала скарынка хлеба, чым распранутая, голая, маладая кабета. Прысуды былі розныя, сама меней дзесяць гадоў, пятнаццаць, але былі і па дваццаць. Шукалі шпіёнаў, ворагаў Сталіна. Людзі прызнаваліся аб усім. Кожны чалавек мае пэўны ўзровень устойлівасці, пасля якога перастае рэагаваць разумна... Катавалі ў час допытаў — вырывалі

пазногці, трушчылі пальцы, мая галава адмаўляецца нават узгадваць гэта, душыць мне ў горле.

Для навічкоў размяшчэнне ў лагеры пачыналася з каранціну. Трэба было распрануцца дагала і галілі валасы, нібыта ад вошай, каб не занесці эпідэміі. Я трапіла ў другі лагер, такі быў лічбавы падзел, мы знаходзіліся, можа, ў больш чым кіламетры ад шахты. Кожны атрымаў свой нумар. Яго нашывалі на «бушлаце», на шапцы, на адным калене нагавіц.

Я не хачу памятаць свайго нумару, але ён мне сніцца па начах.

Спачатку нас аглядала лекарская камісія і мы былі прыпісаны да розных прац. Самыя слабыя працавалі на паверхні, у лагеры. Самыя дужыя — у шахце. На браме ўсіх па чарзе пералічвалі паводле нумару. Узімку мы ішлі такім снежным тунэлем, вышэй галавы. Саслізгвалі на рыдлёўцы па саннай каляі ўніз, у разрэз. Кожны меў сваю газавую лямпу, яна смярдзела, капціла, хапала проймы, каб яна згасала. Тады стукаючыся галавою, усляпую, навобмацак — каб пазычыць у кагосьці агню. Капальня працавала ў тры змены — тыя выходзяць, мы ўніз, і так па крузе. Вугаль адбівалі кіркай, потым рыдлёўкаю-*«нагружалам»* на канвеер, з яго ў падыходзячыя *«ваганеткі»*. Коні, такія маленькія «манголы», выцягвалі вагончыкі на паверхню. Калі які здыхаў, было свята. Наступным днём быў конскі суп.

Не рабілі адрозненняў — мужчына ці кабета. Капальня была пад дном ракі. Зверху капала вада. Калі хацелася піць, падстаўлялі рыдлёўку. Гэтыя *«тюлькі»* (шпроты) і *«камбалы»* былі такія салёныя, што здавалася іх нельга з'есці, яны выклікалі страшэнную смагу. Вада была халодная і чыстая як крышталь, прафільтроўвалася праз скалы, праходзіла праз іх наскрозь. Тыя скляпенні раз за разам абвальваліся. Ідзе нас уніз пятнаццаць, вяртаецца



дзесяць. Ніхто не ведаў, ці вернецца. Дасталася і мне, таксама прываліла.

У шпіталі сказалі — можа будзе хадзіць. Напісалі: «Нумар… — пашкоджанне пазваночніка». Тады, у шпіталі, пазнаёмілася са сваім мужам. Ён быў краўцом, у яго паперах пісалі «хворы», бо трэба было камусьці шыць. Таму яго трымалі ў шпіталі. Але пачалося іначай. Тут, у лагеры, хворых было большасць. Найбольш успрымальнымі былі летувісы, падалі як мухі. Калі хто паміраў на месцы, яго выкрэслівалі з рэгістрацыйнай ведамасці, да пальца нагі прывязвалі дошчачку з нумарам, напісаным хімічным алоўкам. Калі на будоўлі або ў лесе — закапвалі або пакідалі на снезе. У залежнасці —ці была зіма, ці лета. Тады ў ведамасці пісалі *«выбыў у невядомым кірунку»*.

Мой будучы муж, яшчэ да таго, як яго сустрэла, у 1948 пачаў хварэць на туберкулёз косці. Апухаў. Шыя, грудзі. Выслалі яго ў *«олап 9 і 10»* — так казалі пра той лагер, дзе лекар з Луцка рабіў аперацыі, вымаў скабы і закладаў у тое месца кавалкі эбаніту. На аперацыю не згадзіўся — бо ўсе пасля гэтага паміралі — і яго адаслалі назад. Тры дні ляжаў з трупамі ў сутарэнні пад баракам. Не памёр, і адна лекарка з Львова, сям'ю якой раскідалі па ўсіх лагерах — ад Казахстану і па Сібіры, зрабіла яму на месцы аперацыю. Ускрыла пухліны і гной з кавалкамі косці выцек. І раны загаіліся.

А як выявілася, што ўмее шыць, што кравец…

Неяк ішоў пад канвоем за межамі лагера зняць з начальніка мерку на мундзір , і на сметніку знайшоў парваны партфель з цыраты. не ведаю, як яго пранёс, ва ўсялякім разе пашыў сабе з коўдры цёмна-сіняе паліто і з тым партфелем прыходзіў да мяне ў жаночы лагер. Ніхто нават не дапускаў, што хтосьці мог бы на гэта наважыцца. На браме былі дзве прахадныя, дык яму нават казыралі. Вядома — чыноўнік, а ад чыноўніка шмат залежыць. Жыццё заўжды мацнейшае за ўсё, што прыдумляе чалавек. А ў ім самае моцнае, самае вялікае — каханне.

Пасля таго выпадку месяц я прабыла ў шпіталі. У шахту не вярнулася, паслалі мяне на тартак. Потым у цагельню, да печы. Усярэдзіне было так горача, што людзі па некалькі разоў на дзень млелі. Тады іх палівалі халоднай вадою са шланга, і гналі працаваць. Урэшце я трапіла ў будаўнічую брыгаду.

Шмат, можа найбольш, залежала ад брыгадзіра. Добры, такі, што меў галаву на плячах, умеў камбінаваць так, што на паперы мы выпрацоўвалі пяты кацёл. На першы толькі 300 грамаў хлеба і «баланда» — вада з аўсом. На пяты — амаль кілаграм хлеба, каша, часам трапляў кавалак конскага мяса, раз на месяц — напарстак чырвонага цукру.

Шосты кацёл быў у кастрычніку, на дзень рэвалюцыі, тады дадавалі белую булку.

Найгорш было ў чэрвені, калі прыходзіла цяпло. Усе тыя сцены і коміны, што ўзводзілі на зімнім марозе, пачыналі бурыцца. І трэба было даказваць, пісаць тлумачэнні. Усё залежала ад начальніка. Хапала толькі сказаць «сабатаж», і ўжо няма брыгадзіра.

У лагеры нараджаліся дзеці. Тэарэтычна нібыта такой магчымасці не было. Кабет за гэта каралі. Калі я зацяжарыла, мяне вывезлі ў лагер, аддалены амаль на дзвесце кіламетраў. Працавала ў калгасе. Як толькі рабілася цёпла, з'яўляліся тысячы камароў. Паветра рабілася шэрым. Размочаным у вадзе мылам з глінаю мы намазвалі твар, вушы, шыю, рукі — каб на скуры з'явіўся панцыр. Ад тых камароў не было жыцця. Памятаю летнюю навальніцу калі ў фурманку перад намі, на якой везлі косы, ударыў пярун. Мы закапалі паралізаванага фурмана ажно па шыю ў зямлю. Ачуняў. Але ўсе найбольш радаваліся з таго, што забіла каня.

У нас нарадзілася дачка. Увесь час, з самага пачатку пісала да сваіх — кожны меў адзін ліст у год. Нам баяліся адпісваць. Але хтосьці ўрэшце мне адказаў, даў адрас бацькоў у Шокшы. Так я даведалася, што яны жывыя.



Дзяцей забіралі ў дзіцячы дом. Ад бацькоў, каб выхаваць савецкімі людзьмі. Мы ж хацелі, каб нашу дачку ўзялі на выхаванне дзядуля з бабуляй. Але гэта было няпроста. Чыноўнікі баяліся адзін другога. Тое месца для дзіцяці, у доме маіх бацькоў у Шокшы, муж купіў сваім кравецтвам. Іголкай.

На вока барак меў з трыццаць метраў даўжыні. З абодвух бакоў былі двухпавярховыя нары. Пасярэдзіне стаялі печачкі, узімку ля іх было горача, а на сценах шэрань, па кутах ледзякі. Кожны прыносіў у кішэні з капальні глыбку вугалю, гэта было наша няпісанае права. Выхады былі з тарцоў, два. Нас замкнулі ўсярэдзіне, дакладна памятаю дату — 5 сакавіка 1953 года, і трымалі так два тыдні. Не ведалі, што будзе далей. Баяліся бунту. *«На работу не пойдём, Сталін подох»,* — паведаміў ахоўнік. Адны радаваліся, іншыя плакалі што памёр айцец народу. Толькі прыбіральні, такія пераносныя «парашы» дазвалялі апаражняць. Але ў мужчын у лагеры былі хваляванні. Біліся паміж сабою крымінальнікі з палітычнымі.

Пасля як Сталін падох і стаў Малянкоў, ўсе ўжо толькі маліліся аб амністыі.

Але амністыя прыйшла не да ўсіх. Мы былі палітычнымі, нас выпусцілі на волю ў 1956. Без права выезду з Варкуты. Яшчэ ўдалося нам убачыць, як у самым цэнтры мястэчка бурылі помнік Сталіну. Зачапілі тросам да трактара, і... разляцеўся быццам гіпсавы.

Мы пабраліся шлюбам, я была ў сукні з парашута і вэлюме з перавязачнай марлі, муж у гарнітуры з лагернай коўдры, кветкі былі з паперы. Я атрымала на волі працу начнога вартаўніка. Мела карабін, пільнавала банк. Быў экзамен па стральбе. У маёй мішэні былі тры прабоіны. Але гэта страляла не я. Прынамсі здала. Так гэта выглядала. Муж падсунуў начальнікам нашы паперы на выезд, мы атрымалі згоду на вяртанне ў Польшчу.

Вяртанне, але куды? Мы выязджалі, калі там святкавалі гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі, дакладна 7 лістапада 1957.

Па дарозе быў памежны пераход у Тарэспалі і рэпатрыяцыйны пункт у Белай Падлясцы. У валізах мы везлі апельсіны — пазней усе ў Польшчы казалі — «як вам там было добра!».

«Вы абавязаны маўчаць аб усім, што датычыць Варкуты. Прагаворыцеся камусьці і вернецеся назад, ужо мы аб тым паклапоцімся». — Сказалі нам у гарадской міліцэйскай камендатуры. — «Мы будзем трымаць вас пад увагай, будзем вас правяраць, асцерагайцеся.

Нам тут не патрэбна варожай прапаганды.

Падпішыце».



# ДЗВЕ КАБЕТЫ СТАЛАГА ВЕКУ

## Уступ

Надзія: «Мая дачка, у яе ўсё добра, жыве ў дастатку ў Расеі, выбралася летась з сынам у Магадан. Паляцелі самалётам. Нанялі на цэлы дзень таксі. Прывезлі фатаграфіі, фільм. Былі ў порце *(«туды прывозілі вязняў, зэка, а адтуль везлі этапамі ў лагеры вакол усёй Калымы»,* — тлумачыў таксіст*)*, аглядалі помнік ахвярам (*«усе нацыянальнасці на дошцы, падобна нават амерыканкі тут былі»* — з гонарам паказваў дошку на цокалі), аб'ехалі месцы лагераў (*«шкада, сляды згладжваюцца, хто, які турыст сюды прыедзе,»* — смуткаваў таксіст). Дачка не прызналася, што там нарадзілася, невядома хто ён.

Тэадозія: «Пра дзядзьку, які змагаўся за вольную Украіну, я напісала ў вершы: «...хто Бога просіць, таму варожых стрэлаў кулі Бог праносіць...». А пра маскалёў і Параску напісала: «...абяцалі маскалі рай і волю нам, я ім паверыла і трапіла ў няволю, вярнулася з вязніцы, даведалася гора, а хто ў тым вінаваты, вінавата Параска». Былі мы ў слязах як дзве бярозы, белыя сёстры. У Крывароўні ёсць музей Парaскі* Яна малая, ледзьве ад зямлі адрасла, сядзіць на лаве з разяўленым ротам, слухае. Памятаю яе словы: «Хачу ўсяго пакаштаваць, пра што дзядзька распавёў, за што ваявалі». Малітоўнік, пра які маскалі казалі, што спалілі, я перадала ў музей з пажаданнем, каб апісалі яго гісторыю. А ў куце залы дома культуры ў Верхавіне, там, дзе зараз стаіць фартэпіяна, я чакала смерці, расстрэлу».

---

* Параска Плытка-Горыцьвіт, 1927–1998, народная майстрыня і паэтк. — *Заўв. аўт.*

## Напярэдадні 1918 года

Надзія: «Мой род здавён паходзіць з вёскі Галобы, што непадалёку ад Ковеля».

Тэадозія: «Усе мы нарадзіліся на Гуцульшчыне, у Крывароўні. Мамінага брата забралі ў войска за царом, у 1914 годзе, служыў да 1917-га, дэзерціраваў. У поўным узбраенні, з параю коней і кулямётам праўваўся да Галіцыйскіх стралкоў, якіх пазней назвалі «Січовымі». Ягоны курэнь у сакавіку 1918 года браў удзел у занятці Кіева, і ажно да разгрому змагаўся пад камандаю Канавальца, потым трапіў у палон да маскалёў».

## Ад вяртання незалежнасці да 17 верасня 1939 года

Надзія: «Я нарадзілася тут у 1923 годзе, у Польшчы. Павет Ковельскі, вёска Галобы. Бацька быў «хлеваробам», але ўжываючы сённяшнюю тэрміналогію мог называцца вытворцам сельгаспрадукцыі, фермерам. Мы былі пры зямлі, гандаль — у яўрэяў, у дзяржаўных установах і на чыгунцы сядзелі палякі. Мы жылі ў згодзе, як вялікая сям'я, разам. Украінскія і польскія дамы, аднолькавыя святы — у іх, і тут жа ў нас, сумесныя забавы — увесну маёўкі, узімку катанне на санках па снезе, ад яўрэяў, праўда, дыстанцыраваліся, хай яны там па-свойму. Вёска вялікая, людная, амаль чатыры тысячы, свае канторы, свая станцыя чыгуначная, свой касцёл і царква, толькі палац Вільгаў, ды і то казалі пра яго , што свой. І свой нават стары, або польскі цвінтар. Школа адна, польская, сямігодка, агульнаадукацыйная, не тое, што чатырохгадовыя па вёсках. Нас у ёй запісвалі рускімі, але ніхто не рабіў розніцы, толькі дома казалі: «Ты не руская, ты украінка». У Польшчы, у польскай школе, я да 1939 года шэсць класаў скончыла.

(На здымку: плошча на фоне дрэўца, група падлеткаў у школьнай форме, чацвёра з іх стаяць, Ядзя Лабэндска, мая сяброўка, полька, яна зараз таксама ў Галандыі, Перападзіс



Бася, яе дачка — дэпутат, дзве сядзяць на траве, а гэта я, астатнія нашы, украінкі).

Тэадозія: «Уцякаючы ад маскалёў, «вуйка» нарваўся на палякаў, хацелі яго расстраляць, але вырваўся, вярнуўся, а калі і сюды прыйшлі, хаваўся, прабраўся ў Румынію, там перажыў, зарабіў *«грошай»,* вярнуўся, стаў жыць у доме за хатай Парасkі, той, дзе зараз музей.

Распавяду пра сябе: я, грэшная Дося, нарадзілася 9 чэрвеня 1921 года. Вучылася адзін год, для школы аддаў памяшканне Васыль Якібюк, гаспадар у якога неаднойчы бываў Іван Франко. Што да палякаў, праўда, выйшла непрыгожа, другі клас я не дахадзіла, не палюбілася я хлопцам каменданта паліцыі, Раману ды Збышку. Але з іншага боку была ў мяне з таго ж самага году і сяброўка — Ёзя Тамашэўска, *«шыкарная»* дзяўчына, прыгожая «палячка» Слухала я апавяданні дзядзькі і задумвалася — дзе тая Украіна, за якую ён ваяваў, бо ў школе пра яе не чула».

## Перад нападам немцаў 22 чэрвеня 1941 года

Надзія: «Сёмы клас я заканчвала ўжо ў савецкай школе, за Расеяй. Калі прыйшлі, то спачатку нас не чапалі, было спакойна, толькі паціху вывозілі палякаў. Паліцыянты ўцяклі, так што вывозілі тых, каторыя засталіся — лекараў, настаўнікаў…. Бацьку забралі ў Чырвоную армію».

Тэадозія: «Прыйшлі маскалі і ўсталявалі свае парадкі. Інтэлігенцыя пачала ўцякаць на захад. Варохту пільнавалі, там была чыгуначная станцыя, так што ішлі праз наша *«сяло»,* прарываліся праз горы. Пункт, у якім затрымліваліся быў у царкве, там звычайна пакідалі частку багажу, лішнія рэчы, кніжкі. Ішлі татарскім шляхам».

## Перыяд ад Вялікай Айчыннай вайны да вызвалення

Надзія: «Прыйшлі немцы. Найперш сагналі яўрэяў *«у адзін куток»,* абгароджаны плотам. Маладых і старых, дзяцей, кабет, мужчын, веруючых у Бога і хрышчаных, атэістаў і агітатараў. Два разы іх расстрэльвалі ў лесе, у адну магілу. Толькі тады пачалі кідаць нас на работы, спачатку нібыта добраахвотна. Пачалі з мужчынаў, давалі выбар: ці да украінскай паліцыі, ці ў Нямеччыну. Тыя, хто не паехаў, рэшта, — у дапаможныя батальёны, альбо ў лес. Партызанка была розная — польская, украінская і камуністычна-савецкая. Адны ішлі супраць другіх, і толькі часамі разам, супраць нямецкіх жаўнераў. У траўні 1943 года з лесу ад украінскай арміі прыйшоў загад, і ўсе паліцыянты як адзін забралі зброю і перайшлі да УПА. Тады з боку немцаў пачаліся сапраўдныя рэпрэсіі. Палявалі на мужчын, нічога не пыталі — хто, чаму — толькі да плоту, і забіты. Страшны час, хто хацеў страляць, то ішоў і забіваў. Вёска апусцела, не засталося нікога, усе ўцяклі хто куды мог, але дзверы ў хаты пакінулі адчыненымі, самагонка, сала, яйкі — на стале. Каб хату не спалілі».

Тэадозія: «Пасля маскалёў з'явіліся немцы, пачалі вывозіць на работы. Калі прыйшоў і мой час, каб не вывезлі была вымушана зарэгістравацца ва украінскім камітэце, пайшла на службу ў царкву. Мне ўжо было 20 гадоў і шмат рэчаў я разумела. Начамі чытала кніжкі пра вялікі голад, з ілюстрацыямі, са здымкамі, я плакала не ў змозе паверыць. З таго часу захоўвала малітоўнік, пакінуты ўцекачамі з Вінніцы. Разграмілі нас немцы, падазравалі арганізацыю, я цудам выжыла, з вёскі на допыты ўзялі 25 чалавек, толькі адзін хлопец вярнуўся, не пры сваім розуме. Тады ўжо пачалі нашы кабеты збірацца, шылі кашулі для нашых, рыхтавалі бінты, пяклі хлеб».



## Вызваленне, Чырвоная Армія

Надзія: «Праз Галобы прайшла Чырвоная Армія, за вёску яшчэ чапляліся рэшткі нямецкіх аддзелаў. Вярнуўся і застаўся бацька, пра яго казалі «франтавік», ён часова размяшчаўся ў Луцку. КГБ у той час не дзейнічаў у вёсцы, яны рабілі выпады з базы, з тылоў, у іх былі спісы. Абкружылі дом, паказалі загад, падпісаны вайсковым пракурорам. Зброі не знайшлі, бо адкуль, шукалі радыё, але таксама не знайшлі, мы не мелі радыё, забралі нарэшце толькі кнігу «Гісторыя Украіны», гэтага хапіла. (*«Вот сволоч, хватіт»).*

Ноч пратрымалі пад арыштам дзесь на базе, а потым было следства ў Луцку, тыдзень білі і здзекаваліся, зноў і зноў толькі «гавары, скажы, кажы хто яшчэ…» Завезлі на суд. Судзілі нас па пяць, садзілі на падлогу, у пакоі стол, за сталом людзі ў форме, зачытвалі: «Ты дваццаць, ты пятнаццаць, таму дваццаць пяць гадоў». Я прасіла *(«устаць, аб чым просіш суд, апошняе слова»),* каб бацькоў не вывозілі «у Сібір». Усе прасілі аб гэтым жа.

Тэадозія: «Мы ведалі, хто куды ідзе, хоць тэлефонаў не было. Калі прыйшлі маскалі, сотні сталі з таго боку гор, таму адтуль перайсці праз Чарамош было цяжка, стралялі. Немцы, вядома, забівалі, па лясах мы знаходзілі пачарнелыя парэштткі, але не так, як рускія. З палякамі мы не змагаліся, бо тут іх не было. Увесну 1945 я паехала на шаўчэнкаўскія святы на Белы Чарамош, вярнулася, а тут амаль у кожнай хаце хтосьці арыштаваны. Дзядзька і Парасачка таксама, нас здрадзіў хлопец, які каля яе круціўся. Праз тыдзень схапілі мяне, з Косіва прыйшла начная аблава, мяне запозна папярэдзілі. Завезлі нас у Верхавіну, там уперамежку ляжалі забітыя і напаўжывыя нашы людзі і «з вуліцы», мужчыны і кабеты, сярод іх і поп. Тады і адабралі ў мяне малітоўнік, для спалення. Я знепрытомнела, мяне дапытвалі, потым яшчэ і яшчэ… . Білі, катавалі, грудзі былі аж чорныя. Пісалі пратакол. Вывозілі нас уначы, па некалькі чалавек, каб не выклікаць панікі. Мне было ўсё роўна, я хацела вярнуць малітоўнік, трымалася. Прысудзілі

мяне да расстрэлу. І пэўна зрабілі б гэта, але ўжо паднялося сонца, а яны забівалі толькі па-ціхаму, уначы. Камендант *«істрабіцельнага»* батальёна прынёс мне маю кніжачку для набажэнства. А я, каб зноў не адабралі, перадала праз іншых маёй маме. Доўга мой малітоўнік туляўся па свеце, ажно пакуль у 1948 годзе не вярнуўся дадому. А тады пасадзілі нас у Варохце ў цягнік-турму, але вагоны ўзляцелі ў паветра, нашы падарвалі рэйкі. Частка загінула, выжылі хто быў у сярэдніх вагонах, «салавецкіх», для самых страшных «*зэка»*. Перапілавалі краты, выцягнулі нас, і на аўтамабілях павезлі ў Станіславаў. Месяц трымалі там у сутарэнні без вокнаў, на размяклай гліне. Людзі ў камеры паміралі. Судзіла нас 18 жніўня 1945 года гэтак званая «*ваенная тройка».* Я была слабая, перад судом загналі нас у лазню, палівалі вадою і здзіралі струпы з кавалкамі гліны. А ў лазні нешта незвычайнае — на калідоры стаялі кашы з ягадамі, вішнямі… у паветры паўсюль расплыўся пах лета, фруктаў… І ніхто не наважыўся ўзяць хоць бы адну ягадку.

Выраклі мяне на 10 гадоў катаржнага лагеру і пажыццёвую ссылку».

**Вываз, першы этап**

Надзія: «Ліпень гарачы, спякотны, з усіх бакоў канвой, кожны ў тым, у чым забралі, завялі нас на чыгуначны вакзал у Луцку. Правёў мяне бацька, *«франтавік»,* ішоў у форме па ходніку. Спачатку панавала страшэнная цішыня. Бацька прасіў жаўнераў з канвою (хацеў развітацца з дачкою, «позвольце», не дазволілі). Хтосьці першы крыкнуў, і адразу, як па камандзе, усе — толькі крык, слоў не было. Нас чакаў адмысловы цягнік, везлі «*эшалонам*», спецвагоны, замест дзвярэй — краты. Я трапіла ў Харкаў на пункт «*перасяленія*», быў жнівень, спякота. Тры шасціпавярховыя вялізныя будынкі поўныя вязняў. Голад (стражнік: *«Яшчэ карміць фашыстоўскую сволач!»),* два разы на дзень вараны ў вадзе гарбуз, адзін раз — «*кусочак*» хлеба. З самага ранку ў паветры над горадам, як малітва, луналі воклічы: «Хлеба! Хлеба!...».

У кастрычніку пасадзілі нас у вагоны, таварныя, як звычайна па трыццаць чалавек, вопратка свая, якую хто на сабе меў, між дошкамі шчыліны, сцены ад сярэдзіны пакрытыя лёдам, раз на дзень — «*кіпяток*»(вар), хлеба 400 грамаў, і «*баланда*», суп на вадзе з пасечанага бацвіння і мякіны, ехалі сем тыдняў, і нарэшце бухта Находка, канец, японская мяжа».

Тэадозія: «З суду павезлі нас у нейкую іншую вязніцу, транспарт быў падрыхтаваны. Камера з падлогай, нарамі, акном, праз якое ўсярэдзіну трапляла сонца. Але ні сесці, ні легчы. Адразу пацукі — па руках, на спіну, у нагах — кусаліся паўсюль, пырскала кроў. Божа, змілуйся над намі… У суседняй камеры перакусалі ўсіх вязняў. Хацелі вытруціць пацукоў газам, бо не дазвалялі ўвайсці, кідаліся на стражнікаў, быў тады дым, страшэнны смурод. Прыйшлося 23 дні там знаходзіцца, потым загрузілі нас у арыштанцкія грузавікі, «*варанкі*», і павезлі ў Львоў. Высадзілі на пустой пляцоўцы ля бочных чыгуначных пуцей. І тады заехаў «*шыкарны*» цягнік, сапраўдны першы клас, фешэнебельныя вагоны. Гэта вярталіся ў лона Айчыны перасяленцы з захаду, сагітаваныя маскалямі, савецкай прапагандай. Іх абкружылі з усіх бакоў, цягнік ад'ехаў, і тады кінуліся і садралі ўсё, дагала. Гэта выглядала, быццам раптам адчынілася пекла — крык, праклёны, сабачы брэх, плач, кроў, біліся між сабою за ланцужкі і гадзіннікі. Вяртанцаў называлі «*падла, праклятая фашыстоўская сволач*». Нас злучылі, і пад адным канвоем загналі ў вязніцу, запхнулі ў драўляныя баракі. З Львова мы рушылі далей толькі пасля Новага Года, 14 студзеня. Вераб'і нам наваражылі, была адліга, і ўсе яны адзін перад другім дурэлі ў калюжынах ля нашага барака. І раптам трывога, сфармавалі калону на вакзал да таварнага цягніка. У канцы саставу пустая платформа, на такіх перавозяць драўніну. Пад вечар цягнік рушыў, раніцаю спыніўся ў чыстым полі, на платформу

вынеслі з вагонаў трупы, недахопу быць не павінна, лічылі пакуль колькасць не супала. Калі пад канец лютага мы даехалі да Новасібірска, гара цел была такой, што апошні вагон не праходзіў пад віядукамі».

## «Точка переселенія» — пункт перасялення

Надзія: «Мы стаім у бараку, дзвесце чалавек, ля сцен двухпавярховыя нары з неакораных жэрдак, ніводнай коўдры, падушкі пад галаву — нічога. Жах. Якраз «Різдво» — Каляды. Страшная цішыня. Ні гуку. І хтосьці пачынае ціха плакаць. Толькі хлюпанне носам, ціхія ўсхліпы. І… дзвесце людзей пасярэдзіне бараку рыдаюць і равуць».

Тэадозія: «Новасібірск атуляла імгла, марозу не было, з дахаў капала. Нас завялі на пункт, у баракі. Печачка толькі ў куце ля блокавай, іншага абагравання не было. Мы працавалі на разгрузцы вугалю, цягалі сані, бо коней не было, вывозілі снег, чысцілі аэрадром. Пад канец сакавіка, 23 ці 24, калі ўдарыла вясна і добра адмерзлі рэйкі, прывезлі ўцекачоў, Віктара і Ліду. З гэтай нагоды з навакольных лагераў сагналі «*зэкаў*» на мітынг — паказаць іхныя целы. Падобна, іх схапілі французы і выдалі нашым, так аб'явіў начальнік, Шаўчэнка. Зацвіла ліпа, зрабілася цёпла, аб'явілі наступны этап. На поўнач. Начальнік эшалона, «*хахол*», недзе ў чыстым полі раптам спыняе цягнік, некуды бягуць канваіры, хтосьці крычыць, што будуць расстрэльваць, мы пачынаем абдымацца, хрысціцца… і аніводнай слязы. Адсоўваюцца дзверы вагона, а начальнік дае нам кветкі, складае зычанні з нагоды святкавання Святой Тройцы. Ад гэтага ўсяго здарыўся ў мяне дзіўны сон — я ў сцірце сена, вежа з гадзіннікам, на вежы статуя Хрыста з апушчанай галавою ў цярновай кароне».



## Перасыльны лагер

Тэадозія: «Даехалі мы да Камсамольска на беразе Амура, моста не было, рэйкі скончыліся. На другі бок нас павезлі паромам. А там нашы, вывезеныя з усходу ў дваццатыя гады. Частуюць нас свежымі селядцамі, распытваюць пра Украіну. Нас павезлі па рацэ, высадзілі з баржы на пясок і адплылі. Уначы падышлі «*блатныя, жулікі*», пачаўся шум, кралі, гвалцілі, забівалі. Раніцаю вярнулася судна, высадзілі двух стражнікаў. Сонца, цёпла, другога берагу не відаць, вада мутная, але піць хочацца. Зноў усе хварэюць, потым паміраюць, гарачка, нарывы. Лагер на балотах, сярэдзіна лета, сенакос. Утварылі сем брыгад, кожная па сто чалавек, усё сена звозім ў адно месца, можна ў ім згубіцца. Прыпомніўся мне той сон. Над намі страшная кара лётае, мошка, бровы ў раны ператвараюцца. Два гады, можа і болей я была там, у той бядзе. І тут «*падох*» Берыя. Лагер ліквідавалі, нас павезлі паромам, а потым аўтамабілямі на поўнач».

## Пачатак сезону навігацыі

Надзія: «Да траўня мора было скутае лёдам. Калі паднялося сонца, прыйшоў ледакол («*открыт*» сезон навігацыі), нас загналі на параход. Везлі па моры сем дзён. На бераг сышлі ў Магадане. Сярэдзіна траўня, а тут паўсюль свежы снег па калена. Зноўку пункт «перасяленія», лазня і знішчэнне вошай. Абутак, сукенкі, ручнікі… хто што меў на сабе — пакінуць, праз адны дзверы ўсярэдзіну, праз другія на выхад. Абутак з брызенту, знізу кавалак гумы (кажуць: «*бяры валёнкі*»), сукенка з брызенту, трусы, кашуля з шэрай бавоўны, куфайка, шапка. Як у гэтым хадзіць — шнуркоў не далі гэтыя брызентавыя боты пад каленямі падвязаць. Краіна Саветаў, вартая савецкіх людзей, добра што пад «*нарамі»* ў бараку знайшла я анучы, зрабіла шнуркі каб боты падвязаць, з шапкі адпарола падкладку і атрымала маленькі ручнічок. Пасадзілі нас на грузавікі, вязуць, вязуць па тайзе, трыста кіламетраў. І канца не бачна,

толькі лес ці лагеры. На пунктах кантролю не вераць — «*вы што — дзяўчаты?»,* тут забойцаў трымаем, бандытаў.

Нарэшце канец дарогі, высядаем, вакол нічога, перад намі горы, «там ваш лагер — на другім баку», далей трэба пехатою».

Тэадозія: « Зіма застала нас у перасыльным лагеры бухты Находка. У лагеры бунт, беспарадкі, «*блатныя*» захапілі кухню, спалілі сталоўку, паляць баракі, тры дні без ежы, б'юцца між сабою. Разганялі іх вадою, стралялі куды трапіць. Вось так у сорак дзявятым чакалі мы пачатку навігацыі на Ахоцкім моры. Судна далёка ад берага, вазілі нас лодкамі, зачынілі ў труме. Плывём, на дзясяты дзень скончыўся хлеб. Бунт, «*блатныя*» здабылі зброю, нажы, б'юцца між сабою, нарабілі ў бартах дзірак, шторм. Судна тоне, тым, хто ля дзвярэй дазволілі выйсці, потым пачакалі пакуль вада заліла ўсё, і толькі тады запусцілі помпы. Усе ў сярэдзіне патанулі, потым трупы за борт выкідвалі.

У перасыльным лагеры завялі нас у фашысцкую «зону», ля кухні — штабелі цел («*трупы ядуць, сволачы*» — палохалі немцаў ахоўнікі), «хай бачаць, вам таксама трэба бачыць». Ім есці не даюць, а нам кажуць: «*Получайте хлеб, девчата*». Гэта нават нам было страшна».

## Эх, Калыма, прыгожая рака...

Надзія: «Нам сказалі, што будзем працаваць на шахце непадалёк ад Калымы. У нашым лагеры восем баракаў, у кожным па сто чалавек, двухпавярховыя «*нары*» з голых круглякоў. Капальня волава, рэжымнае прадпрыемства, стратэгічная прадукцыя. У штольнях падпальвалі запалы, а тое, што адарвала выбухам, грузілі на ваганеткі — і на першы завод, там раздрабнялі, потым на другі, на ім малолі, прамывалі, і ўжо чыстая руда ішла на металургічны завод. Для тых, хто на штольнях «*пайка*» грунтоўная — 1100 грамаў хлеба, два разы на дзень каша, «*баланда*» са шчаўя, капусты. Для тых, хто на драбілцы і млынах, меншая,



толькі 800 грамаў. Цягам адзінаццаці гадоў я ні разу не мела столькі хлеба, каб наесціся дасыта. На ноч куфайка на жэрдках, а пад галаву — галёшы, накрытыя шапкай, унізе брызентавая спадніца, каб чымсьці накрыцца — спалі па дзве — другая давала сваю ватоўку».

Тэадозія: «Трапілі мы ў капальню, у брыгадзе над намі «*руская*», Марыя Варанкова, кабета справядлівая, «*франтавічка*». Дарога зроблена чалавечымі рукамі, зямля адтала не глыбей чым на штык рыдлёўкі, вечная мерзлата. А ў іншых месцах з зямлі б'юць фантаны цёплай вады, і, ападаючы замярзаюць, звіняць як шкло. У рацэ страшная плынь, але пад вадою лёд. Неяк везлі лодкамі на другі бераг іншую брыгаду, барты лёдам абраслі, набрала лодка вады, нехта ў ваду ўпаў, вопратка замерзла, паварушыў некалькі разоў рукамі, закрычаў і стаў як васковая фігура, замерз. Там трапіла я ў штрафную брыгаду, знайшлі ў мяне бляшанку ад кансерваў. А яшчэ я ўратавала ад пажару гараж, у якім было 12 грузавікоў. Перавялі мяне на працу ў рамонтнай брыгадзе. У складзе запасных частак знайшла я два кавалкі палатна. Сшыла з іх невялікі ручнічок, вышыла на ім цярновы вянок, ніткі мела, карычневыя і блакітныя — з трыкатажу, з трусоў, а чырвоныя — з анучкі для выцірання змазкі. Закладала той ручнічок на галаву пад шапку — да гаража два кіламетры — каб не мерзнуць, а ўвечары вешала на сцяну, бо шчыліны былі замазаны торфам, і калі ён высыхаў, то сыпаўся на твар, у валасы. Уначы падчас праверкі заўважыў гэта начальнік. У кожнага быў нумар на калене нагавіц, куфайцы, на шапцы і на ложку. У мяне нумар 1318. За прапаганду (калі ў Марыйкі Шачанкі знайшлі кніжку, то ўжо ніколі яе ў бараку не пабачылі) — пад суд, пазбаўленне правоў і пажыццёвая ссылка. Паралізаваная ад страху, нежывая, я не магла нават думаць. Можа дадуць толькі ізалятар. Нават не распраналася, бо ў ізалятар бралі ў тым, у чым былі. А там бетон, цесна, уверсе дзіравыя дошкі, цяжка вытрымаць ноч, і не атрупянець. Віктар Іванавіч, начальнік рамонтных

майстэрняў, я два гады ў яго ў брыгадзе працавала, напісаў тлумачэнне, што гэта анучка для выцірання, якую знайшлі ў скрыні з дэталямі, і якую ён даў мне як узнагароду за добрую працу. Але не вельмі паверылі. Добра — ніхто не ведаў, што гэта я вышыла. Чатыры літары. С — «сэрца», С — «сытае», А — «ад», Ч — «чужыны».

### У Магадане

Надзія: «у 1954 годзе лагер «*закрылі*», нас вярнулі ў Магадан, я ў порце вазіла на тачках каменне, падсыпалі ўзбярэжжа. Потым у цагельні ля печы, пры гліне, дзе была «чырвоная як здань рэвалюцыі», у пыле і поце, цяжка пазнаць. Прозвішчы сцерліся з памяці, але былі там з усяго свету — «палячкі», расеянкі, але украінак большыня. З Ковеля, Станіслававa, Пачаева... Праз чатыры гады «*пасылка з дому*», раз у год — крупы, соль, цукар, «*сала*», сухары, а мне прыслалі нават хустку з авечай воўны.

(Здымак: снег, быццам фатограф выпаліў кіслатой фон, на снезе група каля 30 маладых дзяўчат у ватоўках, частка ляжыць і сядзіць на снезе, большасць стаіць, радасна ўсміхаецца, тут у хустцы — я. За спінаю ў аддаленні дрот, вартаўнічая вежа. Канваір як мядзведзь, у аўчынным кажуху, павярнуўшыся спінаю.

Здымак: надпіс — «прывітанне з Калымы», дзве яліны, пад імі хатка, на даху снежная пярына, святло ў вокнах, у снезе вытаптана звілістая сцежка, на пярэднім плане квітнеючыя ружы. У акенцы я, на зваротным баку дата, верш)».

Тэадозія: «Там 20 чэрвеня 1954 года я нарадзілася другі раз».

### Выпадковыя тэмы

Надзія: «У лагеры амерыканкі. Я бачу ў лагеры, убаку — тры кабеты. Пытаю сваіх «*дзяўчат*» — адкуль прывезлі? — ніхто не ведае. Бо «*прыбалтыка*» тут была, яны таксама адрозніваліся, трымалі іх асобна. Фінкі, летувіскі, латышкі — высокія, гнуткія, са светлымі валасамі. Немкі былі, і іншыя нацыянальнасці — малдаванкі, грузінкі... Тады нам у лагеры было ўсё адно, чорт з імі, хто б ні быў, аднолькава. Але гэтыя нейкія інакшыя — пастрыжаныя па нейкай дзіўнай модзе, паліто на іх тонкія, не нашы, дзіўная вопратка, і нават абутак. «Амерыканкі» — казалі між сабою канваіры. Схапілі іх, тады ўлада не любіла доўга турбавацца, лепш застрэліць, зацерці сляды, і клопат з галавы. Цяпер у газетах пісалі — хто чытаў, ведае — шукаюць, здаецца, па дакументах амерыканскіх вязняў».

Тэадозія: «Усяночная. Гэта было ў лагеры, у капальні, хтосьці сказаў, што сёння свята ўваскрашэння, Вялікдзень. Спынілі мы працу, пачалі маліцца. Стражнік рабіў выгляд, што нічога не бачыць, застаўся наверсе, на паветры, не хацеў пра гэта ведаць. Мы тады не выканалі норму. Усе былі ў страху, у панядзелак са зменай разлічваліся за нядзелю. Ідзём мы калонаю, да капальні восем кіламетраў, сонейка прыемна свеціць, усё залаціцца, зіхаціць. Вітаем адзін другога. «*Хрыстос васкрос!*» А там, на месцы — натоўп вакол штольні, а з зямлі тырчаць пагнутыя рэйкі. Вяртаецца стражнік, бледны — «хто б маці напісаў, дзе я загінуў». Абвал, зямля завалілася. Засыпала ўсю брыгаду з канваірамі. Ніхто не ўратаваўся».

### Першы дзень на волі

Надзія: «Апранутаю быццам я ішла на працу, вывелі мяне за браму (днём раней прыходжу да барака, ушчэнт зморaная, галодная, спакутаваная — усе на мяне глядзяць. Цябе «асвабадзілі». Не даходзіць да мяне — дурны жарт — мыю рукі. Выклікаюць да начальніка — кепска, у ізалятар пасадзіць. «За што?» — круціцца ў галаве. А ён да мяне на «Вы» — сядайце. Я стаю, дакладваю: «Норму выканала, калі ласка не карайце». А ён: «Вы свабодная», і паперу падае, а я плачу: «Калі ласка, пакіньце мяне ў лагеры, куды я пай-

ду?») Зачынілі за мной браму, а я баюся адысціся, не ведаю як воля выглядае (за ноч зрабілі мне ў бараку пасаг — падшылі, падрыхтавалі ватоўку, адрамантавалі валёнкі, зацыравалі пальчаткі). Еду праз горад на аўтобусе, кандуктар з мяне «*грошай*» не бярэ, нехта мне падсоўвае булку (зацiскае ў кішэнь — «*бяры, дзевачка*»). Шукаю сталоўку, якраз апоўдзень, у ёй сяброўка працуе — нейкі час, як на волю выйшла, яна кажа: «Пачакай, адпачні». Пасадзіла мяне за стол на чатыры чалавекі, прынесла супу, прынесла курыцу, бульбу, прынесла кампот. Калупаю відэльцам, калупаю, сорамна. Пакінула курыцу, ніколі потым з такім жалем і спазмам страўніка я на мяса не глядзела».

(Вызваленыя: здымак з атэлье — на фоне эстампа, на ім лес — стаяць пяць маладых, элегантна ўбраных кабет, практычныя цёмныя сукенкі, прычоскі адразу ад цырульніка, на пярэднім плане лава, на ёй двое кабет, між імі малады мужчына ў гарнітуры).

**Без права вяртання**

Надзія: «Я жыла ў сяброўкі тыдзень, урэшце знайшла сабе месца. Трапіла на службу ў яўрэйскую сям'ю — абое былі начальнікамі, атрымала ў іх начлег і ежу. Штомесяц вызывалі ў бюро рэгістрацыі (гэта называлася — зрабіць «*отметку*»), тых, хто прыйшоў ні аб чым не пыталіся — садзілі на аўтамабіль і развозілі на Чукотку, на Аляску… па ўсяму Сібіру (мой гаспадар тлумачыў гэта так: нам патрэбны людзі для засялення тэрыторыяў, выходзь і жыві як хочаш). Я ісці на «*отметку*» баялася, але яшчэ большы страх — не ісці. Гаспадар тэлефанаваў знаёмым начальнікам, гаспадыня адсылала позвы. Засталася, відаць быў мне такі лёс. Мае гаспадары паслалі мяне на курсы, я стала кухарам. Каб не страціць усё жыццё з апалонікам і чыгунамі, паслалі ў школу, вывучала харчаванне. Прыбралася, выйшла замуж за «*чалавека*», муж мой са Смаленска, «*зэка*», з тых, каму далі 25 гадоў. Частку кары яму даравалі. Жылі мы там, у Магадане, дзесяць гадоў без права вярнуцца, там нарадзілася мая дачка».

Тэадозія: «Людзі літасці не мелі, змілаваўся Бог, я выйшла на волю. Выслалі мяне на пасяленне без права вяртання. Я дастала такі дакумент, «*даверанасць*», каб рухацца, бо нават у суседнюю вёску трэба было рэгістравацца. Патрапіла да добрых людзей, два гады працавалі ў калгасе, плацілі па 40 рублёў. У суседнім калгасе быў вязень, гэткі ж як мы, вольны без права вяртання, поп са Львова. Ён таемна, па начах, па вялікіх святах адпраўляў набажэнствы. Гэта было трыццаць кіламетраў у адзін бок, , але кожны прагнуў Бога. Мы дзяліліся хлебам і адразу трэба было вяртацца, перад світанкам быць на месцы. Поп працаваў у тамтэйшым калгасе трактарыстам. Я памятаю першы Вялікдзень на волі. Мы на двух трактарах калгаснай брыгады паехалі нібыта на працу, ніхто не данёс, усё адбылося таемна. Святкавалі мы у полі пад дрэвам».

**Вяртанне дадому**

Надзія: «Тады, пасля нараджэння дачкі, мы ўпершыню адважыліся паехаць у вёску Галовы. А там усё такое сваё, быццам нас чакала — дрэвы, кветкі, нават зямля пахне. І ўжо толькі адна думка віравала ў галаве. І ўжо не было спакою.

Мы вярнуліся».

Тэадозія: «У Крывароўню я вярнулася 30 кастрычніка 1956 года. Мама вярнулася таксама, яна была сасланая ў Караганду. Наша хацінка пахілілася, дах заваліўся, у сярэдзіне маліна прарасла скрозь падлогу, але ператрывала … Рэшту халуп разабраў калгас, горшыя на дровы, лепшыя на будматэрыялы. Катаргу мне не залічылі ў працоўны стаж. Я напісала, каб рэабілітавалі або далі дакумент, што не заслугоўвала гэтага. То прыслалі грошы. За тыя дзесяць гадоў заробак у пяцьдзясят грыўняў прыслалі,

гэта няма нават дзесяці даляраў за год працы. Яшчэ ў 1984 годзе зрабілі вобшук, самай малой паперкі не пакінулі, усё — календары, кніжкі, лісты, здымкі, нават малітоўнік забралі. Аддалі толькі дзве рэчы і кніжачку для набажэнства. Астатняе затрымалі.

Што рабіць?

Жыву адна, удалечыні ад людзей. Жыву.



# Кніга асобная
# Падарожжа пятае — прастора нявер'я

Цябе вітае твой непадкупны скарб
Міраж паважны неабходнай смерці.

*Jorge Luis Borges*

# ВЫМПЕЛЫ ВЕРШНІКАЎ НЕАБ'ЯЎЛЕНАГА АПАКАЛІПСІСА

## Замест уступу — змест запіскі з вязніцы

*Мае дарагія! Майце на ўвазе, што я трапіла ў бальшавіцкую турму, дзе няма чалавека, які б вытрымаў тое, што мяне чакае, і не зламаўся.*

*Я пасля першай стадыі трымаюся, але не ведаю, што будзе далей. М.* прыводзілі на вочную стаўку, яна гераіня, бо вытрымала 5 месяцаў.*

*Цалую, Нуська.*

*Пра мяне ведаюць вельмі шмат, а галоўнае пытанне — пра ШУ і ДЗІ**. Схапілі мяне ўшасцёх і не было магчымасці здзяйснення самагубства. Яны ведалі, што я маю пісталет і атруту.* («Дзеркало Тыжня» 16-22 лютага 2002, «*Раман Шухевіч: таямніца гібелі*»).

## Да 1918 года

Трускавец як вёска-курорт праславіўся пад канец XIX веку з-за мінеральнай вады «Нафтуся». Там жылі мае бацькі, Марыя і Юрко Гусякі. Яны належалі да мясцовай украінскай эліты і паводле вясковых варункаў былі людзьмі заможнымі. Бацька займаўся грамадскай дзейнасцю, хоць не скончыў сярэдняй школы, у гэтым яму перашкодзіў пачатак I Сусветнай вайны.

* Манета, г. зн. К. Зарыцка. — *Заўв. аўт.*
** Шухевіч і Дзідык. — *Заўв. аўт.*



## Да 1 верасня 1939 года — пачатку II Сусветнай вайны

Да самай вайны 1939 года мой бацька кіраваў у Трускаўцы касай Райффайзэнбанку, стаяў на чале мясцовай «Просвіты», вёў бухулік у вясковым кааператыве. Я нарадзілася 4 лютага 1924 года. Мела двух сясцёр, старэйшую Лэсю, малодшую Зэню, братоў не было. Хадзіла ў польскую агульнаадукацыйную школу. У Трускавец, які быў модны сярод палякаў, прыязджаў на адпачынак Пілсудскі, чальцы ўраду. Тут 29 жніўня 1931 года, ў час знаходжання ў санаторыі быў застрэлены Тадэвуш Галоўка, дзеяч Партыі Нацыянальнай Незалежнасці. Васіль Білас і Дмытро Данілішын, якія гэта ўчынілі, былі прысуджаныя да пакарання смерцю. У 1938 годзе я пачала вучыцца ў Драгобычы ў польскай школе, Купецкай гімназіі.

Замест каментара: *«Легендарныя украінскія патрыёты, Васіль Білас і Дмытро Данілішын, якія загінулі ад рук польскіх акупантаў у 1932 годзе ў Львове, былі блізкімі сваякамі пані Адаркі, маці Марыі Гусяк»* («Нацыя і Дзяржава», люты 2004, «*З кагорты няскораных*»).

Замест каментара: «*У Трускаўцы заўжды ненавідзелі акупантаў… першапачаткова палякаў. Дар'я Гусяк узгадвае: «неяк, мы яшчэ вучыліся ў другім класе трускавецкай школы, разам са школьнымі сябрамі паздымалі партрэты тагачасных польскіх лідараў, выкалалі ім вочы, а потым павесілі дагары нагамі. Гэта была дзіцячая помста за страчаных украінскіх патрыётаў Васіля Біласа і Дмытра Данілішына*» («*Пра Дар'ю Гусяк*» www.kreschatic.kiev.ua, 17 студзеня 2007).

## II Сусветная вайна

З пачаткам вайны з'явіліся немцы, але неўзабаве адступілі за Сан, яго берагі вызначалі мяжу, якая насіла назву лініі Керзона. Бальшавікі занялі іх месца, змянілі назву і профіль школы на «*Драгобыцкую Гандлёвую гімназію*», увялі расейскую мову, вывучэнне марксізма-ленінізма. У

Трускаўцы, дзе бацька быў галавою вясковай рады, зладзілі выбары. Жыхары зноў прагаласавалі за майго тату — яго лічылі чалавекам справядлівым і ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам. Пачалося чаканне. Па вёсках з украінскімі жоўта-блакітнымі штандарамі віталі бальшавікоў як вызваліцеляў — хлебам і соллю. Але неўзабаве ўсе гэтыя мясцовасці ахапілі масавыя рэпрэсіі, украінскія вёскі знішчылі, іх жыхароў вывезлі ў Сібір. У 1940 годзе арыштавалі майго бацьку і прысудзілі да 17 гадоў строгага рэжыму. Мне было тады 16 гадоў.

### Пачатак Вялікай Айчыннай вайны

Немцы адчынілі турмы, выпусцілі вязняў, якіх не здолелі пазабіваць бальшавікі*. Паабяцалі волю, пачалі фармаваць украінскія аддзелы паліцыі, дапаможных службаў, СС — «Нахцігаль, Раланд…» Назву школы змянілі на «Гандэльсфахшуле». У чэрвені 1941 года Бандэра абвясціў у Львове украінскую дзяржаву.

Праўда была горкая, выявілася, што немцы не хочуць даць нам волю, прымусілі адклікаць абвяшчэнне. Аднак яшчэ большым злом былі камуністы. Усё яшчэ дзейнічала правіла «вораг майго ворага — мой саюзнік», але якраз тады пачало дзейнічаць украінскае падполле.

Сястра майго таты, Наталля, увайшла ў вядомую украінскую сям'ю Рызнякоў, дзе трое маіх стрыечных братоў былі чальцамі ОУН (Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў), найбольш вядомым з іх быў Раман (псеўданім Макамацкі), ён увёў мяне ў падполле.

Замест каментара: «*Раман Рызняк нарадзіўся ў 1922 годзе ў Трускаўцы. У ОУН з маладых гадоў, 1940 — падполле, разведшкола на тэрыторыі Польшчы, «Нахцігаль». Пасля прыходу бальшавікоў стварыў спецбаёўку (каля 80 чалавек) для разведкі і для ліквідацыі груп экавэдзістаў, якія дзейнічалі прыкінуўшыся бандэраўцамі. Быў фантастычна адважны і кемлівы. (…) За яго галаву прапанавалі прэмію ў 30 тысяч і ордэн Леніна. Загінуў у жніўні 1948 года ў засадзе непадалёку ад трускавецкага паселішча Паміркі…*» (oun-upa.org.ua\encyclopaedia).

* НКВД, уцякаючы ад немцаў у 1941 годзе, у адным толькі Львове перабіў каля 7 тысячаў вязняў украінскага і польскага паходжання. — *Заўв. аўт.*



### Вяртанне бальшавікоў

Калі вярнуліся бальшавікі, дзявочая сетка ОУН былаператворана ва ўкраінскі Чырвоны Крыж, на чале якога стала Кацярына Зарыцкая. Мной пачаў цікавіцца НКВД, зрабілася цесна. Са сваёю маці і Мартай Пашкоўскай я перайшла ў падполле. Пад выглядам перасяленак з Польшчы мы пераехалі ў вёску Грымна, стварылі там канспіратыўную кватэру. Увосень там знаходзіўся Раман Шухевіч, камандуючы сіламі УПА. Мы жылі ў вясковай хаце, другую палову займаў мясцовы поп. Гэта павінна было выглядаць як атэлье паслугаў. Мама ўмела шыць, у маладосці скончыла школу «Труд», дзе былі кравецкія курсы. У 1947 годзе, пасля выезду Шухевіча на лячэнне ў Адэсу, адбылася выпадковая дэканспірацыя, загінуў савецкі жаўнер. Мы былі вымушаны ўцякаць, я трапіла ў Львоў. Стала сувязной.

Замест каментара: «*У вёсцы Грымна, гарадзецкага раёна, львоўскай вобласці адчынены музей генерала УПА Рамана Шухевіча. Шэсцьдзясят гадоў таму ў плябаніі мясцовага папа дзейнічаў канспіратыўны штаб, дзе знаходзіўся генерал разам са сваімі супрацоўнікамі, сярод якіх сувязная Дар'я Гусяк са Львова, па сёння жывая. («На Гарадоччыне асвяцілі музей генерала Рамана Шухевіча*» stryi.ugcc.org.ua, 7 кастрычніка 2007).

Замест каментара: *«…У Львове дзяўчыну навучылі няпростаму рамяству — падробцы дакументаў. Яна авалодала ім так па-майстэрску, што пазней мела сваіх вучняў. А яшчэ як разведчыца ездзіла ў Палтаву і Кіеў. Узімку 1950 года знаходзілася нават у Маскве — высвятляла, наколькі сур'ёзна ахоўваецца спецслужбамі амерыканская*

*амбасада...» («Пра Дар'ю Гусяк»* www.kreschatic.kiev.ua, 17 студзеня 2007).

**Арышт, следства**

Я была арыштавана 2 сакавіка 1950 года ў Львове, за мной ужо хадзілі, гэта павінна было быць апошняе спатканне перад маім ад'ездам. Схапілі мяне за рукі, каб не магла дастаць зброю або атруту. Звязалі, закінулі ў аўтамабіль, я была ім патрэбная. Следства вёў капітан Гузееў. Мне абрэзалі валасы, білі па галаве, па вушах, руках, нагах. Мае ногі сталі нагадваць пральную дошку. Прыпальвалі папяросамі, расціскалі ў дзвярах пальцы, білі гумовымі палкамі. Каб прымусіць мяне гаварыць, на маіх вачах катавалі маю маці. Пачалі прымяняць мне псіхатропныя сродкі. Я баялася несвядома нешта паведаміць. Каб папярэдзіць усіх, праз вязнярку, што павінна была выйсці на волю, перадала ліст.

Замест каментара: *«...Увесь час адчувала: за ёй сочаць. Пасля нарады з Шухевічам і Галінаю вырашылі, што для Адаркі працяг знаходжання ў Львове небяспечны, трэба ўцякаць за мяжу. У сакавіку 1950 фальшывыя дакументы былі гатовыя, засталося выканаць апошняе даручэнне начальніка — даць інструктаж двум сувязніцам*... Нейкая з іх здрадзіла... («Пра Дар'ю Гусяк»* www.kreschatic.kiev.ua, 17 студзеня 2007).

Замест каментара: «*Узяць яе дапамагла агентка Шаўчэнкаўскага аддзелу КГБ «Паўлычка», якая пазней пад уплывам Г.** парвала з КГБ і пайшла ў падполле, як пазней аказалася — вымушана* (oun-upa.org.ua\encyclopaedia).

Замест каментара: «*Паводле слоў Юрыя Шухевіча***, «ненаўмысна стала вінаваўцам гібелі Рамана Шухевіча». Адарка таксама была сувязісткай і выконвала адпаведныя заданні (напрыклад ездзіла ў Маскву з мэтай усталявання кантактаў з амбасадай ЗША)* («Дзеркала Тыжня», гл. выш.).

Замест каментара: «*Было ўжо светла, калі чэкісцкая аблава рушыла праз вёску. Дзе дакладна хаваўся Шухевіч, яны яшчэ не ведалі. Але, гэтак жа, як і з «малявай» Адаркі Гусяк, дапамог выпадак. Малы сынок гаспадыні ўбачыў службоўцаў, адразу зразумеў на каго палююць, і кінуўся да свайго дому з крыкам: «Рамане! Уцякай, уцякай!». Супрацоўнікі кінуліся за хлопцам...*» («Фокус», 29 ліпеня 2007, *«Раман Шухевіч — «Тарас Чупрынка»).*

**Суд, транспарт, лагеры**

Нейкі час мяне трымалі ў перакананні, што Шухевіч жывы. Следства ў Львове цягнулася амаль год, потым, чарговы год, — у Кіеве. Выракам суда мне далі 25 гадоў увязнення, замкнулі ў шасцімеснай жаночай камеры, дзе не было нават святла. Спачатку ў Верхне-Уральскай турме, пазней ва Уладзімірскай. У той час піянеры плакалі, пратэстуючы на мітынгах супраць увязнення ў Злучаных Штатах камуністычнай агенткі Анджэлы Дэвіс. Па ўсім свеце пракацілася камуністычная кампанія па яе вызваленні. Яна выйшла з турмы праз 18 месяцаў. У яе абарону спявалі Джон Ленан і Ролінг Стоунз.

А паводле дзеючага ў СССР права максімальны вырак увязнення для кабеты мог складаць 15 гадоў. Пад націскам сусветнай супольнасці ў 1969 годзе мне змянілі прысуд на лагер узмоцненага рэжыму. Праз 19 гадоў турмы я трапіла ў лагер у Мардовіі.

Замест каментара: *«Пасля трагедыі ў Белагоршчы мяне пераканалі (НКВД), што Шухевіч жывы, паказалі фальшывыя пратаколы следства, і я пачала гаварыць. Распавяла, што нядаўна была ў Маскве, спрабавала скантактавацца з амерыканскай амбасадай* (oun-upa.org.ua\encyclopaedia).

---

* Яе схапілі 2 сакавіка 1950, калі ехала на спатканне з сувязніцамі. — *Заўв. аўт.*

** Маецца на ўвазе Дар'я Гусяк. — *Заўв. аўт.*

*** Юрый Шухевіч — сын Рамана Шухевіча. — *Заўв. аўт.*

Замест каментара: *«Гэта быў лагер для палітычных вязняў (...). Са старэйшых украінак там была Адарка Гусяк і Марыйка Пальчак (ужо нябожчыца). Катруся Зарыцкая (жонка аднаго з лідараў ОУН Міхала Сарокі) якраз перад гэтым была вызвалена. (...) Для мяне* гэта было, натуральна, вельмі вялікае адкрыццё — той лагер. (...) А яны там ужо чакалі мяне, нават дасталі мёд і ўсялякія прыпасы. Я была апошняй, якую чакалі. Зладзілі для мяне пышны прыём! Адарка Гусяк (выбітная ўдзельніца нацыяналістычнага падполля, давераная асоба Рамана Шухевіча), была цырыманіяльным майстрам, заведвала ўсім харчаваннем і выдавала па адной ці дзве «падушачкі» (цукеркі), колькі выпадала на дзень, мы ўсе ёй давяралі. Потым, калі мне прынеслі ў перадачы лімон, і я прыйшла з тым пачкам, які мне перадалі, Адарка спытала: «Як ты хочаш гэтым распарадзіцца? У нас кожны можа вольна вырашыць, як хоча». (...) Я сказала, што хачу падзяліць лімон на ўсіх». А было нас 26 кабет. Толькі як адзін лімон падзяліць на дваццаць шэсць частак, каб было пароўну? Яна сказала: «Ну, паспрабую». І яна пакроіла той лімон на 26 раўнюткіх скрылікаў... («Час без Надзіі»* www.obozrevatel.com, 19 жніўня 2006).

### Вызваленне

Мне забаранілі вяртацца ў Заходнюю Украіну. Ды і да каго было вяртацца? Сям'я выбітая, дом спустошаны, бацькі навечна засталіся пад снягамі Сібіру, сястра Лэся жыла ў вечнай ссылцы ў Якуціі. У сакавіку 1975 года пасялілася я ў Катрусі Зарыцкай непадалёку ад Валочыска. Пачала працаваць у кравецкім атэлье і памагала тым, хто застаўся ў лагеры, дзесьці далёка... Мясцовыя ставіліся да нас варожа, развязалі цкаванне, выбівалі вокны, пэцкалі дзверы смалою, змушалі пісаць даносы... Пасля смерці Зарыцкай я засталася адна. Усё памянялася, калі Украіна аднавіла незалежнасць. Я вярнулася каб жыць у Львове.

* Маецца на ўвазе Надзія Сьвітлычна. — *Заўв. аўт.*



Замест каментара: *«Жыхары Львова да 15 красавіка (2008 года. — Заўв. аўт.) на афіцыйным сайце Львоўскай Гарадской Рады маглі прагаласаваць за аднаго з прэтэндэнтаў на званне «Ганаровы грамадзянін горада» і яшчэ «Шляхетная львоўская сям'я». У конкурсе на званне Ганаровага грамадзяніна прымаюць удзел Пятро Франко, Рагніда Сэндэцька, Володымыр Пэчар, Васыль Куйбіда, Дар'я Гусяк а таксама кардынал Любамір Гузар»* (novynar.com.ua/politics/, www.city-adm.lviv.ua 8 красавіка 2008).

### Ад аўтара

Дар'я Гусяк жыве ў аднапакаёвай кватэры на шостым паверсе. Падобныя блокі ў нас будавалі ў 70-я гады. Вітальню запаўняюць пачкі з кнігамі. У пакоі толькі простыя, функцыянальныя рэчы: на сцяне дыван, на пісьмовым століку чырвона-чорны вымпел, фота Шухевіча. Гэты пакой нагадвае хутчэй кляштарную келлю, чым нармальнае жытло. Размаўляем мы ў кухні, бо ў пакоі якраз адбываецца спатканне Украінскай Лігі Кабет. У яе паводзінах няма какецтва, на пытанні адказвае проста, не ўхіляючыся. Выглядае чалавекам ураўнаважаным, марудлівым на хваляванне, які шукае нешта больш важнае за хвілінную праўду, якую не можа прыняць кожны. Калі я пытаю пра палякаў, кажа: «Шкада, што між намі было столькі прадузятасцяў, якія выкарыстоўваліся. Нават зараз палітыка Расеі з'яўляецца гэткай жа самай пагрозай для Польшчы, як і для Украіны».

Яна не ўсміхаецца, яе вочы не тут, нібыта глядзяць у іншую прастору, у мінулае.

А магла ж быць па другі бок, і тады ўсё б пайшло іначай.

### Тлумачэнне

Запіска, далучаная ва ўступе, была перададзена сукамерніцай (ёсць розныя меркаванні датычна яе прозвішча), як аказалася пазней — агенткай МГБ СССР. У выніку

атрымання той інфармацыі савецкімі службамі быў забіты Раман Шухевіч.

Тэкст той не быў аўтарызаваны, гутарка з паняй Дар’яй Гусяк (псеўданімы «Нюся», «Чорная», «Алейка») адбылася ў Львове ў пачатку 2008 года.

Раман Шухевіч: псеўданім Тарас Чупрынка (нар. 30 чэрвеня 1907 года ў Кракаўцы, явароўскі павет), сын павятовага суддзі, студэнт Палітэхнікі ў Гданьску і ў Львове. Дзеяч ОУН, у 1926 годзе ўдзельнічаў у замаху на школьнага куратара Яна Сабінскага. Таксама ў чэрвені 1934 года ўдзельнічаў ў забойстве міністра Браніслава Перацкага. Вязень Бярозы Картузкай, вызвалены ў 1938 годзе па амністыі. У час нямецкай акупацыі — афіцэр батальёна «Нахцігаль», адзін са стваральнікаў, а пазней галоўны кіраўнік УПА, у якую дэзерціраваў з нямецкай арміі разам з украінскімі падначаленымі, паліцыянтамі і жаўнерамі дапаможных аддзелаў. Памёр, застрэлены НКВДыстамі ў засадзе 5 сакавіка 1950 ў Белагарошчы.

*«…Адказны за разню палякаў на Валыні і ў Галіцыі…»* — Głos Kresowian» (*«Польска-украінскія стасункі»,* Музей польскага народнага руху, Варшава, 2005)



## Кніга ветру
## Падарожжа шостае — прастора нетрывалага часу

Як той, хто абдымае цень або гоніцца
за ветрам так і той, хто верыць у сны.

*Мудрасць Сіраха 34.2 Біблія*

# САМУРАЙ З БЕЛАРУСКАГА РАКАВА

Ён не падобен ні на тэрарыста, ні на вар'ята, хоць бы на такога няшкоднага, як Дон Кіхот. Засяроджаны, паважны, глядзіць проста ў вочы. Прывык да фізічнай працы, руху, знаходжання па-за горадам — на гэта паказвае яго постаць, манера рухацца. Калі глядзець на яго збоку, складваецца ўражанне, што ён стрымлівае празмерную энергію, што ірвецца да дзейнасці.

Скарыстаемся выказваннем Францішка Багушэвіча: *«Не пакінайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». «*Змагаемся з ветракамі». — Кажа ён, і нахіляецца над столікам, запісваючы сваю заўвагу ў «Кнігу скаргаў»: *«Адміністрацыі чыгуначнага вакзала ў Мінску: звяртаюся з пастулатам, каб служачыя, якія абслугоўваюць падарожнікаў на чыгуначным вакзале, асабліва ў міжнародных касах, ведалі родную мову і ўжывалі яе ў кантактах з кліентамі. Госці, запрошаныя ў нашую краіну ўражаны, што ўсе касіркі карыстаюцца выключна расейскай моваю, не зважаючы, што працуюць ў дзяржаўнай установе, а беларуская мова з'яўляецца афіцыйнай. Мне з-за гэтага сорамна. Язэп Янушкевіч («Кніга скаргаў і прапановаў»,* міжнародная каса, Мінск-Пасажырскі).

— Не меч, не шчыт — браня для Мовы, а толькі — шэдэўры! —Закончыў запазычаннем у Цыпрыяна Каміля Норвіда.

## Тузаў міліцыянта за шынель

Выпадак распарадзіўся так, што з Язэпам (па-нашаму Юзаф) я пазнаёміўся ў цягніку. Ён толькі што скончыў цыкл лекцый у Познані і вяртаўся ў Ракаў, месца, падараванае яму лёсам, якое лічыў сваім. Я тады ўпершыню ехаў у Мінск, заканчваўся студзень, шыбы вагонаў, залепленыя мокрым снегам, выглядалі як заклееныя паперай, тэмпература звонку ўтрымлівалася ў межах нуля. Мы размаўлялі пра кніжкі. Пра тое, што належыць да Саюза Беларускіх Пісьменнікаў, ён паведаміў толькі тады, калі мы збіраліся высядаць, цягнік ужо запавольваў бег. І ўжо значна пазней я даведаўся, што яго арыштоўвалі за ўдзел у нелегальнай маніфестацыі. У абвінаваўчым акце напісалі, што «*чапляўся да мінакоў і тузаў за шынялі міліцыянтаў*».

— Я меў смешную мянушку, у вязніцы мяне клікалі «Бабёр,» — прызнаўся ён, калі я выпадкова даведаўся пра той эпізод з арыштам, — бо як школьная гігіеністка пільнаваў парадак, правяраў ці ўсе, перш чым легчы спаць, вымылі ногі.

Няма ў гэтым нічога надзвычайнага, такая сітуацыя досыць тыповая, не патрабуе адмысловай адвагі, — сказаў ён мне, калі мы выйшлі з метро на плошчу Якуба Коласа. — Менавіта тут быў я затрыманы ў красавіку 1996 года ў час мітынгу на гадавіну Чарнобыля. Я нахіліўся над пабітым міліцыянтамі старым мужчынам, які ляжаў на зямлі, і тут на мяне абрушыліся ўдары палак, я быў паваленьі, скаваны, затрыманы. Арыштанцкая камера мела можа восемдзесят сантыметраў ушыркі і паўтара метра даўжыні. Нельга было а ні сесці, а ні легчы. Усю ноч нас выклікалі на калідор, фатаграфавалі, паказвалі шпікам для распазнавання. У суботу раніцай запхнулі ў грузавікі і павезлі ў вязніцу. Каля мяне стаяў шаснаццацігадовы хлопец, які з аднагодкамі святкаваў на плошчы дзень народзінаў. Яны мелі торт і бутэльку шампанскага, але перш чым здолелі ўзнесці першы тост, іх абкружыла міліцыя. Іх бацькі жылі ў будынках, што атачалі плошчу, тут зазвычай выдзялялі кватэры службоўцам, якія карыстаюцца даверам уладаў, людзям з вышэйшых чынавецкіх сфераў.

— Не абмінае мяне палітыка, але як толькі выпусцяць, — жаліўся, хлюпаючы носам, той хлапчына, — пайду на маніфестацыю, выраўняю такім чынам рахункі. За тое, што нас гэтак пабілі.

## Мінск першым разам (суб’ектыўнае)

Пасля апоўдня мяняецца асвятленне, горад жаўцее. З другога боку вуліцы я пазіраю на шырокую пустую плошчу, выкладзеную бетоннымі пліткамі. Навокал будынкі камунальнага прызначэння, канторы, падобныя да тых, што будавалі і ў нас у 80-я гады. Яны нагадваюць паспешны эскіз, зроблены некалькімі хуткімі рухамі рукою, вугальнымі штрыхамі, затушаванымі паверхнямі, якім не хапае дэталяў. Нягледзячы, што ў гэтым малюнку ёсць месца для чалавека, лавы пустыя. Нават хвілінны лішак цяпла, сонечнага святла, такі нетыповы ў верасні, становіцца прычынаю, што горад пакутуе ад спёкі. На прыпынку ўсяго некалькі чалавек, паездка каштуе шэсцьсот беларускіх рублёў, у аўтобусе кандуктарка з рулончыкам квіткоў туды і назад...*»вы ужэ купілі?»* Забудова вуліцы суцэльная, тыповая для сацрэалізму архітэктура першых пасляваенных гадоў: маналіт, арнаменты, барэльефы, помнікі, высокія брамы — усё як тэатральныя дэкарацыі, сцэнаграфія з іншай эпохі. Прыпынак ля прэзентабельнай плошчы Незалежнасці — з аднаго боку помнік Леніна, з другой «Чырвоны касцёл» св. Сымона і св. Алены (цэгла з-пад Чанстахова, дахоўка з Улацлаўка, мармур інтэр’ераў з Кельцаў, у камуністычныя часы — Дом кіно, але гэта дэталі). Два паверхі пад зямлёю, пад плошчай сучасны гандлёвы цэнтр — бляск, рэфлексы, шкло і халодны хром. Я не ў змозе гэта назваць... здаецца, што тут усяго замала. Людзей на ходніках, у крамах, у царкве св. Духа, у метро, перад тэатрам, пад плошчай, на плошчы, на набярэжнай Свіслачы, у бары... Нават крамаў, прыбіральняў, паліўных заправак, тавару ў крамах, страваў у рэстаране, аўтамабіляў на вуліцах. Але бадай што найбольш не хапае радасці на тварах, гучных размоваў, бесклапотных забаваў, смеху...

## Мяне цікавяць іншыя справы

Язэп з 1995 года належыць да Саюза Беларускіх Пісьменнікаў, паводле гутаркавай назвы — «старога».



Улада спрабавала падпарадкаваць сабе пісьменнікаў, прыдумляла прычыны для ліквідацыі Саюза. Калі гэта не ўдалося, то 18 лістапада 2005 года ўтварыла новую арганізацыю літаратараў. Яе назвалі, каб гучала падобна — «Саюз Пісьменнікаў Беларусі». Каб выклікаць блытаніну сярод недасведчаных, і дазволіць медыям прапагандысцкія маніпуляцыі. Абраны на старшынства новай суполкі Мікалай Чаргінец папярэдзіў: *«Мы хочам стварыць саюз пісьменнікаў, члены якога адкінуць шалёную, варожую дзяржаве дзейнасць, скіраваную супраць улады і прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».* Гэта мусіла спадабацца ўладам, і пасля такой дэкларацыі новы саюз хутка ўзрос у сіле. *«Яго прызначэнне іншае: зраўняцца з Саюзам Беларускіх Пісьменнікаў, з якім улады альбо не здолелі, альбо не захацелі расправіцца самі...»* — Гэта меркаванне на дадзеную тэму Уладзіміра Някляева, знакамітага паэта, старшыні Беларускага ПЭН-клуба, і асабістага сябра Язэпа.

Тады, у 2005 годзе, Язэп Янушкевіч яшчэ працаваў у Інстытуце Літаратуры ім. Янкі Купалы Акадэміі Навук Беларусі, звольнілі яго толькі ў красавіку наступнага года. Але не зрокся ён ні сяброў, ні прыналежнасці да старога Саюза, выступае за беларускую мову, верыць у адказнасць пісьменніка перад уласным народам.

Я вандрую з Язэпам па вуліцах Мінска і думаю — колькі ў нас ёсць дзіцячай, наіўнай веры, што існуе нейкая непарушная, аб’ектыўная праўда аб гісторыі, што факты павінны быць белыя, як абгрызеная дачыста і адпаліраваная ветрам костка.

## Трасянка — некалькі заўвагаў датычна мовы

У Мінску прынцыпова не размаўляюць па-беларуску. Тое, што ўдаецца пачуць на вуліцы, гэта жаргон, створаны злучэннем беларускай фанетыкі з расейскімі словамі. Паводле навуковай тэрміналогіі — кантамінацыя двух моваў, у побытавай гутарцы — «*трасянка*». Польскім адпаведнікам гэтага слова з’яўляецца тэхналагічны тэрмін,

які азначае папулярны корм для быдла — коней або кароў, «*сечку*». У другой палове трыццатых гадоў мінулага веку, калі ўзмацнілася барацьба з «*нацдэмамі*» (з мясцовым нацыяналізмам і дэмакратыяй), а беларускіх літаратараў масава адправілі ў лагеры ці расстралялі, адбылося развіццё гэтага спецыфічнага жаргону. Слаба адукаваная большасць беларускага грамадства, імкнучыся пазбегнуць рэпрэсій, парушаючы моўныя правілы, паспешна пачало засвойваць расейскія словы, якія ў такім выглядзе разам з перамяшчэннем вясковага насельніцтва трапілі ў гарады. Відавочна жаргонавыя элементы мовы настолькі замацаваліся ў побытавай гутарцы, што пачалі пранікаць у медыя. Прыкладам можа быць адзіная штодзённая газета, якая выдаецца цалкам на беларускай мове і носіць запазычаную з «*трасянкі*» назву «Звязда» (хоць па-беларуску павінна быць «Зорка»).

## Каханкі Вялікай Мядзведзіцы

Язэп Янушкевіч нарадзіўся ў 1959 годзе ў Ракаве, невялікім паселішчы, размешчаным у нейкіх трыццаці пяці кіламетрах на захад ад Мінска (і, натуральна, як чыстапародны пісьменнік не мог устрымацца каб не напісаць пра свой Ракаў кніжку: «*Святыня над Іслачай*», 2004). У міжваенны перыяд тут праходзіла мяжа, і мястэчка з гэтай назвай трапіла ў твор Сяргея Пясецкага аб жыцці кантрабандыстаў з польска-расейскага памежжа, «*Каханак Вялікай Мядзьведзіцы*».

— Мой бацька, імя якога я нашу, быў цырульнікам, мама Марыля (з роду Грыбоўскіх, гербу Любіч, у савецкім пашпарце мела запіс: паходжанне — польскае) бухгалтар вясковага кааператыву, — кажа ён, калі я пытаюся пра бацькоў. — У 1981 годзе скончыў Філалагічны факультэт Беларускага універсітэта ў Мінску, а ў 1987 годзе атрымаў доктарскае званне за дысертацыю пра творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пісьменніка з польска-беларускага памежжа. Дзякуючы яму пазнаёміўся са сваёй жонкай.



Я тады працаваў на трэцім паверсе Беларускай Акадэміі Навук, займаўся рэдакцыяй твораў Марцінкевіча, рабіў чарговыя карэктуры, часта пaглядваў у акно, і мне нават не снілася, што на другім баку вуліцы студэнтка Вышэйшай Мастацкай школы рыхтуе графічную апрацоўку яго кніжкі ў якасці дыпломнай працы. Урэшце павінна было дайсці да нашага спаткання. У нас двое дзяцей — сын Дамінік скончыў Лінгвістычны універсітэт, будзе працаваць перакладчыкам, ведае ангельскую, нямецкую, шведскую мовы, дачка Каміла гэтым годам паступіла на вучобу, хоча займацца выдавецкай дзейнасцю і паліграфіяй. Тыповая сямейная сітуацыя, — дадае ён каб я не падумаў, што хваліцца.

## Калі ўжо гутарка пра мову... лекцыя

— Працэс дэградацыі мовы працягваецца, усяго некалькі працэнтаў кніжак, якія прапануюцца кнігарнямі, выдадзены па-беларуску. — Язэп заводзіць мяне ў навуковую кнігарню (вул. Незалежнасці, 72, Мінск), разгортвае на тытульнай старонцы выпадкова выбраны з паліцы экзэмпляр — падаўляльная большасць, звыш дзевяноста адсоткаў, гэта кніжкі выдадзеныя расейскай мовай у Расеі.

— Калі ўжо гутарым аб мове, — ён забывае, што стаім на прыпынку і калі падыдзе аўтобус, трэба будзе перарваць навуковыя разважанні, — варта ўзгадаць некаторыя гістарычныя спецыфічныя з'явы, якія зрабілі ўплыў на фармаванне правілаў, абавязковых для беларускай мовы (аднесенай да групы індаеўрапейскіх моваў, падгрупы моваў усходнеславянскіх). Яна была афіцыйнай мовай у часы Вялікага Княства Літоўскага. Першыя спробы кадыфікацыі, якія адносяцца да першапачатковай яе формы, якую называюць старабеларускай мовай, маюць месца ў XVI веку, калі Францішак Скарына выдае Біблію. Пасля люблінскай уніі пачынае дамінаваць польская мова , і толькі ў другой палове XIX веку адбываецца адраджэнне мовы беларускай. Гэта часы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (у яго творчым актыве ёсць таксама беларускі пераклад паэмы

Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» — першы з перакладаў на славянскія мовы, выданне якога ў 1859 годзе ў Вільні было канфіскавана цэнзураю і спалена), Уладыслава Сыракомлі, Францішка Багушэвіча, Адама Гурыновіча… — на жаль,0 а прыпынку спыняецца аўтобус, працяг пасля перапынку, як бы сказалі студэнты.

## Трохі канфідэнцыяльнасці, іначай падымецца ўзровень цукру

Язэп жыве ў драўляным, абкружаным старым садам, бацькоўскім доме. Называе гэтую сядзібу «Месцам творчага кватаравання», але калі бачыць сваіх дзяцей, упарта і правакацыйна змяняе назву на «Я ўнукаў не баюся». Прыбудаваў да дому вялікі пакой, запоўніў яго кніжкамі, сам зрабіў паліцы, стол… да ўсяго прыклаў рукі. Устае на золку, як Эрнэст Хэмінгуэй любіць працаваць раніцаю, піша на ноўтбуку. Першы камп'ютар прывёз у 1995 годзе з Парыжу. Ужо тады перастаў адчуваць сябе пісьменнікам, не дазволіў сабе тых згадак маладога запалу, калі седзячы з жонкай і дзецьмі на беразе мора толькі пісаў, пісаў… і пісаў, працаваў над кніжкай «*У прадчуванні адкрыцця*» (восень 1988). Зараз выданне ўласных тэкстаў адклаў да лепшых часоў. Змянілася іерархія вартасцяў, на першае месца выйшлі абавязкі перад папярэднікамі, класікамі беларускай літаратуры. Збірае рассеяныя, часта ніколі не друкаваныя творы, дамагаецца іх публікацыі, рэдагуе, шнарыць… у архівах Варшавы, Вроцлава, Вільні, Кіева, Кракава, Львова, Масквы, Парыжа, Пецярбурга. Вынікам той захопленасці стала кніжка «*За архіўным парогам*» (2002), якая, у чаканні друку, праляжала ў выдавецтве сем гадоў. Увесну, у чаканні летняй спёкі, ён збірае бярозавы сок (дае рады сабраць нават 500 літраў), увосень робіць «ракавянку» (дакладна 62 працэнты), да яго сцягваюцца натоўпы гасцей. Любіць фізічна працаваць, асабліваю асалоду дае яму нарыхтоўка на зіму дроў. Абвяргае распаўсюджанае



меркаванне, што быццам бы яго поспехі ўзніклі з-за таго, што ён здолеў адначасова бываць ў розных месцах.

## Мінск у другі раз, ночай (суб'ектыўнае)

Падсвечаныя фасады, пульсуючыя рэкламы, гульня ценяў з уяўленнем. ГУМ (Главный Универсальный Магазин, па-нашаму «таварны дом»), за вуглом я павярнуў на вуліцу Леніна, якая павольна вядзе ўніз. Кабеты ў аранжавых камізэльках з флікерамі, укленчыўшы, з боку праезджай часткі шаруюць рысавымі шчоткамі бардзюр. Няма п'яніцаў, бадзяжнікаў, ніхто не працягвае рукі, не просіць падтрымкі. Стэрыльная чысціня. Перада мною Ратуша Старога горада (пабураная ў 1857 годзе, адбудаваная ў 2004 годзе). Удары курантаў, на асветленай вежы — герб, Маці Божая ўзносімая ў блакітнае неба анёламі. Я пераходжу на другі бок вуліцы, уверх і… незвычайны выгляд, ад якога крущіцца ў галаве: на ўзгорку белая царква, унізе ў пажары агнёў пахмурная Свіслач, па сценах жылых мурашнікаў сцякаюць патокі святла. Набярэжны бульвар аблеплены натоўпамі моладзі, гамана, піва, віно, бурленне. Па цёмным бяздонні як купальскія светлячкі мільгаюць белыя лодкі. На Траецкім прадмесці самба, перад рэстаранам праз мікрафон спявае дзіджэй, маладая кабета самотна танцуе на вуліцы. Яе затуманеныя вочы прыплюшчаны…

## Пасля перапынку…

Мы ў XIX веку, пасля падаўлення студзеньскага (1863 г. — *Заўв. пер.*) паўстання. З-за поўнай забароны друку па-беларуску, каб абысці абмежаванні, прымянілі лацінскі алфавіт. — Сумленнасць навукоўца відаць не дазваляе яму забыцца пра перарваную тэму гутаркі. — Пачатак XX стагоддзя гэта час росквіту беларускай мовы, з гэтага перыяду паходзяць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага… Толькі ў 1918 годзе беларуская мова стала адной з афіцыйных моваў у дзяржаве,

побач з расейскай, польскай і ідыш. І тады з'явілася першая граматыка сучаснай літаратурнай мовы для сярэдніх школ аўтарства Браніслава Тарашкевіча (расстралянага ў 1938 годзе ў час сталінскіх этнічных чыстак). Прапанаваныя тады правілы арфаграфіі сталі называцца «тарашкевіцай». Такая сітуацыя, маючы на ўвазе мову, нягледзячы на наступныя змены палітычных умоваў і дзяржаўных структур захавалася ажно да нападу немцаў у 1941 годзе.

— Пасля адраджэння незалежнасці 27 ліпеня 1990 года, беларуская мова аднавіла афіцыйны статус, — працягвае Язэп тэму, — але шанец быў упушчаны. У 1995 годзе ў выніку ўсеагульнага рэферэндуму, абвешчанага прэзідэнтам Беларусі і па яго закліку ў якасці другой абавязковай ўведзена расейская мова і вернуты сцяг, расфарбаваны за часамі Савецкага Саюзу. Так вярнуліся мы да пункту адыходу, паўсюль замест беларускай мовы маем расейскую. А разам з мовай, — заканчвае ён з нотай песімізму, — гіне і беларуская тоеснасць.

### Самурай ці кніжная моль?

*«Мне здаецца, нарадзіся ён ў сярэдневечнай Японіі ваяром, самураем, і буцьме патрэба зрабіць харакіры — зрабіў бы. Не зрабіў бы толькі тады, калі б убачыў нерасчытаны рукапіс. Так і сказаў бы — спачатку рукапіс, а потым харакіры».* — Напісаў пра яго беларускі празаік А. Наварыч («Літаратурная Валожыншчына» 2006, «*Цыялкоўскі архіўных нетраў*»).

— Прызначэнне пісьменніка — пісаць. Толькі глядзець. А ў Польшчы выходзіць мая кніжка «*Роўныя ў палоне*». — Кажа Язэп Янушкевіч, калі я праглядаю спіс з больш чым трохсот яго кніжак і навуковых публікацый. Ён суаўтар «*Гісторыі беларускай літаратуры*» (1998), першаадкрывальнік і першы выдавец «*Пінскай шляхты*» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984), «*Лістоў з-пад шыбеніцы*» Кастуся Каліноўскага (1988), «*Тастаманту*» Адама Кіркора (1998).



У 2007 годзе ён стаў лаўрэатам Прэміі Льва Сапегі, якую называюць прэміяй пяці універсітэтаў. Падчас урачыстага агалошвання вердыкту журы Ян Анджэй Дамброўскі, дырэктар вроцлаўскага Калегіюма Усходняй Эўропы імя Яна Новака-Езёранскага, сказаў пра Язэпа Янушкевіча: «*Прэмія ўручаецца за заслугі ў польска-беларускіх стасунках. Сёлета яе атрымала вельмі выбітная асоба, якая між іншым больш дзесяці год таму давяла да выдання па-беларуску «Пана Тадэвуша»*.

Хто ж тады Язэп? — З усё большай цяжкасцю шукаю я адказу на гэтае адносна простае пытанне.

Затое мытнік, калі я вяртаюся ў Польшчу, нічога не пытаецца, маўчыць, можа лічыць, што не варта, толькі ўважліва пазірае мне ў вочы…

## ПАШТОЎКА З САЛАСПІЛСА — ПЕРАЖЫВАННЕ
### Справа Кнутса Скуенекса

Так склалася, што тут усё проста.

«Проста» гарэлка на хрэне, просты стол, побач са сталом чырвоны, масіўны газавы награвальнік. На стале жытні хлеб, скрылі вэнджанага ласося, у кубках гарбата з самай мятнай мяты (са словаў жонкі, батаніка па адукацыі).

— Запечаны язык, дэлікатэс, язык гэта вельмі паэтычная страва, — смяецца Кнутс, і паказвае талерку з кавалкамі мяса.

Ягоная польская мова правільная, хоць грубая, кароткія сказы будуе з простых, найбольш часта ўжываных словаў. Яна пасуе да суровага інтэр'еру, тут усё функцыянальна, нават засушаныя вянкі з кветак і травы на сцяне страцілі свой аздобны характар.

Паўсюль кнігі, паліцы запоўнены кнігамі, кнігі на антрэсолі, кнігі на падлозе, за спінаю, на лаве…

Я слухаю вершы, лаўлю іх музыку, гучанне па-латышску жорсткае, сухое.

— Зараз будзе па-польску, — папярэджвае ён, абапіраючыся на крэсла.

Свет навокал Скуенекса складаецца з простых шляхоў і простага выбару.

### Кнутс пра сябе

— Прынамсі не памылюся ў паказаннях, дазваляе ён сабе жарт калі разгортвае кнігу пра самога сябе. Я нарадзіўся ў 1936 годзе, 5 верасня, у Рызе, у сям'і Марыі і Эміля Скуенексаў. У трыццаць сёмым маці памерла, мяне з братам Лявонам аддалі на выхаванне да татавых бацькоў, Юрыя і Ганны, — ён пачынае як гулец у покер, — паблізу Баўска на Нёмане, на самай летувіскай мяжы. У сорак другім пачынаю вучыцца ў пачатковай школе, у сорак чацвёртым фронт аддзяляе нас ад Рыгі і бацька выкарыстоўвае сітуацыю — ратуецца эміграцыяй. Вучобу ў сярэдняй школе пачынаю ў пяцідзясятым годзе (Елгава) і тады ўпершыню публікуюся ў савецкай дзіцячай газеце. Годам пазней пераязджаю ў Рыгу, працягваю вучобу ў сярэдняй школе нумар 2. Пішу вершы, пачынаю цікавіцца палітыкай. У пяцьдзесят чацвёртым пачынаю вучыцца ва універсітэце, на факультэце гісторыі і філалогіі. Усё больш публікуюся. — Усміхаецца сваім думкам. У пяцьдзясят шостым кідаю універсітэт і пачынаю вучыцца ў Маскве, у літаратурным Інстытуце імя Горкага. У шэсцьдзясят першым заканчваю вучобу, і … — ён робіць паўзу, выпроствае руку ў бок Інты, якая завіхаецца вакол стала, — жанюся, пераязджаю ў Саласпілс (потым я даведаўся ў слоўніку значэнне гэтага слова, яно азначае замак на выспе, хоць раней з дапамогай падобнай лексічнай канструкцыі гэтае месца называлася Кірхольмам — царкоўнай выспай). Годам пазней, у шэсцьдзясят другім, мяне арыштоўваюць за палітычныя злачынствы, прызнаюць вінаватым, прысуджаюць сем гадоў увязнення строгага рэжыму…

Падаюць фраза за фразай, словы — стук, стук, як сухія кіёчкі адзін аб другі.

### Брытанская энцыклапедыя

«*…Скуенекс трапіў у мардоўскія лагеры амаль адразу пасля заканчэння прэстыжнага маскоўскага Літінстытута імя Максіма Горкага. У Латвію вярнуўся праз сем гадоў, у 1969 годзе. Ужо ў наступным выйшаў з друку першы зборнік перакладаў паэзіі — выбраная лірыка Лэсі Украінкі «Сястра навальніцы». Там у Мардовіі ў тыя гады было дастаткова кваліфікаваных выкладчыкаў украінскай мовы. У паўтарамільённым латышскім народзе кніга паэзіі накладам восем тысяч асобнікаў разышлася імгненна і набыла розгалас, хоць датычылася яна жыцця*

*на пераломе стагоддзяў іншага, пазбаўленага дзяржаўнасці народа. Потым былі іншыя кнігі, з шматлікіх іншых моваў (...)».*

«Кнутс мае шмат кніг, і кожная — як асобная споведзь-пакута, хоць пакутаваць павінен не ён, а тыя, хто перад ім вінаваты. Ён быў рэабілітаваны яшчэ ў часы савецкай ўлады, за некалькі гадоў да аднаўлення незалежнасці Латвійскай Рэспублікі, калі ніхто не меў сумневу, што вось-вось нешта адбудзецца. Яго рэакцыя была гэткай жа іранічнай, як і большасць яго вершаў: «*Хвала Богу, цяпер, калі мяне зноў будуць садзіць за чытанне Энцыклапедыі «Брытаніка», я зноў буду злачынцам-пачаткоўцам, а не рэцыдывістам...*» — напісаў пра Скуенекса ў пасляслоўі да украінскага выдання вершаў у кнізе «*Насіння в снігу*»* перакладчык Юрый Завгародній.

## Мужчына са спушчанымі нагавіцамі (урок архітэктуры)

Кнутс мае ўласнае бачанне архітэктуры. Ён (быццам Індыяна Джонс у мінулыя часы — за парог сённяшняга дня) пасылае мяне ў непадманную рэальнасць на знаёмства з трыма гандлёвымі павільёнамі за чыгуначным вакзалам. Яны былі ўзведзены ў часы першай Сусветнай вайны.

— Гэта другі ў свеце па памерах крыты рынак (пасля Лос-Анжэлеса), што захаваўся ў нязмененым выглядзе. — Пераконвае ён мяне.

Іншая справа з «сіласнай вежай» — пазбаўленым абаяльнасці хмарачосам у цэнтры горада, падараваным Рызе Сталіным. Калісьці гэта быў афіцыйны «Палац калгасніка», а сёння там размяшчаецца Акадэмія Навук. Каржакаваты, прысадзісты, ён нагадвае будоўлю дашкольніка з кубікаў.

Такая архітэктура — яна як мужчына са спушчанымі нагавіцамі, — смеючыся цытуе заўвагу пані Катажыны

---

* Насенне ў снезе. Кіеў: Украінскый пысмэннык, 1994. — *Заўв. аўт.*



Сухадольскай, прадстаўнічкі дэлегацыі літаратараў са Шчэціна, якая калісьці гасціла ў Рызе.

## Кнутс і Інта

— Інта (з Алюкснэ, дзявочае прозвішча Бэйэрэ) працавала ў навуцы, прымала ўдзел у даследчых экспедыцыях на Сахалін, паходзіць з сям'і вядомых у Латвіі батанікаў. — Кажа Кнутс, калі мы шпацыруем па садзе, і паказвае чырвоны арэх. — Расліны, дрэвы гэта яе захапленне. А прафесія толькі на другім месцы.

Жыццё «*зэка*» звязана з лыжкай. Хто яе згубіць, той памрэ. Таму кожны носіць яе ў кішэні ля сэрца, — усміхаецца збянтэжана, як юнак, — жанчыны, гэта пасля лыжкі. У лагеры праз два тыдні забываеш пра калючы дрот і ізаляванасць, гэта цалкам асобны свет, ён запаўняе ўсяго чалавека.

Неяк сядзім увечары, спяваем. З вышкі назірае за намі вартавы з карабінам, калі што, вядома, будзе страляць. Я яго паклікаў: «Хадзі да нас, будзе весялей!» — «Мне гэта да дупы». — Адказаў ён, і апісаў рукою круг, паказаў лагер і ўсё астатняе. Можа і прыйшоў бы, але навошта, за палітычных даюць халерна вялікія прысуды.

— Там былі і нашы хлопцы. — Дадае Інта. — Калі прыбываеш у лагер, абшукваюць. Засунуў мне руку пад спадніцу, і... «што гэта?» — кажа, і выцягвае цыгарэты. — «О, нашы, латышскія!».

Калі я слухаю Кнутса і Інту, мне прыходзіць у галаву гімн Латвіі. — «*Божа, дабраславі Латвію, нашу дарагую Айчыну (...). Дзе цвітуць латышскія дочкі, дзе спяваюць латышскія сыны, дай нам шчасліва танцаваць у нашай Латвіі!*».

## Што значыць быць латышом?

«*...Нялёгка, але, калі б быў глыбока веруючым, то сваю ранішнюю малітву пачынаў бы з падзякі Богу за тое,*

*што стварыў мяне прадстаўніком малога, а не вялікага народу. Гэта па прычыне шматлікіх фактараў перашкаджае майму фізічнаму існаванню, але і вымушае нашмат глыбей і паўней задумвацца не толькі над лёсам свайго народу, яго болем, але і над яго аднаўленнем. І той боль, калі ў ім не замыкацца, не рабіць галоўным прынцыпам — становіцца ажывальным. Для людзей і нацыі. Уласны боль робіць чалавека асабліва адчувальным да болю чужога, гатовым да разумення і размовы. З іншай нацыяй, але не з дэнацыяналізаванымі элементамі. З імі мне немагчыма кантактаваць*... («*Насенне ў снезе*, гл. выш.).

Гэта доказ, як вельмі проста, зусім па-старасвецку (нягледзячы на тэхнічны прагрэс і розныя змены), Кнутс разумее ролю пісьменніка — для яго гэта адказнасць перад чалавекам і нацыяй, абавязак узвысіць голас пры важных справах.

## Свет прэзідэнтаў — лекцыя пакоры

— Тэлебачанне часта паказвае спатканне прэзідэнтаў — добра, што ўрэшце яны пачалі сур'ёзна гутарыць. Апошняя з нарадаў мела месца ў Вільні 23 траўня, ажно слёзы ліліся з вачэй, так смешна гэта выглядала. Сталі ў шарэнгу, і чым меншую краіну хтосьці прадстаўляў, тым магутней былі паставы. Мы былі наверсе, самым высокім аказаўся, натуральна наш — латышскі.

Я памятаю, як у 1999 годзе выбралі Вайру Вікэ-Фрэйбэргу, нашу пані прэзідэнта...

Я быў на банкеце ў Варшаве ў час міжнароднага Кангрэсу ПЭН-клуба. Гарэлка, можна сказаць, запазычыўшы вызначэнне з расейскай, цякла шырокім струменем. Раптам як фокуснік, цыркавы штукар, які выцягвае з капелюша труса, мой суразмоўца, Адам Міхнік, невядома адкуль начараваў прэзідэнта Квасьнеўскага. Размаўлялі па-польску.

— Ці выбралі ўжо прэзідэнта Латвіі? — Спытаў ён.



— Перапрашаю, — адказаў я, — але мы павінны трохі пачакаць.

«*Латвія ўсё яшчэ без прэзідэнта»,* — прачытаў я ў гатэлі ў «Вячэрнім экспрэсе». Наступным днём нас усе віншавалі: «*Вікэ-Фрэйбэрга*», — крычалі загалоўкі газет, а з першай паласы глядзелі яе партрэты. Я яе ведаў, меў з ёю добрыя стасункі і цаніў як псіхолага і адмыслоўца па фальклоры.

## Цюк, стук...

— У шэсцьдзясят трэцім у лагеры я зноў пачаў пісаць. У шэсцьдзясят пятым у Злучаных Штатах памёр мой бацька, а тут, у Латвіі — дзед, які мяне выхаваў. Сухія кіёчкі нанова далі аб сабе знаць, пачалі стукаць: цюк, стук...

Я вяртаюся з лагера і пачынаюць з'яўляцца мае першыя публікацыі, у сямідзясятым годзе безвынікова спрабую падаць у выдавецтва кніжачку вершаў. У семдзесят другім годзе мяне як перакладчыка прымаюць у Саюз Пісьменнікаў. У выглядзе кніжак выходзяць чарговыя пераклады (у Інтэрнэце можна прачытаць, што Кнутс перакладае з пятнаццаці моваў). У семдзесят пятым іх заўважыў сакратар камуністычнай партыі Латвіі. Толькі ў семдзесят восьмым, а фактычна ж годам пазней, выходзіць першая аўтарская кніжка, якую я чакаў дзевяць гадоў. У восемдзесят чацвёртым з'яўляецца «*Яблынька*» — польскія народныя песні, годам пазней выходзіць прысвечаны фальклору Латвіі польскі часопіс «Літаратура людова», з артыкулам будучай пані прэзідэнта Вайры Вікэ-Фрэйбэргі, у восемдзесят шостым жа, на пяцідзясятую гадавіну з дня нараджэння, дзве кніжкі: «*Лірыка і галасы*» і яшчэ томік любоўнай лірыкі «*Загарні ў белую хустку*». І першае замежнае падарожжа на сімпозіум у Празе. У восемдзесят сёмым той жа самы афіцыйны орган, які выносіў мне перасцярогу ў семдзесят пятым, выносіць мне хвалу і дае першую прэмію за пераклады літоўскіх народных песень. А ў восемдзесят дзявятым падарожжа: Нямеччына, Галандыя, Бельгія, Францыя...і ў час запісу на радыё «Свабодная Еўропа» атрымоўваю вестку з Масквы

пра маю рэабілітацыю — як у чорнай камедыі. Уступаю ў эміграцыйны ПЭН-клуб, і… зноў паралельна — атрымоўваю медаль Заслужанага Дзеяча Культуры Латвійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мае лагерныя вершы «Насенне ў снезе» выходзяць толькі ў дзевяностым у Латвіі і Швецыі. І нарэшце 21 жніўня 1991 года, дзень, у які Латвія вярнула незалежнасць…

### Здымак з Шымборскай

— Ордэн Ізабелы Каталіцкай дае мне права на заморскія тэрыторыі і тубыльскія народы, гэта звычайна выклікае ўсмешкі на тварах маіх гасцей. — Кнутс робіць забаўную міну. — Кавалерамі гэтай узнагароды былі Васка да Гама і Хрыстафор Калумб…

Гэтых прэмій, віншавальных лістоў ад каранаваных галоў, узнагародаў, ганаровых тытулаў назбіралася шмат. — Паказвае рукою ўверх, у кірунку антрэсолі, забітай кнігамі. — Я адзіны з замежнікаў ганаровы члец Саюза Пісьменнікаў Летувы. Калісці, пры жыцці Чэслава Мілаша, гэты гонар дзялілі з ім. У 1997 годзе я быў у Кракаве, там мы маглі трохі пагутарыць, засядзецца. Я тады выступаў разам з польскімі пісьменнікамі Уршуляй Казёл, Юліяй Гартвіг, Рышардам Крыніцкім, Адамам Загаеўскім, Янам Каплінскім, Томасам Венцловам*, — выцягвае польскую газету з артыкулам, паказвае здымак з Віславаю Шымборскай.

«Газета Выборча» пісала ў той час, цытуючы яго словы: «*У Кракаве арганізавана сустрэча паэтаў, і гэта вельмі добрая ідэя. Для мяне гэта нагода аднавіць кантакты з польскімі і замежнымі паэтамі, якія апошнім часам трохі аслаблі. Яшчэ сёлета ў нас выйдзе шырокі выбар вершаў Віславы Шымборскай, а ў будучым мы збіраемся выдаць кнігу Чэслава Мілаша*» («Gazeta Wyborcza» ў Кракаве, 26 верасня 1997, «*Паэты Усходу і Захаду*»).

---

* Яаан Капліцкі меў маці эстонку і бацьку паляка, Томас жа Венцлова — летувіс. — *Заўв. аўт.*



### Маскальня

Каб трапіць у яго дом, патрэбна цэлае падарожжа. Гутарка нават не пра дыстанцыю, мераную кіламетрамі. Гэта дыстанцыя выніку ўбеглага часу, спосабу мыслення, які складаецца са стэрэатыпаў, перакананняў, уяўленняў. Усё пачынаецца з Рыгі. Стары горад, брукаваныя, вузкія вулічкі, пахілыя камяніцы, над галавою ў рытуальным танцы гайдаюцца чайкі… Высокая гадзіннікавая вежа на чыгуначным вакзале пазірае на чатыры бакі свету. Яна нагадвае статую паганскага бажка.

Адсюль маршруткай можна дабрацца да Саласпілса.

На аўтобусным прыпынку пануе расейская мова — маладыя людзі ў чорнай вопратцы галасна дэманструюць сваю інакшасць. Для іх бацькоў час спыніўся на месцы, мае толькі адно вымярэнне — мінулае. Зменаў да ведама не прымае. Тыя новыя паселішчы, што атачаюць Рыгу, пабудаваны з думакай пра іх, фанатычных камсамольцаў і камуністаў, якія прыбылі сюды навяртаць свет у іншую веру. Жыццё выправіла іх чаканні, але свае ідэалы яны здолелі прышчапіць дзецям.

Едзем, абмінаючы дарожныя машыны, што ўкладваюць асфальт — паралельна будуецца другая паласа, неўзабаве тут будзе хуткасная дарога.

Недзе ўбаку застаецца лагер, там у 1940 годзе расейцы трымалі латышоў, пазней расейцаў і яўрэяў забівалі немцы, потым ход падзеяў вярнуўся, прыйшоў час забойстваў сталінскіх. Саветы не маглі дараваць латышам, што яны сталі на нямецкі бок, не маглі забыць Латышскі легіён, які змагаўся ў складзе шостай Арміі Вафэн-СС.

Латышы таксама маюць свой рахунак крыўдаў — яны памятаюць пра салдатаў, у адплату забраных у Савецкую Армію, з якіх утварылі 43 і 208 дывізіі Латышскіх стралкоў. Гэта іх Саветы ўжылі ў братазабойчай барацьбе.

Маршрутка з'язджае з кальцавой дарогі, там на прыпынку, у катэджным раёне мяне чакае Кнутс.

## За здароўе чароўных пань

*«Парог дома Скуенекса ў Саласпілсе я пераступіла ў лістападзе 2007 года. Такія спатканні застаюцца ў памяці надоўга. Кнутс — гэта ўвасабленне сардэчнасці і адкрытасці, яго атачае ўнікальная энергія.*

*Дом рабіў уражанне няскончанага, нібыта час затрымаўся ў 1962 годзе, калі ён быў засуджаны на 7 гадоў катаргі ў лагеры. Мяне адразу павялі па памяшканнях, я пачула гісторыі, звязаныя з рознымі прадметамі. Найбольш увагі ў тых яго аповедах атрымала бібліятэка, дзе шмат гадоў збіраліся кнігі па еўрапейскаму фальклору. Гэта самая вялікая калекцыя такога тыпу ў Латвіі. Увесь час нас суправаджала «паўнапраўная жыхарка дома»(так пра яе кажа Скуенекс) — такса Зара.*

*Я нават не задавала пытанняў…*

*Скуенекс распавядаў пра дзяцінства, пра лагер, вяртанне ў Латвію пасля няволі. Рабіў гэта з выключным пачуццём гумару, іранічна ставячыся да сваіх трагічных выпрабаванняў. Не шкадаваў сябе. Увесь час падкрэсліваў, што ўсе тыя яго асабістыя цяжкія спазнанні былі таксама доляй шматлікіх ягоных суайчыннікаў. Я не адчула ў яго голасе і ценю ганарлівасці. Хоць асэнсоўвала, што ў ім ёсць нешта выключнае. Памятаю я хвіліну, калі ён прамовіў тост. «Кавалер п'е за здароўе чароўных пань!» Па-польску, чыста, толькі з ледзь адчувальным акцэнтам».* — Так узгадвае першы візіт да Кнутса Юстына Спыхальска, перакладчыца, якая рыхтавала польскае выданне яго вершаў.

Мой візіт у дом Скуенексаў прыпаў на латышскае свята Вечнасці, якое заўжды адбываецца ў апошнюю нядзелю перад адвэнтам, калі традыцыйна адведваюць могілкі. Кнутс і Інта прапанавалі мне сумесны візіт на магілы латвійскіх паэтаў і пісьменнікаў на самым вялікім цвінтары Рыгі — «Брацкіх могілках». Кнутс шэптам распавядаў мне пра іх лёсы, маляваў гісторыі, звязаныя з іх жыццём. Апускаўся змрок, латвійскія цвінтары не маюць асвятлення, і цемра выяўляла тысячы палымнеючых свечак, якія былі не ў стане асвятліць ні надмагілляў, ні дарогі…



## Паштоўка

«*Рэжымы прыходзяць і знікаюць у бяспамяцтве, а паэзія жыве вечна*». — Такое сцверджанне размясціў украінскі выдавец на вокладцы кнігі Скуенекса.

Хацелася б у гэта верыць, але не магу, яно выклікае мой супраціў — думаю я, калі на чыгуначным вакзале кідаю ў паштовую скрынку паштоўку з вітаннямі з Саласпілса.

Гэта толькі нічым не абгрунтаваны лішак веры ў чалавека, занадта шмат разважлівай згоды з недасканаласцю свету.

Але… што застаецца яшчэ?

## КРОЎ І ПОПЕЛ ДРАЖНА

*— Усё, што са мной здарылася, адбылося паводле найгоршага сцэнарыя з 1937 года. Спачатку з'явіўся артыкул у беларускай вайсковай газеце, у выніку я быў затрыманы і на падставе таго ж артыкула, які нагадваў варты жалю тэкст сямідзесяцігадовай даўніны пра антысавецкую агітацыю і прапаганду, засуджаны.* — Адразу пасля вызвалення з-пад арышту, 30 траўня 2008 года, паведаміў журналістам БелПАН Віктар Хурсік, аўтар і выдавец кнігі «*Кроў і попел Дражна*».

— Мяне, чалавека апалітычнага, спрабуюць абвінаваціць халера ведае ў чым, зацiскаюць у шэрагі дысідэнтаў, апазіцыянераў і могілкавых гіенаў.

### Гісторыя вёскі Дражна, або справа пра разню

Падзеі, апісаныя ў кнізе *«Кроў і попел Дражна»* адбыліся шэсцьдзясят пяць гадоў таму. 14 красавіка 1943 года вёска Дражна была атакавана савецкімі партызанамі з аддзелу 2-й Мінскай партызанскай брыгады, якой камандаваў «*камбрыг*» Сяргей Іваноў. Аднак жа нападзенне партызанаў на ўмацаваны гарнізон беларускіх паліцыянтаў закончылася няўдачай. У якасці помсты яны спалілі вёску і перабілі яе жыхароў. Выканаў тую крывавую работу (згодна з загадам №35, падпісаным Івановым) 5-ы атрад імя Кутузава, які ўваходзіў у склад брыгады і якім кіраваў Ізраэль Абрамавіч Лапідус. Тады загінулі дваццаць пяць жыхароў вёскі, у большасці кабеты і дзеці, спалена было трыццаць сем дамоў. Сведкі, якія выратаваліся ад разні, маўчалі. У Беларусі не было выключэнняў з правіла, паводле якога за ўсе ваенныя злачынствы адказваюць немцы. Нішто і ніхто не можа зменшыць бязмернасці ні тых трагедыяў, ні



памераў забойстваў, за якімі стаялі гітлераўскія жаўнеры, гэта відавочная і бясспрэчная ісціна для кожнага чалавека са здаровым розумам. І таму аспрэчванне фактаў недапушчальна. А ўсіх, хто часткова раскрывае праўду, і агаляе міф пра савецкага салдата як абаронцы цывільнага насельніцтва і вызваліцеля, належыць лічыць ворагамі народа. Гэты міф, у якім савецкі партызан з'яўляецца «народным мсціўцам», сімвалам барацьбы народа з фашызмам, пасля ўсімі сродкамі ўзмацняўся прапагандаю. «*У Беларусі, хочаш-не хочаш, не даюць забыцца пра вайну. Што яшчэ горш — гэта не толькі сведчанне памяці аб трагедыі, але і палітычны інструмент уладаў. Гэтая краіна ўжо шэсцьдзясят гадоў жыве з пасляваеннай свядомасцю, дзе самай вялікай каштоўнасцю з'яўляецца тое, што выжылі, а сям'я не памірае з голаду. І якая розніца, хто кіруе?*» (Марыюс Івашкевічус, «*Сармацкія краявіды*», Чарна 2006).

### Сведчанне ўдзельніка тых падзеяў

Віктар Хурсік адсылае мяне да «Камсамольскай праўды ў Беларусі» (28 верасня 2007, аўтар Яўген Валошын), якая апублікавала апісанне тых падзеяў: «*А чацвёртай раніцы нас пабудзілі стрэлы. Маці крычала: «Дзеці, гарым!». Голымі мы выскачылі на падворак, бачым: усе хаты палыхаюць, стрэлы, крыкі… Мы пабеглі ратавацца ў сад, а мама вярнулася ў дом, хацела штосьці вынесці. Саламяны дах хаты ўжо гарэў. Я не рухаючыся ляжаў, мама доўга не вярталася. Я павярнуўся, а яе ўдзесяцёх, былі нават кабеты, колюць штыкамі, крычаць: «На, фашысцкая сволач!». Я бачыў, як перарэзалі яе горла. (...) Каця, мая сястра, выскачыла, просіць:»Не страляйце!». Выцягнула камсамольскі білет. Перад вайною была піянерважатай, перакананай камуністкай. Партыйны білет бацькі, зашыты у паліто, падчас акупацыі насіла з сабою. Нягледзячы на гэта высокі партызан у скураных ботах і мундзіры пачаў у Кацю меціцца. Я крычаў: «Дзядзечка, не забівай маёй сястры!» Але прагучаў стрэл. Паліто сястры*

*адразу набрыняла крывёю. Яна памерла на маіх руках. Я назаўжды запамятаў твар забойцы».* — Гэта прызнанне васьмідзесяцігадовага Мікалая Іванавіча Пятроўскага (сына камуніста, кіраўніка вясковага кааператыву. — Заўв. аўт.), удзельніка тых здарэнняў. Лёс дазволіў яму выжыць, ён адзіны сведка тых забойстваў. Перш, чым трапіў у рэдакцыю газеты «Звязда», амаль шэсцьдзясят гадоў шукаў справядлівасці. Яго словы адназначныя: «*Партызаны ж, якія забілі сваіх супляменнікаў, сталі героямі. Гэта трагедыя, страшнейшая за Хатынь*».

## Камбрыг» Іваноў

Тактыка «спаленай зямлі» была сфармулявана Сталіным 3 ліпеня 1941 года і паўнамаштабна ўжывалася ў час бітвы за Маскву. Для спальвання вёсак «*у імя перамогі або з мэтаю пакарання*» (часам разам з іх насельнікамі, якія не мелі «класавай свядомасці» і спрабавалі ратаваць свой набытак) у нямецкія тылы накіроўвалі адмыслова падрыхтаваныя дыверсійныя групы і савецкіх партызанаў. Вёска Дражна стала такім прыкладам. Здзіўляе толькі ацэнка эфектыўнасці партызанскай дзейнасці. У вёсцы абаранялася 79 паліцэйскіх (з іх 15 мясцовых), паводле захаваўшыхся данясенняў ніводзін з іх не загінуў, не ўдалося атакуючым захапіць ніводнага апорнага пункта, нягледзячы на тое, што яны праніклі між будынкамі. На гэтым фоне здаецца незразумелым размешчаны ў кнізе «*Кроў і попел Дражна*» рапарт камбрыга Іванова: *«...бой скончыўся поспехам. Сваю задачу мы выканалі, гарнізон, за выключэннем пяці бункераў, у якія ўвайсці не ўдалося, цалкам разгромлены, рэшта паліцыі знішчана, забітых і задушаных дымам налічваецца 217 сволачаў...* (Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь, акт №42\4057). Можа гэта прагучыць цынічна, але гэтак складзены рапарт ўзбуджае падазрэнне, што цывільныя жыхары вёскі загінулі толькі дзеля таго, каб партызанскі «*камбрыг*» мог пахваліцца поспехамі сваіх аддзелаў, паказаць іх эфектыўнасць. На пытанні пра Іванова



аўтар кнігі Віктар Хурсік кажа: *«Паходзіць з Ленінграда, калі яго прызначылі камандзірам партызанскай брыгады, меў дваццаць адзін год. Яму не хапала досведу. Быў адным з нешматлікіх партызанскіх кіраўнікоў, якія не атрымалі тытула Героя Савецкага Саюза. Паводле інфармацыі, якую я адшукаў, у 1975 годзе здзейсніў самагубства».*

## Палемічныя галасы

Тэарэтычна, беручы пад увагу колькасць асобнікаў, кніга Віктара Хурсіка *«Кроў і попел Дражна»* павінна застацца незаўважанай. Першае выданне з'явілася ў чэрвені 2003 года ў Мінску накладам 150 асобнікаў, другое, у красавіку 2006 года, налічвала 200 асобнікаў. І аднак кніга выклікала рэзкую дыскусію.

З крытычным эсэ ў абарону абвінавачаных партызанаў выступіў Якаў Басін: «*Адначасова з кнігай Хурсіка ў Мінску выйшла аднаўленае выданне кнігі «Партызанская дружба», якая была забаронена сталінскай цэнзураю ў 1948 годзе. Ёсць у ёй і запіс адносна атрада імені Кутузава. Партызаны таго атрада падарвалі 21 цягнік, на іх рахунку 14 засадаў, знішчаныя паліцэйскія гарнізоны ў Хатлянах, Дашчэнках, Амельна... І ёсць у ёй праўда пра лёс партызанскага камандзіра Ізраэля Лапідуса, напісаная па гарачых слядах, у першыя паваенныя гады».* І ў іншым месцы, каб быць справядлівым, дадае: *«У той дзень загінула 234 калабаранты («сволачы», як іх называюць у сваіх аператыўных аналізах камандзір брыгады Іваноў, камісар Чапаеў і начальнік штаба Цішэнка) (...) былі выпадкі, калі вёскі цалкам станавіліся на службу акупантам».* (*«Навуковы сшытак»* — Актуальныя праблемы вывучэння Халакоста на тэрыторыі Беларусі ў час нямецка-фашысцкай акупацыі, Мінск 2006).

Захавалася таксама і іншая партызанская справаздача пра тыя здарэнні: *«Атрад ім. Чапаева атрымаў загад знішчыць бункеры і склады праціўніка, размешчаныя з усходняга боку гарнізона. Бой цягнуўся 3 гадзіны. (...) Атрад*

*выканаў пастаўленую перад ім задачу: знішчыў бункеры і пранік на вуліцы гарнізона. З-за таго, што паліцыянты вялі агонь з дамоў, тыя дамы былі падпалены. А дзявятай гадзіне па ўмоўнаму сігналу (ракета) аддзелы брыгады пачалі адыход (…). Спалены будынкі, дзе знаходзіліся паліцыянты, знішчаны галоўныя бункеры (…). Страты атрада, забітых і параненых — 13 чалавек».* — Вось фрагмент справаздачы іншага атрада, які ўдзельнічаў у атацы на Дражна, апублікаваны ў зборніку *«Усенародны партызанскі рух у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны»* (Мінск, 1978, т. 2).

## Кніга і палітыка

Доктар гістарычных навук Эмануіл Ёффэ, галоўны апанент Віктара Хурсіка, у цытаваным ужо артыкуле з «Камсамольскай праўды» не ацэньвае факты, а толькі апраўдвае партызанаў: «*Партызаны невінаватыя, яны выконвалі загад зверху (…) Безумоўна, нельга ідэалізоўваць камандзіраў партызанскіх брыгадаў, я не здымаю з іх даказанай віны. Я прыватна гутарыў шмат з якімі камандзірамі, вайна ёсць вайна, у гарачцы барацьбы здаралася ўсё. А загады на знішчэнне ворагаў давала Масква. Да камбрыга Іванова я маю дваякія адносіны. З аднаго боку сумленна выконваў загады, але памылкі робяць усе».*

— Спачатку я не мог паверыць, што партызаны былі здольнымі да падобнага зверства, я ж вучыў гісторыю па савецкіх падручніках, — кажа Віктар Хурсік, калі мы гутарым у пачатку 2008 году ў Мінску, — але ўсе паказанні сведкаў атрымалі пацвярджэнне падчас працы ў архіве. Я мог зрабіць выгляд, што нічога не ведаю. Магчыма, як былы піянер, я паступіў кепска. Але ж, спасылаючыся на прыклад Паўліка Марозава, нас вучылі, што найвышэйшым дабром з'яўляецца праўда.



## Партызанскі тэрор

— Я не бараню беларускіх паліцыянтаў, хачу толькі паказаць, чым вельмі часта быў «партызанскі тэрор». Шмат у каго, змагаючыся ў партызанскіх аддзелах, палеглі родныя. Я не прыніжаю іх гераізму і заслугаў. Але ёсць, асабліва сярод цывільнага насельніцтва, хто без віны гінуў ад рук тых, што называлі сябе партызанамі. — Падчас гутаркі зноў падаюць цяжкія словы, аўтар кнігі «*Кроў і попел Дражна*» яшчэ раз удакладняе сваю пазіцыю ў справе забойстваў 14 красавіка 1943 года.

*«Я ведаю, што калі выйшла кніга, Міністэрства Інфармацыі перадала яе для унутранай рэцэнзіі аўтарытэтным адмыслоўцам. Вучоныя прыйшлі да высновы, што факты, прыведзеныя ў кніжцы, адпавядаюць рэчаіснасці. Я прадбачыў такую рэакцыю. Сваю пазіцыю я лічу дзяржаўніцкай, гэтак жа, як і падыход міністэрства. У нас адзіная мэта — пошук праўды. З палітыкай кніжка «Кроў і попел Дражна» ніякай сувязі не мае».* — Гэта фрагмент выказвання Віктара Хурсіка са згаданага ўжо артыкула для «Камсамольскай праўды».

## Крыж на могілках…

Беларускае таварыства «Мемарыял» 19 красавіка 2008 года вырашыла ўсталяваць на мясцовых могілках крыж з прозвішчамі жыхароў Дражна, забітых савецкімі партызанамі.

— Я знаходзіўся там у нейкім сэнсе выпадкова, — распавёў Віктар Хурсік, — мяне, як даследніка той гісторыі, запрасілі на ўрачыстасць асвячэння крыжа, на якой прысутнічалі таксама і мясцовыя ўлады. Але калі б я і не займаўся тым расстрэлам шасцідзесяціпяцігадовай даўніны, пэўна ўсё роўна там быў бы. Журналіста абавязваюць пэўныя асноўныя правілы, я адчуваю сябе павінным іх трымацца.

## Далейшы працяг

Далейшы працяг гэтай гісторыі я ведаю з незалежных газет, з парталаў Інтэрнэту, з радыётрансляцый — пра яе пісалі падрабязна. 14 траўня Віктар Хурсік быў выкліканы ў райаддзел Старых Дарог (да якіх належыць вёска Дражна), і затрыманы. 15 траўня суддзя Сяргей Епіханаў асудзіў яго да пятнаццаці дзён арышту за ўдзел у «нелегальным сходзе» на могілках. Пакаранне не абмінула і іншых удзельнікаў урачыстасці. Гэтак жа быў асуджаны да арышту і апазіцыйны палітык Вячаслаў Сіўчык. Святара аўтакефальнай праваслаўнай царквы Леаніда Акаловіча за асвячэнне крыжа пакаралі штрафам (эквівалентным, як падала БелаПАН, 400 далярам). Нават мясцовы селянін, які пазычыў рыдлёўку, таксама быў прызнаны вінаватым (штраф, эквівалентны 70 далярам). Крыж быў дэмантаваны і перавезены ў вёску Залужжа, у некалькіх кіламетрах ад Дражна.

— Нягледзячы, што факт расстрэлу задакументаваны, — падсумоўвае нашу гутарку Віктар Хурсік, — і ніхто гэтага не аспрэчвае, гаварыць пра яго нельга. А пры такой інтэрпрэтацыі права кожнае пахаванне можна лічыць нелегальнай маніфестацыяй. Умовы арышту: саракаватная лямпачка гарыць кругласутачна, уначы не дае заснуць, удзень занадта слабая, каб пры ёй можна было чытаць, у камеры цесна, а пра санітарныя ўмовы лепей не казаць…

## Як выдавец

Кнігі на беларускай мове займаюць нязначнае месца на нашым выдавецкім рынку, не ведаю, ці можна гэта ацаніць дакладна, напэўна гэта меней дзесяці адсоткаў. Не падмалёўваючы карцінку, абагульняючы, можа нават з горыччу, я кажу: сярод чытачоў няма зацікаўленасці кнігамі на беларускай мове. І нават калі які-небудзь элемент друкуецца, ён рэдка трапляе на паліцы кнігарняў. — Мы з Віктарам Хурсікам сядзім за столікам у летняй кавярні. — Сістэма размеркавання застаецца пад шчыльным кантролем дзяржавы. Незалежны выдавец можа прадаць кнігі пры пасярэдніцтве пошты, альбо сярод чытачоў бібліятэк. Вярнулася расейская мова. Рынак завалены абы-якой кніжкай з Расеі. Людзі заўважылі, што ніхто не патрабуе ўжывання роднай мовы ва ўстановах, а што прывыклі да расейскай і паслухмянасці перад прадстаўнікамі ўлады, то ў гэтым няма нічога дзіўнага. У гэтай сітуацыі кніжка, выдадзеная па-беларуску накладам у сто асобнікаў мае шанцы акупіцца цягам двух гадоў, калі не зважаць на рост цэн. Падобна, паводле даследаванняў беларускага Інстытута Гэлапа, беларускую мову сёння ўжываюць толькі восем адсоткаў беларусаў. Але і гэтак я гатовы рызыкаваць, толькі калі маю перакананне, што яно таго варта.

## З сайта

*«На сваім сайце вас вітае выдавец кніжак з Мінску Віктар Хурсік. Мая мэта — выданне тых кніжак, якія не могуць быць выдадзены іншымі выдаўцамі. У першую чаргу пра гісторыю і культуру Беларусі».* — Гэта дэкларацыя знаходзіцца на старонцы выдавецтва. (http://publisher-khursik.iatp.by/).

— Сітуацыя дадаткова ўскладнілася пасля ўтварэння моцна залежнага ад палітыкі Саюза Пісьменнікаў Беларусі*, у структурах якога апынуліся працаўнікі ідэалагічнага апарату. Зноў вярнуўся крытэрый «літаратурнай правільнасці». Скончылася пакаленне выбітных пісьменнікаў пасляваенных гадоў, маладым жа пісьменнікам, нават калі іх выдзяляе талент, рэалізавацца ў гэтай сітуацыі цяжка. Але я веру, што як хваля цунамі прыйдзе такое пакаленне новых пісьменнікаў, якім а ні ўлада, а ні выдаўцы не здолеюць заткнуць рот.

Аднак адчыненым застаецца пытанне — як нам будаваць нашу нацыянальную тоеснасць?

---

* Саюз Пісьменнікаў Беларусі быў утвораны 18 лістапада 2005 года. — *Заўв. аўт.*

## Памяць і помнікі

Незалежныя дзяржавы, што паўсталі пасля распаду Савецкага Саюзу, маюць шмат падобных праблемаў. Розныміі з'яўляюцца толькі сістэмныя і пазасістэмныя дзеянні, прынятыя для іх вырашэння. У працэсе пабудовы нацыянальнай тоеснасці кожная з тых дзяржаваў крочыць уласным шляхам. Ёсць, аднак, нешта агульнае, што можна ўгледзець на першы, нават вельмі павярхоўны погляд — слабасць да помнікаў. У Беларусі помнікі, пастаўленыя ахвярам II Сусветнай вайны, можна спаткаць на кожным кроку, у кожным горадзе і мястэчку, у вёсцы, можна атрымаць уражанне, што ўся краіна з'яўляецца музеем, прысвечаным Вялікай Айчыннай вайне. Трэба захоўваць памяць аб палеглых, вызваліцелях, перамогах, нявінных ахвярах расстрэлаў мірнага насельніцтва, геройскіх учынках, спаленых вёсках. Гэта нармальна ў краіне, дзе загінуў кожны чацвёрты жыхар, пакуль жывуць пакаленні, што памятаюць той страшны час.

Шкада толькі, што той памяці, якую сімвалізуе просты крыж, не хапіла для забітых жыхароў з вёскі Дражна.



## ЗМЕСТ

18+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Пэстка** Войцех

**ДА СУСТРЭЧЫ Ў ПЕКЛЕ**

*Ускраінны апакаліпсіс: рэпартажы*

*Пераклад з польскай*


Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алена Спрытніч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 25.09.2020.
Фармат 84×108 1/32. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 9,24. Ул.-выд. арк. 7,09.
Наклад 500 ас. Зак.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.